

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

9 КАСТРЫЧНІКА 1998 Г. № 41/3969 КОШТ 4 000 РУБ.

## КОШ ДЛЯ СМЕЦЦЯ

**Пятро ВАСЮЧЭНКА: "Тое, чаму мы ўсміхаемся як недарэчнасці, дзівацтву, вось-вось гатовае стацца падмуркам новай нацыянальнай ідэалогіі для беларусаў. Яна ўжо варыцца, нібы вядзьмарская поліўка ў сагане, у нечых мазгах. А нішто так хараша не знішчае літаратуру, не скідвае яе ў кош для смецця назаўжды, як змена ідэалогіі".**

**5**

## ВЯРТАННЕ МАСТАЦКАГА ЭПАСУ

**Уладзімір КОНАН пра раман Валянціны КОЎТУН "Крыж міласэрнасці"**

**6—7**

## КАРАБЕЛЬ НАШ ПА ІМЕНІ "ТАЗІК"...

**У рубрыцы "Бліц-крытыка" абмяркоўваецца зборнік твораў сяброў "Бум-бам-літа" "Тазік беларускі".**

**7**

## КАЛЕЙДАСКОП

**Навелы Лідзіі АРАБЕЙ**

**8—9, 12**

## "ЗДАЕЦЦА Ж, БЫЛО ГЭТА ЎЧОРА..."

**Да 20-годдзя Купалаўскага мемарыяльнага запаведніка "Ляўкі"**

**13**

## ХТО ШУКАЕ, ТОЙ ЗНАХОДЗІЦЬ

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ: "...Калі да славутай прарочыцы Вангі звярнуліся з просьбай высветліць, дзе зараз крыж Еўфрасінні, Ванга адказала: "Хай беларусы не турбуюцца. Іхні крыж хутка вернецца". Хацелася б думаць, што "хутка" — гэта пры нашым жыцці".**

**16**





*Павел Пракапцоў, 16 гадоў. "Спакой"*



*Вольга Шчарбакова, 13 гадоў. "Без назвы"*

# Імёны XXI стагоддзя

Сёння на першай старонцы "ЛіМа" — работы зусім юных творцаў, будучых мастакоў, якія, магчыма, будуць прадстаўляць наша мастацтва ў XXI стагоддзі. Гэтыя хлопцы і дзяўчаты, мо нават хлапчукі і дзяўчынкі — жывыя і шчырыя на ўражанні, смелыя і прагныя да эксперыментаў, шануюць і памятаюць нацыянальныя вытокі. Гэта іх работы вельмі ўразілі генеральнага дырэктара ЮНЕСКА Фрэдэрыка Маёра, які адчуў за іх адчайна смелымі кампазіцыямі і нясмелымі дзіцячымі малюнкамі адкрыццё моцнай і невядомай яму мастацкай школы.

Гэтыя хлопчыкі і дзяўчынкі ўдзельнікі выставы стыпендыятаў Спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі, што адкрылася ў Музеі сучаснага мастацтва. У мінулым нумары "ЛіМ" паведамляў пра яе адкрыццё. Выстава выклікала вялікую цікавасць, прыцягнула ўвагу і да юных творцаў і да працы фонду.

Фонд створаны для таго, каб аказваць разавую матэрыяльную дапамогу, выплачваць стыпендыі, закупляць музычныя інструменты, матэрыялы для заняткаў выяўленчым мастацтвам, наладжваць стажыроўкі, забяспечваць удзел творчай моладзі ў выставах, конкурсах, сімпозіумах, накіраваных на ўзаемаўзбагачэнне нацыянальных культур, арганізоўваць фестывалі, канцэрты, выставы твораў стыпендыятаў. Сродкі на ўсё гэта фонд мае з асігнаванняў рэзервовага фонду прэзідэнта, дабрачынных складак грамадзян, арганізацый, прадпрыемстваў. Узначаліў савет фонду прэзідэнт Канфедэрацыі творчых саюзаў і культурных фондаў Беларусі, народны артыст СССР М. Яроменка. У складзе савета — прадстаўнікі Міністэрства культуры, Адміністрацыі прэзідэнта, творчых саюзаў, грамадскіх арганізацый, вядомыя творчыя асобы — народны мастак РБ Г. Вашчанка, заслужаны дзеяч мастацтваў, кампазітар Э. Зарыцкі, народныя артысты РБ М. Захарэвіч і І. Алоўнікаў, дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея У. Пракапцоў і іншыя.

Як распавяла сакратар фонду Ірына Літвін, узрост стыпендыятаў абмяжоўваецца 25 гадамі. Грашовыя дапамогі ў залежнасці ад узросту складаюць да 8 мільёнаў рублёў. Перавага аддаецца тым навучэнцам, якія сталі ўжо лаўрэатамі і дыпламантамі конкурсаў, фестываляў, удзельнікамі пленэраў, майстар-класаў, мастацкіх выстаў. Кандыдатуры прапаноўваюцца абласнымі ўпраўленнямі культуры і камісіямі па працы з таленавітай моладдзю і разглядаюцца на пасяджэннях савета фонду. Многія хлопчыкі і дзяўчынкі сапраўды лаўрэаты розных міжнародных конкурсаў і выстаў і маюць у анатацыях да сваіх работ на выставе вялікі "паслужны спіс"

(Працяг на стар. 2)



*Вольга Цішкова, 17 гадоў. "Аўтапартрэт. Восень"*

## ЛіМ КОЛА ДЗЁН

***Такіх ранніх халадоў даўно не было. Надвор'ю не загадаеш, калі яму быць цёплым, а калі можна і снегам сыпануць. Аднак якім бы надвор'е ні было, жыць трэба...***

***"Капаем бульбу. Паспець бы да маразоў", "Пачалася ўборка цукровых буракоў", "Шампанскае зноў у продажы", "У сталіцы ўключаюць ацяпленне" — гэта толькі некаторыя загалоўкі кароткіх інфармацый з нашага дзяржаўнага друку. Па іх бачна, што мы ў гэтым годзе да ранніх маразоў падрыхтаваліся не вельмі. Хто вінаваты? Зразумела — толькі маразы...***

### ПАВЕЛІЧЭННЕ ТЫДНЯ

З 1 кастрычніка павялічылася мінімальная зарплата і склала 350 тысяч рублёў. Гады два назад гэта былі вялікія грошы. А цяпер...

### СУЦЯШЭННЕ ТЫДНЯ

Па словах прэм'ер-міністра Сяргея Лінга, даўгі нашай краіны па замежных крэдытах складаюць 976 мільёнаў долараў. На думку кіраўніка ўрада, такая запазычанасць дапушчальная, паколькі на душу насельніцтва прыпадае менш за 100 долараў. Называецца суцешыў...

### РАШЭННЕ ТЫДНЯ

У хуткім часе зменіць сваё аблічча аб'яўлены некалькі гадоў назад помнікам прыроды рэспубліканскага значэння палацава-паркавы комплекс у вёсцы Залессе Смаргонскага раёна, дзе жыў і тварыў кампазітар Міхал Агінскі. Рашэннем Гродзенскага аблвыканкама зацверджана праграма аднаўлення таксама і іншых старадаўніх паркаў, разлічаная на 1999—2000 гады. Сярод іх — замкава-паркавы і палацава-паркавы комплексы каля г.п. Мір Карэліцкага раёна, сядзібна-паркавыя комплексы ў вёсках Больцінкі Воранаўскага і Краскі Ваўкавыскага, садова-паркавы і палацава-паркавы комплекс "Уселюб" і "Шчорсы" Навагрудскага раёнаў і іншыя. Паболей бы такіх рашэнняў!

### АПЫТАННЕ ТЫДНЯ

Сацыялагічная служба "Зеркало" інфармацыйнай кампаніі БелаПАН 600 мінчанам ва ўзросце ад 18 гадоў і старэй прапанавала пытанне: "Як асабіста вы ставіцеся да магчымага аб'яднання Беларусі з Расіяй?" Вынікі наступныя: 31% апытаных не падтрымлівае аб'яднанне Беларусі з Расіяй; 32% падтрымліваюць часткова, а цалкам — толькі 13% апытаных. Кожны чацвёрты рэспандэнт (25%) не змог адказаць на прапанаванае пытанне. На пытанне "Якое аб'яднанне, у якім выглядзе вы падтрымліваеце або хацелі б бачыць?" 36% апытаных адказалі, што падтрымліваюць "эканамічнае супрацоўніцтва". За поўнае зліццё, "як было пры СССР" выступілі толькі 9% апытаных мінчан. Нямнога. Але ўсё ж думаецца, што гэтыя людзі, якія падтрымліваюць аб'яднанне Беларусі з Расіяй у адну дзяржаву, ці то зусім не глядзяць тэлебачанне пра тое, як жывуць нашы суседзі, ці для іх чым будзе горай нам усім, тым будзе лепш?

### БУДАЎНІЦТВА ТЫДНЯ

На праспекце Машэрава нашай сталіцы ў раёне Акадэміі фізічнага выхавання і спорту закладзены першы камень у будаўніцтва "Алімпійскай вёскі". Ідэя стварэння спецыяльнага жылога комплексу для нашых алімпійцаў узнікла падчас Алімпіяды ў Нагана. І сапраўды, чым мы горшыя за некага? Вось возьмем і арганізуем Алімпіскія гульні краін СНД і Балтыі. Былі б грошы...

### ЗАСНАВАННЕ ТЫДНЯ

Арганізацыя "Детский медиасервис", Адміністрацыя Прэзідэнта і Кіраўніцтва справамі Прэзідэнта РБ сталі заснавальнікамі новай тэлекампаніі "Дестский ТВ канал". Мяркуецца, што гэта канал пачне сваю працу ўжо ў лістападзе і будзе трансліраваць па 12 гадзін у суткі інфармацыйныя, музычныя, а таксама забаўляльныя праграмы для падлеткаў. Хочацца спадзявацца, што на гэтым канале будзе хоць на 50% гучаць беларуская мова.

### ВАЯЖ ТЫДНЯ

У Вашынгтоне пачаў работу штогадовы сумесны сход Міжнароднага валютнага фонду і Сусветнага банка. Удзельнічае ў гэтым форуме і беларуская дэлегацыя, якую ўзначальвае віцэ-прэм'ер Генадзь Навіцкі. Як вядома, адносіны беларускіх уладаў з міжнароднымі фінансавымі арганізацыямі няпростыя, аднак, калі дэлегацыя паехала, відаць, яна на нешта спадзяецца. Наперадзе ж зіма...

### НАМЕР ТЫДНЯ

Генадзь Карпенка, які з'яўляецца кіраўніком Нацыянальнага выканаўчага камітэта (ценявога ўрада), мае намер прапанаваць прэзідэнту РБ Аляксандру Лукашэнку сустрэцца з апазіцыяй, каб разам абмеркаваць шляхі выхаду з эканамічнага крызісу. Афіцыйны спіс прапаноў рыхтуецца і хутка будзе перададзены ў прэзідэнцкую адміністрацыю. Але гэта пакуль што толькі намер...

### СПЕКТАКЛЬ ТЫДНЯ

Купалаўскі тэатр сталіцы свой 79-ты тэатральны сезон пачаў "Князем Вітаўтам", чым парушыў сваю традыцыю адкрываць сезон "Паўлінкай", якая будзе падвергнута сур'ёзнай "пластычнай аперацыі". "Паўлінцы" вырашана адвесці ролю своеасаблівага нацыянальнага сувеніра з адпаведнымі касцюмамі і рэквізітам. Абноўлены спектакль плануецца нават уключаць у экскурсійныя праграмы для іншаземцаў. У гэтай задуме, як кажуць, нешта ёсць.

### ФЕСТЫВАЛЬ ТЫДНЯ

У Брэсце прайшоў трэці міжнародны тэатральны фестываль "Белая вежа", у якім удзельнічалі калектывы з Беларусі, Украіны, Расіі, Польшчы, Германіі, Літвы, а таксама артысты з Італіі, Бразіліі і Турцыі.

Спецыяльнымі прызамі ўзнагароджаны калектыў Брэсцкага тэатра лялек за пастаноўку спектакля "Сіняя птушка" і Тэатр харэаграфіі з Бона за пастаноўку "Яблычных гульняў". Прыз за лепшую ролю сярод лялечнікаў атрымала актрыса Луцкага тэатар лялек Ларыса Гарлінская. Лепшай драматычнай актрысай фестывалю названа брэстаўчанка Алена Ягорава, а лепшым драматычным артыстам — кіяўлянін Віталь Лінецкі. Войцэх Камбжынскі з Беластоцкага тэатра лялек быў прызнаны лепшым рэжысёрам. Гран-пры — Белую вежу (праца мастака М. Кузьміча) і брэсцкія дываны павезлі дадому артысты Мінскага акадэмічнага тэатра імя М. Горкага за спектакль "Ваўкі і авечкі" і Віцебскага тэатра "Лялька" за "Чароўную зброю Кендзо".

БРАВА!

# Турнір майстроў

Заўсёднікі сталічнай філармоніі збіраліся 1 кастрычніка наведацца на першы канцэрт новага сезона і ўяўлялі, як усё будзе. Афіцыйна, урачыста. Годна. У коле тых, каго даўно не бачыў і з кім прыемна добрым слоўкам перакінуцца.

І насамрэч, адкрыццё сезона, традыцыйна прымеркаванае да Міжнароднага дня музыкі, атрымалася ўрачыстым, па-мастацку годным, адзначаным увагай БТ (запіс па трансляцыі быў паказаны той жа ноччу, праўда, без другога аддзялення канцэртнай праграмы). Насамрэч, прыйшлі многія з тых, каго бачыш рэдка. Дый добрыя сябры-знаёмцы маглі ў той вечар так і не спаткацца. Хто ж сабе ўяўляў, што сімфанічны канцэрт у Вялікай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі выкліча такі аншлаг! Каб не сказаць ажыятаж, калі нават шаноўныя дзеячы айчыннай музычнай культуры будуць вымушаныя шукаць прытулку на галёрцы, дзе дазволена слухаць стоячы. Калі хтосьці, не спадобіўшыся запрашэння, палічыць за лепшае не выпрабоўваць свой лёс безбілетніка, здаволіцца тэлепаказам...

Апынуўшыся ў розных кутках залы ці нават па розныя бакі экрана, меламаны ды мелазнаўцы ўсё ж перакінуліся слоўкам — перамовіўшыся пасля па тэлефоне. Няцяжка ўявіць прыўзнятую, захопленую палемічную гаворку, прадметам якой стаўся турнір майстроў.

Так, праграма канцэрта адмысловым чынам паяднала сапраўдных рыцараў Музыкі. Яны не змагаліся адно з адным. Яны спаборнічалі так, як могуць спаборнічаць мудры досвед і маладое натхненне, шаноўная традыцыя і дзёрзкая мроя, аксіёма і парадокс, добрае і лепшае, — адцэньваючы-



дапаўняючы адно аднаго.

Новы аркестравы твор Уладзіміра Дарохіна "Sempre Maggiore (Alliluja)" (упершыню выконваўся сёлетняй зімой у праграме з'езда беларускіх кампазітараў) прагучаў як сонечны выклік апакаліптычным настроям, якімі працята музыка большасці ягоных калег — і маладзейшых, і равеснікаў. Непераможная радасць жыцця, заўсёдны мажор узнёслага духу, хвала стваральніку Сусвету! Апанаваны досыць нязвыклай для сённяшняга дня мастацкай ідэяй, У. Дарохін з віртуозным майстэрствам абмінуў спакусліўся "эмацыянальных хмурынкі", амаль пазбегнуўшы ў партытуры мінорных сугуччаў.

Потым быў Моцарт, 14-ты Фартэпіянны канцэрт. Музыка светлага генія, пераствораная светлым талентам Іосіфа Сяргея — маладога піяніста, чыё майстэрства пазначана высокім прафесіяналізмам і духоўнай сталасцю.

І, нарэшце, — Чайкоўскі, рэдкая ў сімфанічных праграмах старонка ягонай спадчыны: "Манфрэд". Самая "не-чайкоўская" з ягоных сімфоній. Казалі потым, што менавіта гэткі, "байранаўскі" Чайкоўскі адмыслова пасуе творчаму тэмпераменту маэстра Генадзя Праваторава.

Новы галоўны дырыжор Акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі Генадзь Праватораў разам з натхнёнымі музыкантамі годна даказалі ў гэты вечар сваю аддановасць, сваё самазабыўнае рыцарскае слугаванне Музыцы.

Заўсёднікі сталічнай філармоніі, згадваючы першы сімфанічны канцэрт сезона, не хаваюць эмоцый, то спрачаюцца, то гаворыць ва унісон і — чакаюць новых музычных турніраў, на якіх добрае спаборнічае з лепшым...

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*На здымку: народны артыст Расіі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Г. Праватораў і лаўрэат міжнародных конкурсаў І. Сяргей.*

*Фота К. ДРОБАВА*

ДРУК

# "Любіць прызначана... лёсам"

З шэрагу правінцыйных выданняў — не зместам, зразумела, а геаграфічнай прывязанасцю — гэтая кніга вылучаецца ва ўсіх адносінах. Па-першае, да выхаду яе спрычыніліся як на раёне, так і ў сталіцы. Па-другое, тэматычна яна складаецца з твораў, у якіх у той ці іншай ступені гучыць любоў да "малой радзімы", да краявіду, блізкіх паэту з маленства, да людзей, якія там жывуць. А па-трэцяе, што ўсё ж самае галоўнае — прывабліва асоба аўтара. Ды аб усім па парадку...

Дзякуючы Таварыству з абмежаванай адказнасцю "Красіка-прынт" пабачыла свет кніга вершаў Алеся Пісьмянкова "Жураўель над студняй". Рэдактарам зборніка з'яўляецца дырэктар Горацкага гісторыка-этнаграфічнага музея Уладзімір Ліўшыц, рэдактарам — паэт-парадыст Анатоль Зэкаў, мастаком — Віктар Сташчанюк, а жыццё рукапісу дала Аршанская друкарня.

Ды сёння мала жадання — выдаць кнігу. Неабходны найперш сродкі, а фінансы сёння, як вядома, пяюць рамансы. Ды няма немагчымага для людзей ініцыятыўных. А такім чалавекам і з'яўляецца У. Ліўшыц — гісторык па адукацыі, краязнаўца па прызванні, а ў паўсядзённым жыцці — проста добры, душэўны і шчодры чалавек. Дарэчы, дзякуючы У. Ліўшыцу ў Горках ужо выйшла некалькі кніг, у тым ліку і гісторыка-краязнаўчага зместу.

І вось у яго ўзнікла чарговая задума — выдаць кнігу А. Пісьмянкова. А паколькі паэт родам з Касцюковіцкага раёна (нарадзіўся ў вёсцы Бялынкавічы), дык У. Ліўшыц і пачаў шукаць дабрадзеяў сярод ягоных землякоў. І знайшоў. Прафінансаваць выданне кнігі ўзяліся Касцюковіцкі леспрамгас (дырэктар М. Філіпеня), гандлёвае прадпрыемства "Цэментгандаль" (дырэктар Р. Саўчанка), Касцюковіцкі райспажыўсаюз (дырэктар В. Марозаў). Не застаўся ўбаку і "уласны" Горацкі гісторыка-этнаграфічны музей.

Адкрываецца зборнік уступным артыкулам "У вёсках нашы карані...", аўтарам якога з'яўляецца дырэктар Касцюковіцкага краязнаўчага музея Людміла Агеева. Яна, у прыватнасці, зазначае, што "пра што б ні пісаў Алесь Пісьмянкоў, паэт ніколі не забывае, адкуль ён. Менавіта на касцюковіцкай зямлі, у Прыбяседдзі знаходзіцца тая кастальская крыніца, якая сілкуе і жывіць ягоны талент. Пазнаёміўшыся з вершамі паэта, чытач мае магчымасць зрабіць падарожжа па нашым краі, пазнаёміцца з вёскамі Бялынкавічы, Калодзіва, Белы Камень, Вялікі Бор. Аб гэтым А. Пісьмянкоў піша: "Таму й чытаю назвы вёсак, як загалоўкі мудрых кніг..."

Любоў да "малой зямлі" — у многіх вершах паэта. А гэта любоў — любоў да Бацькаўшчыны, да Беларусі. Яна і ў новых вершах А. Пісьмянкова, і ў творах, што ўвайшлі ў яго ранейшыя кнігі "Белы Камень", "Чытаю зоры", "Планіда" і ў апошнюю па часе напісання са, здавалася б, простай і разам з тым аб'ёмнай назвай — "Вершы". А свайго роду эпіграфам да зборніка можна паставіць гэтыя радкі:

***Любіць высокія аблокі,***
***Ад гора горкую зямлю...***
***Любіць прызначана мне лёсам.***
***Я не памру,***
***пакуль люблю.***

У задумках У. Ліўшыца — выданне і іншых паэтаў, якія нарадзіліся на Магілёўшчыне.

Чаму не пераняць гэты прыклад і ў іншых рэгіёнах Беларусі? Ёсць над чым задумацца. І ёсць чаму павучыцца.

**А. М.**

# Імёны XXI стагоддзя

*(Праця. Пачатак на стар. 1)*

удзельнікаў розных мастацкіх акцый. Напрыклад, Аня Раманоўская, студэнтка Беларускай акадэміі мастацтваў, лаўрэатка першай прэміі міжнароднага конкурсу паштовых марак, прысвечанага дню ліста ў Японіі; Вольга Шчарбакова, навучэнка дзіцячай мастацкай школы ў Клімавічах, — дыпламант міжнароднага конкурсу дзіцячага малюнка ў Германіі; Уля Лук'яненка, навучэнка Рэспубліканскага каледжа мастацтваў, мае ўжо 5 персанальных выставаў; Андрэй Бенядзіктовіч, навучэнец Дзяржынскай школы мастацтваў — дыпламант конкурсу "Іерусаліму — 3000 гадоў", прызёр міжнароднага конкурсу "Бітола-96" (Македонія).

У будучым фонд будзе праводзіць у залах Музея сучаснага мастацтва некалькі выстаў у год, па выніках якіх і будуць вызначаны стыпендыяты (бо дагэтуль стыпендыі выдаваліся завочна, па прадстаўленай характарыстыцы).

Самі сябры фонду ўбачылі работы стыпендыятаў толькі на адкрыцці экспазіцыі. Яна будзе прадстаўляць фонд у абласных цэнтрах Беларусі (прэзентацыя фонду адбылася ў Брэсце, плануецца ў Гародні) і за мяжою. Разам з экспазіцыяй у падарожжа могуць скіравацца і дзіцячыя музычныя калектывы.

Выстава стыпендыятаў фонду аказалася сапраўды цікавай. Цікавай хоць бы тым, што пацвярджае сталенне і пеставанне беларускай мастацкай школы. У многіх удзельнікаў адчуваецца сапраўдны пошук формы і колеру (Т. Кандрацэнка з Мінскай мастацкай вучэльні, Р. Трацюк з дзіцячай мастацкай школы Брэста), пластыкі вырашэння прасторы (О. Станілевіч са Слуцкай дзіцячай мастацкай школы), зварот да класічных вытокаў жывапісу (А. Верасовіч з Гомельскай мастацкай вучэльні, П. Пракапцоў з Рэспубліканскага каледжа мастацтваў), да народнай творчасці (О. Дзенісевіч, выпускніца БДПА).

Якой будзе іх будучыня — наўрад ці возьмецца хто-небудзь вызначаць гэта сёння. Адно відавочна: імёны іх, названыя тут і неназваныя, — гэта імёны наступнага, XXI стагоддзя.

**Н. К.**

*Фота К. ДРОБАВА*

НОВАЕ

# Білет на цягнік у Еўропу

1 кастрычніка ўрачыстым сходам у канферэнц-зале бібліятэкі імя Янкі Купалы распачаўся навучальны год у Беларускім калегіуме. Гэтая навучальная ўстанова ўтварылася ў лістападзе 1997 года з ініцыятывы нацыяльна арыентаваных грамадскіх арганізацый і прыватных асоб. Да рэалізацыі праекта прычыніўся Польскі інстытут у Мінску, выкладчыцкія асяродкі Варшаўскага і Львоўскага універсітэтаў. Беларускі калегіум незалежны ад дзяржавы і, адпаведна, ад дзяржаўнага фінансавання. Гэта форум для правядзення лекцый і дыскусій, інтэлектуальны асяродак, які яднае літаратараў, філосафаў, мастакоў, навукоўцаў і спрыяе дыялогу з творцамі сярэднееўрапейскіх і заходніх краін.

Дзейнасць Беларускага калегіума грунтуецца на прынцыпах навучальнага працэсу і навуковых даследаванняў, што ўжо сцвердзіліся ў заходне- і сярэднееўрапейскай культурніцкай практыцы. Калегіум прапануе бакалаўрскае і магістарскае навучанне па спецыяльнасцях "Філасофія, літаратура", "Журналістыка", "Найноўшая гісторыя"; практычныя заняткі і ўдзел студэнтаў у даследчых праектах, недзяржаўных арганізацый, стажыроўкі ў заходне-і сярэднееўрапейскіх універсітэтах.

Цыклы навучання — тры і чатыры гады. Прымаюцца студэнты старэйшых курсаў гуманітарных спецыяльнасцяў альбо асобы з вышэйшай адукацыяй па выніках сумоўя. У асобных выпадках прымаюцца студэнты малодшых курсаў.

Дыплом калегіума не замяняе сертыфікат аб вышэйшай адукацыі. Лекцыі калегіума з'яўляюцца адкрытымі. Той, хто сістэматычна наведвае лекцыі, рэгіструецца ў якасці вольных слухачоў.

Навучанне па спецыялізацыях ажыццяўляюць Цэнтр Еўрапейскага супрацоўніцтва "ЕўраФорум" — філасофія, літаратура; Беларускі гуманітарны фонд "Наша Ніва", Інстытут Цэнтральна-Ўсходняй Еўропы — найноўшая гісторыя; Беларуская асацыяцыя журналістаў — журналістыка.

Куратары калегіума: Генадзь Грушавы, Васіль Быкаў, Ежы Гедройц (Парыж), айцец Аляксандр Надсан (Лондан).

Навукова-экспертная рада: Анатоль Грыцкевіч, Генадзь Цыхун, Адам Мальдзіс, Мікалай Крукоўскі, Уладзімір Конан, Аляксандр Вашкевіч, Жана Літвіна, Сямён Букчын, Карлас Шэрман, Валянцін Акудовіч, Алесь Анціпенка.

Выканаўчая рада: Алесь Анціпенка, Ігар Бабкоў, Алег Дзярновіч, Вольга Караткевіч, Захар Шыбека.

Заняткі пачаліся 5 кастрычніка.

**НАШ КАР.**

ВЫСТАВЫ

# Мастак і Айчына

У галерэі "Мастацтва" адкрылася выстава "Мастак і айчына" жывапісца Георгія Скрыпнічэнкі. Гэта, як ні дзіўна гучыць, першая персанальная выстава 58-гадовага творцы. Праўда, гады з тры таму галерэя "Жылбел" прадстаўляла выставу замалёвак Мінска (ён зрабіў іх мноства яшчэ ў час навучання ў сталічнай мастацкай вучэльні) пад прыгожаю назваю "Мінск вачамі Скрыпнічэнкі". Але сам мастак яе згадваць не любіць. Ды і пра сённяшнюю невялікую (я б сказала, утульную) экспазіцыю гаворыць без асаблівай радасці. Бо душа яго прасіла нечага іншага — скажам, вытанчанасці, кветак і шампанскага, эстэтычнай прыгажосці ў вялікай экспазіцыйнай зале. Нездарма ж Мікола Селяшчук, які вучыўся ў мастацкай вучэльні на пару курсаў пазней за Скрыпнічэнку, згадваў яго крыху піжоністым маладым хлопцам у стыльным шэрым плашчы на фоне ратонды ля парапета Свіслачы.

Але дзякуй і гэтай экспазіцыі. Яна дазволіла пазнаёміцца са Скрыпнічэнкам-творцам і сталася нагодай пагутарыць з ім. Ён прызнаўся, што расказваць пра свае работы яму цяжэй, чым іх пісаць. Родам Георгій са Слуцка, вучыўся ў адным класе з будучым графікам Уладзімірам Басальгам, разам з ім хадзіў у мастацкую студыю Уладзіміра Садзіна пры мясцовым Палацы піянераў. Сам рускі, з Мурама, Садзін любіў дзяцей, вазіў іх на экскурсіі ў Крым, Карпаты, Маскву, Калугу. Ён меў вялікую калекцыю работ сучасных расійскіх мастакоў (Жукава, Ромаса, Чуйкова, прадстаўнікоў сацыялістычна-рэалістычнай школы), на прыкладзе якой вучыў хлапчукоў адкрываць свет мастацтва. Зрэшты, ён проста вучыў, як класці фарбы на палатно, вучачыся гэтаму разам з дзецьмі. Можа, таму Г. Скрыпнічэнка і цяпер аддае перавагу рускай школе жывапісу, але найбольш — рускаму авангарду пачатку стагоддзя (Малевіч, Кандзінскі, паэзія Іванова, Хлебнікава, пра якіх ён можа гаварыць доўга, ёміста і захоплена — не ў прыклад гаворцы пра сябе).

А ў вучэльні, куды ён паступіў з трэцяга разу, але затое ўжо бліскуча, нечакана для сяброў і нават для самога сябе праявіўся як "фармаліст". Нават цяпер, згадваючы тыя гады, ён не можа назваць штуршок, які павярнуў яго на шлях, што не прызнаваўся тады ў мастацтве. А гэта ж былі 60-я, ён быў усяго навучэнцам, альбом Пікаса быў толькі ў дырэктара вучэльні Краснеўскага, які строга забараніў паказваць яго падлеткам. Час ад часу ўдавалася "выкрасці" ілюстрацыю якогасьці Філонава з "Агонька", але гэта ж сапраўды кропля для зацікаўленага хлопца. А, можа, паўздзейнічала тое, што трапіў ён на адзіны ў гісторыі вучэльні курс манументальнага мастацтва? Мысленне аб'ёмамі, незацкаванасць дакладнымі формамі і тэмамі? Як бы то ні было, малады Г. Скрыпнічэнка "тачыў" сваіх "дзівакоў", за што два разы з вучэльні "вылятаў". Але ўсё ж скончыў, і за гэта шчыра дзякуе Л. Шчамялёву і А. Малішэўскаму. Дыпломам стала апошняя ў яго творчым жыцці манументальная праца — мазаіка для інтэрната тэхнікума будматэрыялаў.



У Тэатральна-мастацкі інстытут не цягнула. Тады здавалася, што вось яна, дарога мастака, адкрытая, толькі ідзі. Тым больш хутка з'явілася майстэрня, няхай і нягеглая па ўмовах, але свая. Уступіў у Саюз мастакоў. Знайшоў працу — у Інстытуце эстэтыкі маляваў этыкеткі да вермутаў і каньякоў: карміць жа сям'ю трэба. А паміж гэтымі "занятка-мі" — маляваў. Гэта цяпер зразумела, як важна мець "школу". І сам ён прызнаецца шчыра, што часам менавіта "школы" яму і не хапае. "Мастацтва — гэта прыдуманасць, трошкі фантазіі, трошкі ілюзіі, — разважае Г. Скрыпнічэнка. — Калі мастак не здольны па-сапраўднаму маляваць, ён выкарыстае свае хітрыкі: там — падклеіць, там — зафарбуе, там — падмалюе... І нібыта і не было памылак, ёсць толькі арыгінальная і непаўторная аўтарская імпрэсія. Але ўсё гэта залежыць ад майстэрства мастака. Не сцвердзіўшы сябе прафесіяналам, і падфарбаваць як след не здолееш".

На выставе — і тыпова "скрыпнічэнкаўскія" фантазіі, у якіх перамешаны вобразы прыгожых жанчын, ён сам і ўвесь свет ў хаосе сюррэалістычнага ўспрымання ("Чарнобыльскія дзяўчаты", "Сын нарадзіўся"), і цалкам нетыповыя для мастака спакойныя пейзажы без звыклых для яго крыклівых колераў ("Мілы кут", "Спевы роднага краю", "Наваградчына"). Магчыма, гэта парушае цэласнасць экспазіцыі, затое дадае новых эмоцый да ўспрымання яго творчасці. Мастак не ідзе званым для сябе шляхам, ён ускладняе творчую задачу — да прамалінейных параўнанняў, калажных варыянтаў дадае натуралістычныя прыродныя замалёўкі, вобразы з беларускага фальклору. Атрымліваецца — цікава.

Выставу рыхтавала і прадстаўляла Беларуская акадэмія выяўленчага мастацтва. Званне акадэміка жывапісу БелАВМ, атрыманае мастаком у мінулым годзе, — першае ганаровае званне Георгія Скрыпнічэнкі. БелАВМ вылучыла яго на атрыманне ў гэтым годзе Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь. На жаль, сёння лаўрэацтва залежыць не толькі ад аб'ектыўнай ацэнкі творчасці. Ды, зрэшты, галоўнае прызнанне для Георгія Скрыпнічэнкі — шчырая зацікаўленасць глядачоў. А гэтага ў сваёй творчасці ён дасягнуў.

**Наталля ШАРАНГОВІЧ**

*Фота К. ДРОБАВА*



*"Белавежская восень"*

АБСЯГІ

*МАГІЛЁЎ...*

## Хоцімску — 600 гадоў

Два дні святкаваў свой слаўны юбілей старажытны Хоцімск, апавіты цудоўнай легендай аб чароўнай князёўне Хаціме, у памяць якой было названа паселішча на рацэ Бесядзь. Падзяліць радасць жыхароў райцэнтра прыехалі суседзі — дэлегацыі Ершыцкага раёна Смаленскай, Клятнянскага і Суражскага — Бранскай і Касцюковіцкага і Клімавіцкага — Магілёўскай абласцей.

25 верасня пасля ўскладання кветак да помніка воінам-вызваліцелям у кінатэатры адбыўся ўрачысты сход, прысвечаны юбілею.

26 верасня свята перайшло ў парк і працягвалася да позняга вечара. Два дні ў Хоцімску гучалі музыка, песні, кружыліся танцы. Юбілей райцэнтра супаў з другім светлым святам — 55-годдзем вызвалення раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Дарэчы, з Хоцімшчыны, з яе вёсак Вялікая і Малая Ліпаўкі 26 верасня 1943 года пачалося выгнанне гітлераўцаў з нашай Беларусі.

## У любоніцкай "Спадчыны" песні матчыны

Жыве ў вёсцы Любонічы, што ў Кіраўскім раёне, цікавы чалавек Іван Адамавіч Саланові ч. Ён — заўзяты аматар нацыянальнай этнаграфіі і фальклору. У свой час Салановіч цяжка захварэў, быў прыкуты хваробай да ложка некалькі гадоў. Паднялі яго на ногі, як сведчыць сам Іван Адамавіч, гармонік і народная песня. У 1984 годзе ён стварыў у мясцовым Доме культуры фальклорна-этнаграфічны ансамбль "Спадчына". Яму прысвоена званне "народны". У клубе дзейнічае і гурт "Маладая спадчына", у якім займаюцца дзеці.

Члены "Спадчыны" запісваюць аўтэнтычны мясцовы фальклор, збіраюць ручнікі і іншыя прадметы мясцовага побыту. А свае песні яны спяваюць акапэльна і пад гармонік свайго мастацкага кіраўніка І. Салановіча. "Спадчына" паспяхова выступала на абласных фестывалях "Таленты Прыдняпроўя", "Сузор'е талентаў" і двойчы на Беларускім тэлебачанні ў праграме "Запрашаем на Вячоркі".

## Пярсцёнак не з чужой рукі

Ніну Віленчык у Бабруйску ведаюць не толькі як клапатлівага дырэктара клуба дабрачыннага таварыства. Яна і таленавітая актрыса, якая стварыла шэраг цікавых вобразаў на сцэне народнага тэатра Бабруйскага гарадскога цэнтра культуры.

Апошнім часам Ніна Віленчык выступае і як драматург. Першая яе ўдалая п'еса — "Ляці, запаветны пярсцёнак", напісаная па матывах казкі А. Адоеўскага "Мароз Іванавіч". Твор Н. Віленчык — самабытны, яе пярсцёнак не з чужой рукі. П'еса прынятая да пастаноўкі ў народным тэатры.

Н. Віленчык напісала таксама п'есы "Казка пад Новы Год". "Свабоду каралю!" і іншыя. Неўзабаве зборнік яе твораў выйдзе ў абласным цэнтры народнай творчасці.

**Іван ПЕХЦЕРАЎ**

*ГОМЕЛЬ...*

## Сустрэча праз дванаццаць гадоў

Праз дванаццаць гадоў растання наведаў Гомель вядомы гісторык, аўтар кніг "Айчыну сваю баронячы", "Невядомая вайна", рэдактар аднаго з аўтарытэтнейшых гістарычных часопісаў Генадзь Сагановіч.

Сустрэчы з ім, наладжаныя маладзёжным цэнтрам "Гарт", гомельскай філіяй ТБМ і асацыяцыяй "Грамадзянскі форум", прайшлі на гістарычным і філалагічным факультэтах Гомельскага дзяржуніверсітэта імя Скарыны, на лекторыі па беларускай гісторыі для грамадзян горада і ў школе-ліцэі N 56.

Генадзь Сагановіч даў таксама інтэрв'ю гарадской тэлекампаніі "Нірэя".

**Андрэй МЕЛЬНІКАЎ**

## Юбілей акварэліста

Споўнілася 60 гадоў з дня нараджэння вядомага гомельскага мастака Уладзіміра Кароткага. Яго павіншаваў прэзідыум Саюза беларускіх мастакоў, а таксама калегі па творчай працы. Уладзімір Пятровіч з'яўляецца адным з вядучых акварэлістаў рэспублікі, удзельнікам буйнейшых выставаў у Беларусі, Маскве, у краінах дальняга замежжа. На нядаўняй выставе "Зямля Палесся, якая працавала ў мінскім Палацы мастацтваў, экспанаваліся чатыры карціны майстра. У. Кароткі стварыў таксама вялікую серыю работ пра Чарнобыль. Пасля катастрофы на ЧАЭС ён пабываў у Брагінскім, Хойніцкім, Веткаўскім, Чачэрскім раёнах. Цяпер мастак падрыхтаваў персанальную выставу, якая будзе экспанавацца ў Гомелі і Мінску.

## Галерэя ў бальніцы

У вёсцы Старыя Дзятлавічы, што ў Гомельскім раёне, знаходзіцца слаўтая бальніца, галоўны ўрач якой — Аляксандр Ефімовіч. Тут не толькі лечаць хворых, у якіх няма родных і блізкіх, а даюць прытулак на доўгія месяцы. У трохпавярховым корпусе ёсць фае. У ім вядомы жывапісец, член Саюза мастакоў рэспублікі Пётр Мураўчук зрабіў манументальны роспіс "Урачыстасць жыцця" і адкрыў экспазіцыю сваіх твораў, якая ўключыла 190 работ. Першымі наведвальнікамі своеасаблівай галерэі сталі старшыня мясцовага Савета М. Мартыненка і школьнікі мясцовай школы.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*БРЭСТ...*

## "Паўднёвая пальміра"

Так называецца Міжнародны фестываль-конкурс харавой музыкі, які ўжо ў пяты раз праходзіў у Адэсе з 10 па 22 верасня. Нашу краіну прадстаўляла народная харавая капэла Палаца культуры чыгуначнікаў Брэста. Берасцейскі калектыў стаў дыпламантам конкурсу і атрымаў спецыяльны дыплом журы за высокае выканаўчае майстэрства духоўнай музыкі.

**Уладзімір ТАРАСЮК**

ШАНОЎНАЯ РЭДАКЦЫЯ!

Прашу праз Вашу газету выказаць шчырую падзяку за віншаванні з маім 85-годдзем усім-усім чытачам і прыхільнікам маёй працы і пажадаць ім доўгага і шчаслівага веку.

**Сяргей ГРАХОЎСКІ**

## “Роднае слова”, N 9

**Пачатку новага навучальнага года прысвечаны зварот галоўнага рэдактара “Роднага слова” М. Шавыркіна “Звіні, школьны званок!” і выступленне М. Гіля “Думайце, мамы, думайце! Рэха з 1997 года”. Змешчаны артыкул У. Мархеля “Ад балады да гавэнды” (да 175-годдзя з дня нараджэння У. Сыракомлі), “Святло знутры” А. Рагулі (да 60-годдзя Л. Левановіча), “Камедыі з мяшчанскага жыцця” У. Коведя (станаўленне Ф. Аляхновіча як драматурга), “Рамантызм у беларускай літаратуры” Л. Тарасюк, “...Пачуццяў шчырых слова” А. Андруковіча (вершы і песні Л. Пранчака), “Думкі міжволі гаманілі ў сненні хлопчыку аб школе” Г. Дашкевіч (духоўны воблік дзіцяці ў лірыцы Я. Коласа), “Было б на свеце толькі — чалавечна...” З. Драздовай (заканчэнне літаратурнага партрэта А. Грачанікава), “Дэкларацыйны ці дэкларатыўны?” П. Сцяцко, “Тэкставае апытанне як сродак аператыўнага кантролю на ўроках беларускай мовы і літаратуры”, І. Босага, “...Пракляцце таму, хто паліць і разбурае” М. Мішчанчука (творы К. Чорнага ваеннай пары), “Матыў вады ў паэме Якуба Коласа “Новая зямля” і ў нямецкай паэзіі” В. Выхоты, “Найвялікшая асалода — мысліць...” Е. Лявонавай (эпічны тэатр Б. Брэхта), “Міфалагічнае самавызначэнне беларусаў” С. Кавалёва (заканчэнне), “Сейбіт” У. Содаля (у сувязі з 80-годдзем з дня нараджэння Ф. Янкоўскага), “Мудры настаўнік — Алесь Белакоз” В. Юбко і Т. Фаменкі (да 70-годдзя), “Калі рэха засталося вечна!..” М. Мікуліча (невядомыя вершы М. Танка), А. Карлюкевіч рэцэнзуе кнігу А. Марціновіча “Святло чароўнага ліхтарыка” (“Новы падручнік па беларускай дзіцячай літаратуры”). Апублікавана заканчэнне артыкула І. Крэнь пра “пенталогію” А. Яскевіч (“З пачуццём моўнай радзімы”). Да 85-годдзя С. Грахоўскага прапануюцца вершы юбіляра. М. Скобла ў рубрыцы “Літаратурны ветразь” прадстаўляе творы І. Пракаповіча. Сярод іншых матэрыялаў — “Купальскае валачобніцтва і абыход палеткаў” В. Якімовіч, вершы У. Сыракомлі, А. Грачанікава, М. Танка, “Каляндар знамянальных дат і падзей на 1998 год”, складзены Я. Саламевічам...**

## Загінуў ва Усходняй Прусіі

**Лёс адмераў Алесю Мілюцю кароткі век — нарадзіўся 6 кастрычніка 1908 года, загінуў на фронце ва Усходняй Прусіі 26 кастрычніка 1944-га. Родам з вёскі Скорычы цяперашняга Карэліцкага раёна. Скончыў два класы пачатковай школы, потым займаўся самаадукацыяй. Друкавацца пачаў з 1928 года ў прагрэсіўных заходнебеларускіх газетах і часопісах, а пасля ўз'яднання Беларусі — у Стаўбцоўскай раённай газеце. Асобныя вершы А. Мілюця змешчаны ў калектыўных зборніках “Мы іх не забудзем”, “Сцягі і паходні”, “Крывёю сэрца” і “Ростані волі”.**

## ...І запісы ўдзельнікаў вайны

**Аператар, дыспетчар станцыі Казань, старшы памочнік начальніка станцыі ў Калінкавічах, бібліятэкар, выкладчык рускай мовы і літаратуры, раз'язны карэспандэнт газеты “Калгасная праўда” (цяпер “Белорусская нива”), рэдактар на Беларускім радыё, карэспандэнт часопіса “Беларусь”, літкансультант часопіса “Нёман” — асноўныя жыццёвыя шляхі Аляксея Кейзарава (нарадзіўся 4 кастрычніка 1928 года ў вёсцы Бронніца Буда-Кашалёўскага раёна, памёр 22 лістапада 1994-га). Упершыню ў друку выступіў з вершамі ў 1953 годзе. У 1957 годзе надрукаваў першае апавяданне. Проза стала прызваннем. Выйшлі кнігі “Нас было семеро”, “Не знающий покоя”, “Эхо на Полесье”, для дзяцей — “Хитрый гвоздик”, “Первый разведвзвод”, “У нас в Тополевке”, “Возвратятся журавли”. Шмат зрабіў А. Кейзараў запісваючы ўспаміны актыўных удзельнікаў вайны, у выніку пабачылі свет кнігі Э. Лаўрыновіча, М. Дзмітрыева, А. Мазанік, М. Фядотава і іншых, а таксама М. Гірыловіча “Дальва — сястра Хатыні”.**

# Пачатак усіх пачаткаў

### 14 КАСТРЫЧНІКА — ДЗЕНЬ МАЦІ

Як ні горка пра гэта гаварыць, але — многія праблемы ў грамадстве, народжаныя сацыяльна-эканамічным крызісам, традыцыйна вырашаюцца за кошт жанчын. Каго хутчэй скароцяць ці не прымуць на працу? Жанчыну, прытым найперш жанчыну-маці, у якой малалетнія дзеці. Яна, маўляў, можа “заседзецца” і на бальнічным, ёй і дзіцячы садок падавай, і льготы ўсялякія! А каму гэта, каб хто спытаў, патрэбна? Дзеля чаго лішні клопат? Як кажуць, далей ад грэху: лепш альбо зусім не браць на работу такую працаўніцу, а калі яна аказалася ў штаце, дык — скараціць яе. Вось і аказваецца жанчына ў ліку беспрацоўных — часцей за ўсё, першай. Добра той, хто мае магчымасць сядзець у мужа “на шыі”. А калі няма тае “шыі”? Можна шмат пра гэта гаварыць, аднак жа выснова адназначная: сярод беспрацоўных — большасць жанчын, як і сярод тых, што заняты на некваліфікаванай, нізкааплачвальнай рабоце. У грамадскай думцы ўсё больш жорстка акрэсліваецца кола кампетэнцыі жанчыны: неналаджаны, неўладкаваны сямейны быт ці нізкастатусная работа.

А між тым жанчыны ў большасці сваёй — выдатныя выканаўцы: працавітыя, дысцыплінаваныя, абавязкова-безадмоўныя, бо прывыклі, народжаны быць у адказе не толькі за работу сваю, але і за сям'ю, за мужа, за дзяцей, за старых бацькоў.

Сёння зноў нямала гаворыцца пра эмансіпацыю жанчын. Але да чаго зводзяцца гэтыя гаворкі? Ды, бадай, да таго, што жанчына на працы — гэта распад сям'і і нізкая нараджальнасць. Вось бы вярнуць маму — дзецям, жонку — мужу, а зарплату жанчыны аддаць у выглядзе прыплаты мужчыне, карацей кажучы, прывязаць жанчыну — рублём, кавалкам хлеба — да сям'і — і ніякіх праблем!

І не заўважаюць такія непрымальнікі жаночай эмансіпацыі таго відавочнага факта, што ў цывілізаваным свеце надзвычай рэзка ўзрасла колькасць жанчын, якія ўсё больш актыўна праяўляюць сябе не толькі ў навуцы, скажам, ці ў літаратуры і мастацтве, але і ў палітыцы, у бізнесе, на вытворчасці. Поўная рэалізацыя задаткаў полу — пачуцця мацярынства, надзейнасці, абвостранай здольнасці суперажываць і спачуваць — не толькі не адрывае таленавітую, працавітую жанчыну ад дзелавой нівы, але і стымулюе яе: напаўняе яе розум, душу жыватворнымі сокамі, надае мужнасці і ўпэўненасці ў сабе. А што да інтэлекту, дык гэта ужо адзнака індывідуума, а не полу. Ёсць, вядома, жанчыны, якія па-сапраўднаму жывуць толькі сям'ёй і час “на службе” адбываюць (як ёсць і мужчыны, што цалкам рэалізуюць сябе ў хатнім быце), але ёсць і такія жанчыны (і іх нямала!), для якіх немагчымасць рэалізаваць сябе ў прафесійнай ці грамадскай дзейнасці — трагедыя.

Хоць, вядома, не менш падстаў гаварыць і пра іншае. Пра тое, што ў сённяшнім да крайнасці спалітызаваным, эканамічна нестабільным і псіхалагічна няўстойлівым свеце многія жанчыны проста сталі забываць пра звычайнае чалавечае шчасце, пазбаўлены яго. Бясконцыя праблемы і штохвілінныя стрэсы — не толькі ў знешнім сацыяльна-грамадскім жыцці, але і дома. Усю горыч жыццёвай неўладкаванасці, незадаволенасці заробкамі і цэнавай нестабільнасцю жанчына нясе ў дом, у сям'ю і “скідвае” на галовы сваіх блізкіх, якім і без таго нялёгка, як і ёй самой...

Вось такія варункі сённяшняга жыцця, якія найперш і найбалючай закранаюць акурат жанчыну, актывізоўваюць, на шчасце, і сам жаночы рух, падштурхоўваюць яго прыхільніц, падказваюць ім новыя кірункі пошукаў. Акурат у такіх варунках апошніх гадоў у Беларускім саюзе жанчын — незалежнай, неўрадавай грамадскай арганізацыі — нарадзілася ідэя стварыць Цэнтр сацыяльнай падтрымкі жанчын, пра які і пойдзе гаворка.

Адкрыццё яго адбылося два гады назад — 14 кастрычніка 1996 года. Сімвалічна, што адкрыўся ён менавіта ў гэты дзень, двойчы святочны. Па-першае, 14 кастрычніка — гэта Дзень маці. Нарэшце з'явілася ў нас такое свята — не рэвалюцыйны міжнародны жаночы дзень 8 сакавіка, а — сціплы і светлы Дзень маці. Упершыню ён быў праведзены ў Мінску акурат 14 кастрычніка ў 1994 годзе з ініцыятывы Мінскага гарадскога савета жанчын. А ў наступным, 1995 годзе па ініцыятыве БСЖ прайшоў ужо рэспубліканскі Дзень маці, які быў афармлены, так бы мовіць, заканадаўча, як афіцыйнае свята, на дзяржаўным узроўні, указам прэзідэнта.

А другое свята, якое прыпадае на гэты дзень, — праваслаўнае свята Пакрова Прасвятой уладаркі нашай Багародзіцы і вечнадзевы Марыі. Толькі маці, пачатак усіх пачаткаў, можа ўратаваць, захаваць, зберагчы свет і ўсіх нас, дзяцей сваіх. У трапары свята Пакрова Прасвятой Багародзіцы ёсць такія словы: “Сёння мы, дабраверныя людзі, светла святкуем, ахінаемся тваім, Багамаці, прышэсцем, і на твой гледзячы прачысты вобраз, замілавана гаворым: пакрый нас пачэсным тваім пакровам і захавай нас ад усялякага зла, просячы Сына твайго, Хрыста, Бога нашага, каб збавіў душы нашы”.

Хочацца спадзявацца, што з цягам часу Дзень маці будзе адзначацца не толькі ў дабрачынных арганізацыях ды ў тых ці іншых дзяржаўных структурах, а стане святам у кожным доме, у кожнай сям'і.

Але вернемся да Цэнтра сацыяльнай падтрымкі жанчын. Часу з дня яго адкрыцця прамінула няшмат, але ён паспеў досыць рэальна заявіць аб сабе і штодня запрашае да сябе ўсіх “прыніжаных і зняважаных”, усіх, хто мае патрэбу ў парадзе і дапамозе.

**Таццяна Камароўская, дырэктар цэнтра, гаворыць:**

— Мы не памыліліся, калі прыйшлі да думкі адчыніць такую ўстанову. Занадта шмат жанчын сёння трапляе ў цяжкае становішча, зведваюць матэрыяльныя нястачы, не вытрымліваюць жыццёвых нагрузак, трацяць перспектыву і губляюць надзею на выйсце. У выніку яны збіваюцца на сцяжыну п'янства, наркаманіі, забываючыся на самае святое — на дзяцей. Ім трэба дапамагчы вырвацца з гэтага замкнёнага кола, падтрымаць маральна, псіхалагічна, урэшце матэрыяльна. Галоўная задача Цэнтра — садзейнічанне ўмацаванню сям'і і яе аўтарытэту ў грамадстве, аказанне дапамогі жанчынам, якія апынуліся ў складаным становішчы, у якіх рэзка знізіўся сацыяльны статус. Якім чынам? Найперш стварэннем рабочых месцаў і працаўладкаваннем. А гэта вельмі і вельмі няпроста пры сённяшняй эканамічнай сітуацыі.

У цэнтры створаны магчымасці для перакваліфікацыі па народна-прыкладных відах творчасці — тут можна навучыцца вязанню, рабоце з саломкай, фларыстыцы, макрамэ, тут працуюць курсы масажу, цырульніцкай справы, адкрыта школа крою і шыцця.

Праводзяцца ў цэнтры выставы работ, дабрачынныя вечары, у БСЖ раздаецца дзіцячае адзенне і харчаванне для самых малазабяспечаных сем'яў. На жаль, апошнім часам гэта стала рабіць цяжэй, бо паток гуманітарнай дапамогі значна зменшыўся.

Усе мерапрыемствы цэнтра маюць, само сабою, сацыяльную скіраванасць. Працуе кабінет маці і дзіцяці, дзе вучаць маладыя сем'і, як выхоўваць дзяцей, як паводзіць сябе з дзецьмі, дзеля чаго запрашаюцца самыя розныя спецыялісты — ад педыятраў да псіхолагаў.

Асветніцкія кансультацыйныя паслугі цэнтра — скажам, юрыдычныя кансультацыі, парады псіхолагаў і ўрачоў — бясплатныя.

З лістапада 1996 года на базе цэнтра пачаў працаваць клуб “Новае мысленне”, у якім жанчын вучаць запаважаць і палюбіць сябе, каб праз гэтую самапавагу і самалюбоў палюбіць блізкіх, каб жанчына несла ў дом, у сям'ю не стрэсы, раздражнёнасць і злосць, а лагоду, цеплыню і ласку, каб усім, хто побач з ёю, было добра і ўтульна. На псіхалагічных трэнінгах жанчын вучаць пераадольваць розныя так званыя комплексы, вырашаць псіхалагічныя праблемы ў працэсе росту жанчыны як асобы, бо ад псіхічнага здароўя маці перш за ўсё залежыць мір, парадак і дабрабыт у сям'і, выхаванне дзяцей.

Мая субяседніца расказала і яшчэ пра адзін цікавы праект, які ажыццяўляецца зараз сумесна з Брандэнбургскім адукацыйным таварыствам з Германіі. Гэта адукацыйныя курсы для жанчын з вышэйшай адукацыяй, якія па розных прычынах страцілі працу. На курсах займаецца 90 жанчын. Яны вывучаюць маркетынг, менеджмент, англійскую мову, беларускае і еўрапейскае права, мытнае права, асновы бухгалтарскага ўліку, камп'ютэрную граматы і інш. Пасля заканчэння курсаў, якія працуюць па сістэме еўраасістэнтаў, жанчына зможа працаваць не толькі ў той ці іншай фірме, але й на любым буйным прадпрыемстве, прытым не толькі ў якасці сакратаркі — узровень яе падрыхтоўкі дазваляе ёй заняць куды больш высокую і адказную пасаду.

Спадарыня Таццяна, апавядаючы пра гэтыя адукацыйныя курсы, выказала, дарэчы, пажаданне, каб на іх чыталіся лекцыі па гісторыі Беларусі і пра ролю ў ёй жанчыны, пра вобраз жанчыны ў летапісах, у беларускай літаратуры. Яна выказала надзею, што сярод нашых літаратараў і гісторыкаў знойдуцца энтузіясты, якія адгукнуцца на прапанову распавесці курсісткам пра гэта...

Вопыт работы сталічнага Цэнтра сацыяльнай падтрымкі жанчын, няхай сабе пакуль што і невялікі, паказвае, што ёсць рэальная неабходнасць стварэння іх ва ўсіх рэгіёнах краіны, што з іх дапамогай можна вырашаць шматлікія праблемы, народжаныя ў нашым грамадстве сацыяльна-эканамічным крызісам. У многіх краінах свету падобныя арганізацыі існуюць даўно і аказваюць жанчынам, якія апынуліся ў складаных сітуацыях, рэальную і надзвычай неабходную ім дапамогу, змякчаюць сацыяльную напружанасць у грамадстве, садзейнічаюць стварэнню нармальных умоў жыцця ў сям'і. А сям'я пачынаецца з Маці, пачатку ўсіх пачаткаў. І клопат аб ёй, усебаковая ўвага і падтрымка яе — найпярвейшы абавязак усіх нас і кожнага паасобку.

Хацелася нагадаць пра гэта напярэдадні нашага новага, пакуль што не абцяжаранага традыцыямі, але ўсё ж і не прыдуманага на пустым месцы, свята — Дня маці.

**Марыя МІХАЙЛАВА**

МУЗЫКА

# Выграненка грае Баха

Ужо ў трэці раз адкрывае сезон арганнай музыкі ў камернай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі малады выканаўца Расціслаў Выграненка. Сёлетні верасneўскі вечар быў манаграфічны: складаўся толькі з твораў І.-С. Баха.

Задумка манаграфічнай праграмы нарадзілася ў Расціслава даўно. Ён мяркуе, што творы Баха — гэта своеасаблівы індыкатар, які выяўляе ўменне выканаўцы творча мысліць ва ўсталяваных інтэрпрэтатарскіх стэрэатыпах, найлепшая магчымасць раскрыць здольнасці арганіста. Расціслаў аддаў перавагу жанрам прэлюдыі і фугі, харальнай апрацоўцы, а таксама іншым творам, менш вядомым шырокай аўдыторыі слухачоў.

Не проста, граючы Баха, выявіць выканаўчую індывідуальнасць, адкрыць штосьці новае ў даўно ўжо вядомым, надаць знаёмай музыцы адценне непаўторнасці. І ўсё ж Р. Выграненку многае ўдалося. Адна з адметных і, на мой погляд, каштоўных ягоных якасцей — здольнасць да цэласнага ўспрымання буйной формы, якая паўстае ў яго выкананні як дынамічны, няспынны працэс. Асабліва ярка гэта выявілася ў такіх цыклічных творах, як Прэлюдыя і фуга сі мінор, Прэлюдыя і фуга з Арганнай імшы, таката рэ Мінор.

Не менш значная здольнасць выканаўцы тонка ствараць пэўны псіхалагічны стан, працягла ўтрымліваць у ім слухача, засяроджвацца на ўнутраным жыцці бахаўскага вобраза. Гэта харал “Ісус Хрыстос, наш Збаўца”, апрацаваны ў архаічнай манеры, узнёслы, пранікнёны харал “Чалавек, які аплаквае свой грэх вялікі”, фантазія на харал “Прыйдзі ж, паганцаў збаўца”, ахопленая глыбокім задуменнем.

Асабліва ўразіла выкананне Прэлюдыі і фугі з Арганнай імшы. У трактоўцы Р. Выграненкі прэлюдыя ў духу французскай уверцюры пазбавілася строгай стрыманасці і напоўнілася рамантычнай прыўзнятасцю, святочнасцю. Арганіст іграў дынамічна, захопліваючы слухачоў няспыннасцю руху і кантрастамі рэгістраў. Прыемным сюрпрызам для публікі было выкананне вядомай Такаты рэ мінор, якая ўваходзіць у рэпертуар многіх знакамітых арганістаў. Інтэрпрэтацыя Расціслава падалася спробай паглядзець на гэты твор па-новаму, пераасэнсаваць па-свойму традыцыю выканання гэтай музыкі. Ён іграў так, быццам бы сам стварыў яе, аб'яўднаўшы логіку пабудовы вялікай кампазіцыі з імправізацыйнай свабодай выказвання.

Акрамя опусаў І.-С. Баха, Р. Выграненка мае ў рэпертуары творы Дж. Фрэскабальдзі, Ф. Куперэна, Л. Маршана, А. Рэзона, І. Кунаў, І. Пахельбеля, Д. Букстэхудэ, Ф. Ліста, Ф. Мендэльсона, С. Франка. Яго імя ўжо вядомае за межамі рэспублікі. Вучань сваёй маці Наталлі Выграненкі і заслужанага артыста Беларусі Канстанціна Шарава, ён пачаў публічна выступаць з 1991 года як арганіст, клавесініст, піяніст. З таго часу даў два дзесяткі сольных канцэртаў у розных гарадах Беларусі, Польшчы, Чэхіі, Італіі. Летась атрымаў дыплом на першым Міжнародным арганным конкурсе ў Варшаве.

Расціслаў Выграненка яшчэ зусім малады, яму — 20. Ён марыць пра новыя выступленні і ўжо рыхтуе своеасаблівы канцэрт з твораў “юбіляраў”, якім сёлета спаўняецца 450, 400, 350, 300 (і г.д.) гадоў. Але здзяйсненне яго мары залежыць цалкам ад філармоніі — для выступлення арганісту патрэбна канцэртная зала...

**Ірына БЕЛАВУС, студэнтка БАМ**




# Кош для смецця

Пятро ВАСЮЧЭНКА

А МНЕ ЎЯЎЛЯЕЦЦА не Вавілонская, а Беларуская Бібліятэка, на доўгіх ды шмат'ярусных стэлажах якой ёсць усё: Рэнесанс і дэкаданс, рэалізм і сацрэалізм. У картатэцы вы знойдзеце імёны ўсіх аўтараў — адраджэнцаў і выраджэнцаў, нонканфармістаў і сервілістаў, традыцыяналістаў і авангардыстаў, "транслагістаў" і "шызарэалістаў", графаманаў і эпігонаў, проста пісьменнікаў. Тут — усё. Бо гэта — Беларуская Бібліятэка, незалежна ад партыйнай прыналежнасці, сацыяльнага статуса і шостае графы.

Менавіта Бібліятэка, хаця хацелася б вымавіць "Беларуская Літаратура". Але архетып Літаратуры перайшоў ва ўласнасць навукоўцаў, выкладчыкаў і студэнтаў, а ў бягучай крытыцы ён распыліўся, аброс ідэалагемамі і страціў, такім чынам, сваю цэласнасць. Бо сёння кажуць "беларуская літаратура", "беларуская савецкая літаратура", "літаратура Беларусі", а маюць на ўвазе нелітаратурныя ідэалагічныя схемы.

Беларуская Бібліятэка — іншая рэч. Тут павінна знаходзіцца ўсё.

Нават Гамер, Шэкспір і Гётэ, якія не пісалі па-беларуску, але размаўляюць з намі як беларусы. Бо ім дапамагаюць перакладчыкі Тарашкевіч, Дубоўка і Сёмуха.

Нават Лукаш Бэндэ, які беларускай літаратуры не ствараў, а, наадварот, знішчаў беларускіх літаратараў, маральна і фізічна. Але і ён здабыў сабе мясцінку на паліцы Беларускай Бібліятэкі. Вось ён вызірае адтуль, са свае нішы, як сыч, і быццам хоча сказаць, як тады, на абедзе ў Купаліхі: "Я ўжо не той, я харошы..." А нехта адказвае яму голасам Уладзіславы Францаўны: "Стой ужо... Сабака быў, сабака й застаўся... Але ўсё адно, стой..."

Але так сталася, што Беларуская Бібліятэка ва ўсе эпохі была для палітыкаў ды ўладаў стратэгічна важным аб'ектам. Як тэлеграф і тэлестудыя.

Яе захоплівалі натоўпы неспакойных тутэйшых вандалаў ды, не гартаючы, скідвалі цэлыя тамы і стосы кніг долу.

Цягам часу працэс выкідання кніг упарадкаваўся. Да Бібліятэкі, такім чынам, прыляпілася не менш стратэгічна важная прыбудова — Кош для смецця.

Трапіць у Кош для смецця можна было любому літаратару і любой кнізе. Але не быў зачынены і шлях назад, на паліцу. Так, у свой час у Кашы пабывалі Гарун і Багдановіч, Ластоўскі і Гарэцкі, Пушча і Мрый. Былі там Купалавы "Тутэйшыя" і "Дзве душы" Гарэцкага.

Часамі Кош перапаўняўся з коптурам, а ягонае змесціва па аб'ёме перавышала фонд самой Бібліятэкі — скажам, у трыццатыя гады гэтага стагоддзя.

Часы вялікіх сацыяльных стрэсаў мінаюцца — або паўтараюцца ў іншых гістарычных версіях. А існаванне Каша для смецця пры Беларускай Бібліятэцы стаецца прыкрай, тыпова беларускай з'явай.

Чаму так? Можа, беларусы ёсць самай багатай духоўна нацыяй? Бо ж даравалі суседнім народам геніяў і нават не прасілі чагосьці або кагосьці ўзамен? "Ды не трэба нам гэта, бо яно не наша..."

Зусім нядаўна ўсім падалося, што беларусы вось-вось закінуць свой Кош для смецця туды, дзе яму належыць быць, — на гістарычны сметнік. Але не настаў, пэўна, час.

Беларусы, як і раней, пачуваюцца самай багатай і, адпаведна, шчодрай у свеце нацыяй. Ці не надта вялікія кавалкі адлятаюць ад беларускага стала?

На хвалі новаадраджэнскіх працэсаў вярнулася з Каша не толькі спадчына рэпрэсаваных, але й эміграцыйных літаратараў. На нейкі момант падалося, што два берагі літаратуры вось-вось сыдуцца. І мы ўявім сабе цэласны мацярык беларускае літаратуры, без падзелу на "нашых" і "нянашых".

Масей Сяднёў, Наталля Арсеньева, Ларыса Геніюш з'яўляюцца не толькі ў друку, але і ў школьных праграмах. Каб сваім вернутым існаваннем давесці: Беларуская Бібліятэка — не толькі беларуская савецкая літаратура.

Адпаведна ледзьве не падаюць з паліц тамы бээсэсэраўскіх класікаў, узоры беларускага літаратурнага сервілізму. Тое, што ў цывілізаваных грамадствах ёсць аб'ектам увагі не толькі псіхолагаў, сацыяльных паталагаанатамаў, але і культуролагаў, эстэтыкаў.

У большасці краін, што перахварэлі на таталітарызм, узоры мастацтва тае эпохі будуць сумным сведчаннем хваробы, яе сімптомам, адбіткам, эстэтычным знакам. Але, самакаштоўнае само па сабе, мастацтва і тых часоў будзе выклікаць цікаўнасць і ўвагу. Нават пачварнае ў ім... У рэшце рэшт, пачварнае таксама ёсць катэгорыяй эстэтыкі, адваротным бокам красы, а, значыць, звязанай з красой праявай.

У нас яно, адрынутае мастацтва, мусіць апынуцца на самым дне Каша для смецця. Добра, калі падбярэ якаясь міласэрная "Крыніца" і надрукуе хаця б вершаваны ліст "Вялікаму Сталіну ад беларускага народа" — адмысловы шэдэўр сервільнага пісьменства.

Памянёны "ружовы туман" (прыгожа гучыць!) — таксама эстэтычная з'ява. Бээсэсэраўская літаратура — літаратура, і ёй ёсць месца на паліцах Беларускай Бібліятэкі. Павінна заставацца чытанка і для таго кліента Бібліятэкі, што настальгуе па школьных часах, калі чыталі (не без задавальнення) і "Трывожнае шчасце", і "Трэцяе пакаленне.

Не трэба абражаць людзей і творцаў савецкай (або, як кажуць — "саўковай") ментальнасці. Не трэба лічыць іх пераможцамі. Па-свойму яны прайгралі. У тых, хто "прайграў", застанецца ў любых варунках унутраная прастора — прастора вольнае творчасці. Што застанецца ў тых, хто "выйграў"?

Адзінае жаданне, геніяльна адгаданае Купалам: "Людзьмі звацца!"

Па-за тым ажыятажам, які быў узняты "Ружовым туманам", крытыкі амаль не заўважылі, што Кош для смецця ў чарговы раз памяняў змесціва. Што нашым дарагім савецкім класікам ужо не пагражаюць. Што ў Кош паляцелі — са школьных праграм, з шырокага літаратурнага ўжытку ўсё тыя ж шматпакутныя тэксты Арсеньевай, Сяднёва, Геніюш.

Нехта ўсё яшчэ ваюе... Нехта пахаджвае паміж стэлажамі Беларускай Бібліятэкі з гумовым дручком або з сотавым тэлефонам, па якім аддаюцца загады: "Гэта — у кош... І гэта..."

Як часта шаноўныя літаратары, безумоўна, з лепшымі намерамі, міжволі спрыяюць такой, з дазволу сказаць, чыстцы. Дзеля чаго? Дзеля імкнення перамагчы апанентаў, здабыць Абсалютную Ісціну (якую ў зямных умовах усё адно не здабудзе)?

Не адно пакаленне чытачоў укленчыць яшчэ перад шаноўным навукоўцам, які, без перабольшвання, вярнуў на паліцы Беларускай Бібліятэкі Алеся Гаруна. Нават калі, згодна з легендай, міністэрскі чыноўнік папярэджваў, седзячы ў высокім крэсле: "Толькі цераз мой труп!" Абышлося, дзякаваць Богу, без трупаў, і "Матчын дар" годна займае сваё месца на паліцы. Так бы заўсёды!

Што здарылася? Дзеля чаго вельмішаноўны навуковец з ранейшым імпэтам, вартым, казаў той, лепшага ўжытку, спрабуе сёння скінуць з паліцы... аўтара, які казаў "Люблю Беларусь!"? Які звяртаўся да беларускіх мужчын па-свойску "дзецюкі!", клікаў на змаганне і падараваў ім "Мужыцкую праўду" і пісаны крывёй сэрца "Ліст з-пад шыбеніцы".

Няўжо для таго выкідаецца з Беларускай Бібліятэкі Каліноўскі, каб на ёй прастарней ды камфортней памясціўся Алесь Гарун? А што б на тое сказаў апошні?

Вакол імёнаў такіх, як Каліноўскі, у іншых культурах складаюцца міфы, яны робяцца рэліквіямі, духоўнымі светачамі нацыі. Доля нашых пракокаў — усімі сіламі не прызнавацца, выштурхоўвацца ў Кош для смецця.

Следам за незаўгоднымі творцамі скідваюцца з паліц літаратурныя творы, дый і мова, якой тыя творы напісаныя.

Як і ў сумныя трыццатыя, ужо абвяшчаецца крамольным, варожым і шкодным Тарашкевічаў правапіс. Як быццам не на ім былі напісаныя лепшыя творы Купалы, Коласа, Гарэцкага за савецкім часам! Ад "Дзвюх душ" да перакладу "Інтэрнацыяналу"...

І вось пачынаецца новае вялікае паляванне на мяккі знак, яно перарастае ў кафкаўскі "Працэс" з прыцягненнем юрыстаў і экспертаў-мовазнаўцаў... Божа мой, няўжо ў краіне няма каго больш судзіць?

Досыць рызыкоўна маніпуляваць у гэтым усебеларускім "працэсе" з такім паняццем, як "агульнапрынятая норма". "Агульнавядома", што сапраўдная творчасць, наватарства — заўжды ёсць пэўным адхіленнем ад агульнапрынятага. Шаноўны прафесар можа разважаць пра тое, што нідзе ў свеце няма "двух правапісаў", другі запярэчыць: краіны з такімі моўнымі сітуацыямі ёсць. Самае прыкрае ў іншым: у імкненні запхнуць у Кош для смецця ўсё, што "не адпавядае агульнапрынятай норме".

Па вялікім рахунку, правапісаў столькі ж, колькі творчых асоб, бо ёсць паняцце аўтарскага правапісу, пунктуацыі. Мы зайшлі б надта далёка, калі б пазабаранялі ўсё, што не адпавядае "агульнапрынятым" нормам. Гэтак мы дазабараняемся да таго, што скінем у сметніцу верлібры Максіма Танка без рыфмы і метра, квантэмы Разанава без знакаў прыпынку, прозу Маркеса, не падзеленую на абзацы і сказы, як "агульнапрынята", вершы Хлебнікава, напісаныя "для дваццаць першага стагоддзя", не кажучы ўжо пра літаратурныя практыкаванні "бумбамлітаўцаў". Я маўчу пра адпаведнасць нормам арфаэпіі і граматыкі некаторых афіцыйных сродкаў масавай інфармацыі — яны перадусім падлягаюць пакаранню Кашом за шматлікія і грубыя моўныя памылкі.

Дык, можа, не трэба? Можа, будзем шанаваць і "тарашкевіцу", і "наркомаўку"? Працэс зліцця, арганічнага сінтэзу двух правапісаў пачаўся быў — з кампетэнтнага і памяркоўнага абгаварэння, і пры спрыяльных абставінах мог бы спраўдзіцца.

Не спраўдзіўся. Як не спраўдзілася канчатковае зліццё двух берагоў беларускае літаратуры — дыяспары і метраполіі.

А яно павінна быць. На якой падставе?

Вяртаюся да Купалавай формулы "Людзьмі звацца!". Гэта ж заклік да апошняй магчымасці з'яднацца. Калі нацыянальныя, рэлігійныя, моўныя чыннікі не з'ядноўваюць, а падзяляюць.

Адзінае, што можа паяднаць нашчадкаў крывічоў, — крэўнасць.

Хай Бог крые ад таго, каб гэта была крэўнасць, замяшаная на чалавечае крыві.

Крэўнасць —у сэнсе людскасці, як яе разумеюць беларусы.

І тады мы шмат што адзін аднаму даруем. Непадабенства не толькі ў мове. Або ў звычаі жагнацца.

Іначай — хай Бог беражэ нас ад гэтага! — усіх чакае напаўпусты яшчэ Кош для смецця. Бо ён для ўсіх падрыхтаваны. Для праведнікаў і яшчэ большых праведнікаў. Для беларусаў, "тожа беларусаў" і звышбеларусаў. Для аматараў "наркомаўкі", "тарашкевіцы" і аматараў "ваабшчэ" беларускай літаратуры.

Аднойчы беларуская літаратура амаль цалкам, за выключэннем двух-трох напалоханых да мядзведжае хваробы творцаў, ужо апынулася ў гэтым Кашы. Што яе вывела адтуль — у кожным выпадку, не ўласная інтэнцыя. Ізноў Божая рука.

Наступнага разу рука можа й не працягнуцца.

Наступным разам у Кашы для смецця апынуцца ўсе.

Каб вы ведалі: ужо шчыруюць глыбакадумныя тэарэтыкі, дасведчаныя ў "навуках вызваленых", для якіх Беларусь і ўсё беларускае — гістарычны казус, прыдумка бальшавікоў або Сталіна. Што Скарына быў рускі, бо пісаў па-руску, Адам Міцкевіч таксама, і ўсе мы гэтаксама рускія. За выключэннем рускіх, папсаваных пальшчызнай. Яшчэ крок — і пачнецца "выпраўленне" гістарычнага казусу.

І што "беларуская нацыянальная ідэя— гэта руская імперская ідэя". А гэта мы чулі на сустрэчы ў Акадэміі навук — з вуснаў асобных прадстаўнікоў расійскай пісьменніцкай арганізацыі.

Мы чулі, што хто не з імі, той супраць іх. І што ў беларускай пісьменніцкай арганізацыі завяліся ворагі, з якімі належыць змагацца.

Тое, чаму мы ўсміхаемся як недарэчнасці, дзівацтву, вось-вось гатовае стацца падмуркам новай нацыянальнай ідэалогіі для беларусаў. Яна ўжо варыцца, нібы вядзьмарская поліўка ў сагане, у нечых мазгах. А нішто так хораша не знішчае літаратуру, не скідвае яе ў кош для смецця **назаўжды**, як змена ідэалогіі.

Пасля не будзе каму высвятляць, хто першы, а хто апошні трапіў у Кош для смецця.

...Я не казаў пра ўнутрыцэхавыя сваркі, валтузню паміж асобнымі амбітнымі літаратарамі сталага і маладога веку за месца на паліцы. У гэтых выпадках Беларуская Бібліятэка пачынае нагадваць вялікае зязюльчына гняздо, у якім тузаюцца падгадаваныя зязюльчаняты, выпіхваючы адно аднаго долу. І таго не заўважаюць, што час выкідання з гнязда мінуў. Што іншыя птушкі даўно апырыліся й лётаюць.

Нагадаю і пра тое, што зязюльчына гняздо ў пераносным сэнсе, як лічаць ангельцы, — адменнік вар'ятні, ці то псіхушкі. Дык не ператворым гняздо літаратуры ў вар'ятню, каб не ўмерлі...

Марцін КОЎЗКІ

# Доля праўды

Пакрыўдзіў словам ці параніў фразай? Нішто гэта перад іншай заразай, калі захлынаюцца ад салодкіх слоў ці співаюцца ад "бывай здароў!"

●

Разгадайце сакрэт: чаму адны тэатры пустуюць, а ў другія не дастаць білет? Ці ёсць тут нейкі сюжэт? Ёсць, адказваюць статыстыкі, на ўсе тэатры не хапае аматараў. Існуюць тэатры аднаго акцёра, а няма тэатра аднаго гледача. Апрача... апрача тых тэатраў, дзе наогул ніводнага гледача. Недаследаваны кратэр — "пагарэлы тэатр". Тэатраў не ўзлёт, а дэградацыя — колькі ненапісаных дысертацый.

●

— Станцыя "Інстытут культуры", поезд далей не ідзе... Шматзначнае супадзенне на Мінскім метрапалітэне. Культура ў нас у загоне, і "калі ласка, пакіньце вагоны". Не мае ніякага значэння паяздоў абарачэнне — да былой плошчы Леніна і далей на "Усход". Мастацтва "абірае" грамадства, і калі яшчэ тое мастацтва пачне прыносіць даход. А пакуль "Інстытут культуры", аніякае кан'юнктуры...

●

Час, якога мы не маем, — мінулае, час, які нам нешта абяцае, — будучае, а рэальны час, той, што працякае цераз нас, — як мы яго не заўважаем, як паасобку і агулам перамолваем у мінулае? З марамі пра светлую прышласць? А як яна з'явіцца на Свіслач?

●

З Расіі прыйшла завядзёнка: спачатку расстрэл, а тады — чырвоная старонка, ці, наадварот, усё чын чынам, а тады — вон з дамавіны... Настаў мой час паміраць, мне б яго век не відаць, але калі вы нешта абяцаеце, дык няхай будзе так — страляйце!

●

— Усё вяртаецца ў савецкі час, — бурчэла бабка Праскоўя, — у магазінах тое ж счарнелае мяса, ды шчэ большая дарагоўля. — Што ты, — адказала баба Клава, — не ўсё па-ранейшаму робіцца — раней даходы йшлі дзяржаве, а цяпер прыватным асобам.

●

Спрабуюць апраўдаць Фадзея Булгарына: быў ён не даносчыкам, а ахвяраю, рабіў усё пад прымусам, а паходзіў з беларусаў... Не ведаю асалоды вастрэйшай, чым згледзець земляка ў мнагалюддзі, ды ці стане наш народ багацейшы за кошт такога паскуды?

●

Лаканічнага падкузьміла нешматслоўе. Прынцыпова гаварыў "медыцына" замест "ахова здароўя". Ды калі прыйшоў нялёгкі час, выявілася, што ўсё нестабільна: і ахова здароўя падводзіць нас, і медыцына бяссільная.

●

Мала, кажуць, надрукавацца, важна чытачу спадабацца. Калі ты яшчэ будзеш пісьменнікам, а ўжо трэба адзенне, салідна недзе выдацца, хутчэй з даўгоў выдрацца, займець свой голас у гомане, зачараваць знаёмых і незнаёмых, сказаць сваё слова ў мастацтве, у сабе неяк разабрацца... Падумай добра, летуценнік, раней чым падацца ў пісьменнікі.

●

Часам мяне дакараюць: аднастайна спяваеш. А я, як той дэхканін, што бачу, пра тое спяваю. Не дакараеце ж вы пустыню, што яна такая.

## Ушанаванне юбіляра

**Урачыстае віншаванне Сяргея Грахоўскага з 85-годдзем прайшло ў Таварыстве дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі, дзе наш старэйшы паэт бывае даволі часта, прымаючы актыўны ўдзел у розных мерапрыемствах.**

**Ушанаваць юбіляра прыйшлі як яго сябры па пяры, так і ўдзячныя чытачы, прадстаўнікі ўлад. У прыватнасці, Сяргею Іванавічу доўгіх гадоў жыцця, новых творчых поспехаў жадалі намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь І. Пашкевіч, намеснік міністра культуры В. Гедройц, намеснік старшыні Мінскага аблвыканкама С. Паўлюкевіч, старшыня прэзідыума Беларускага таварыства дружбы А. Ваніцкі...**

**І, зразумела, пісьменнікі — народны паэт Беларусі Н. Гілевіч, намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў В. Іпатава, М. Аўрамчык, Н. Гальпяровіч, А. Вярцінскі, А. Карлюкевіч, У. Ліпскі і іншыя.**

**Прыязныя словы юбіляру сказалі дырэктар Купалаўскага музея Ж. Дапкюнас, дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Г. Запартыка.**

**Знайшлося месца і паэзіі Сяргея Іванавіча, якая ў яго па-ранейшаму глыбока-змястоўная, публіцыстычна-вострая і разам з тым лірычна-светлая, пранікнёная.**

•

**Восеньскімі днямі грамадскасць Беларусі адзначае юбілей Сяргея Грахоўскага — знакамітага паэта, перакладчыка, публіцыста, грамадзяніна. Яму — 85!**



**У нас, у Мінскім дзяржаўным педагагічным каледжы, да свята была падрыхтавана выстава кніг Сяргея Іванавіча і навуковых прац пра яго творчасць. У групах праводзіліся спецыяльныя класныя гадзіны, прысвечаныя творчасці юбіляра.**

**Мы, група навучэнцаў педкаледжа, з вялікім задавальненнем прынялі запрашэнне Літаратурнага музея Якуба Коласа прыняць удзел ва ўрачыстасцях, прысвечаных юбілею С. Грахоўскага. У Коласаў дом быў запрошаны сам юбіляр і яго блізкія сябры. Было сказана шмат шчырых, цёплых слоў у адрас паэта. Выступалі Генрых Далідовіч — рэдактар часопіса "Маладосць" (ён і вёў вечарыну), Мікола Аўрамчык, які, па словах юбіляра, быў "пасляваенным першадрукаром" вершаў Сяргея Іванавіча. Ібрагім Канапацкі і Разалія Александровіч — татары па нацыянальнасці — выказалі сваю глыбокую павагу да творчасці Сяргея Грахоўскага, ды і не дзіва: слухаючы іх мову, правільную, мілагучную, можна было ўпэўніцца, што яны сапраўды паважаюць беларускі народ і шануюць нашу родную мову.**

**Шчыра віталі юбіляра Уладзімір Скарынкін — перакладчык,паэт, Міхась Пратасевіч — супрацоўнік Літаратурнага музея Петруся Броўкі, сын Якуба Коласа — доктар тэхнічных навук Міхась Міцкевіч, унучка Якуба Коласа Марыя Міцкевіч, выкладчыца нашага каледжа Валянціна Раманцэвіч. Прысутныя з замілаваннем слухалі вершы юбіляра ў выкананні артысткі Марыі Захарэвіч і навучэнкі педкаледжа Наталлі Канаш.**

**Добры падарунак Сяргею Іванавічу падрыхтавалі прадстаўнікі са Стаўбцоўшчыны: вялікі каравай і цудоўны канцэрт.**

**Напрыканцы вечарыны слова ўзяў і сам юбіляр, прачытаў свае вершы, расказаў пра цікавыя выпадкі з жыцця.**

**Вольга БУШМАКІНА,**
**навучэнка каледжа**

*Фота У. ГУЗОЎСКАГА*

# Вяртанне мастацкага эпасу

### НАД СТАРОНКАМІ РАМАНА "КРЫЖ МІЛАСЭРНАСЦІ"

Валянціна Коўтун пачала свой раман "Крыж міласэрнасці" ў 1982 годзе, а закончыла праз пятнаццаць гадоў. Сучасныя графаманы з камп'ютэрам за гэты час паспелі б выдаць пятнаццаць тоўстых "вострасюжэтных" кніжак, наладзіць свой бізнес на паперы. У кантэксце гэтай горшай з горшых маскультур Валянціна "не сучасны" пісьменнік. Затое яе інтэлектуальны твор добра глядзіцца ў кантэксце класічнай літаратурнай традыцыі — нацыянальнай і агульнаеўрапейскай. Мастацкі эпас пра жыццё, пакуты, смерць і ўваскрэсенне нашага духоўнага рыцара ў жаночай іпастасі, сапраўднай Цёткі новай беларускай літаратуры Алаізы Пашкевіч. А праз яе духоўны свет праходзіць цэлая эпоха беларускага культурна-нацыянальнага адраджэння.

Праца над раманам пачалася ў перыяд росквіту гэтага жанру ў былым СССР (70 — першай палове 80-х гадоў), працягвалася ў час яго ўпадку, і сёння напісаны твор працуе на вяртанне жанру рамана ў літаратуру. Першая частка (кніга)"Крыж міласэрнасці" пісалася на ўзлёце нашай раманістыкі 1970-х гадоў.

Не толькі ў нацыянальнай, айчыннай, але і ў сусветнай літаратуры не часта сустрэнеш раман, у аснове якога было б жыццё выдатнага пісьменніка. Часцей пішуць на гэтую тэму дакументальныя аповесці, дзе дастаткова надаць белетрызаваную форму вядомым з гісторыі падзеям і фактам, да якіх аўтар у лепшым выпадку дадае новыя факты, здабытыя яго ўласнымі архіўнымі ці краязнаўчымі пошукамі. Наогул жа, як здаецца, дакументальная аповесць апошнім часам выцясняецца навукова-публіцыстычным нарысам. Таленавітай літаратурнай публіцыстыцы звычайна ўдаецца раскрыць пэўныя рысы характару пісьменніка; аднак жа выявіць цэласнасць яго асобы як дзеяча гісторыі і нацыянальнай культуры, здаецца, пад сілу толькі мастацкай інтуіцыі. Тут патрэбна душэўная сумяшчальнасць паміж аўтарам і аб'ектам яго мастацкага выяўлення, больш таго, іх пэўная асабістая адпаведнасць. Кожны, хто далучаўся да свету Алаізы Пашкевіч, змог пераканацца, што яна была паэтам ва ўсіх праявах свайго жыцця, а не толькі ў літаратурнай творчасці.

Зусім невыпадкова, што за стварэнне эпічнага твора пра яе жыццё ўзялася Валянціна Коўтун — паэт і навуковец. Захаваўшы вернасць паэзіі, яна разам з тым набыла вялікі вопыт як празаік, даследчык літаратуры і фальклору. У паэме "На зломе маланкі" (1979 г.) (па кампазіцыі, рытмічнай інтанацыі, меладычнасці і кантраснай вобразнасці гэты твор нагадвае санату для скрыпкі — паэтычная алюзія на "Скрыпачку беларускую" Цёткі) В. Коўтун узнавіла паэтычны вобраз Алаізы і яе Радзімы. Драматычная паэма "Суд Алаізы" (1985 г.) можа разглядацца як своеасаблівая прэлюдыя да будучага рамана, бо тут ужо вызначыліся контуры некаторых раманных герояў і іх антаганістаў.

Апошнім часам пачаліся атакі на традыцыйную плынь беларускай прозы, моцнай не займальнай фабулай і не меладраматычнымі падзеямі, а слоўным жывапісаннем шматграннасці народнага быцця. Мне бачыцца ў гэтай тэндэнцыі сур'ёзныя хібы ў мастацкім гусце, які ў рэшце рэшт у нас не вытрымаў напору масавай культуры. У друк усё часцей трапляюць аповесці і раманы, разлічаныя на "лёгкае" ўспрыманне сучаснага "раз'язнога" чытача, новага "цывілізаванага качэўніка". Тут не было б ніякай бяды, каб займальная літаратура, асабліва на сюжэты з айчыннай гісторыі, не страчвала нешта істотнае ў сэнсе мастацкай меры і вышыні эстэтычнага густу. Аднак меры і густу якраз не стае, што, на жаль, яшчэ не вельмі хвалюе нашу крытыку. Яшчэ горш, калі сёння за раман выдае сябе белетрызаваная аўтабіяграфія яго аўтара.

Аўтар "Крыжа міласэрнасці" пайшла па нялёгкім шляху стварэння інтэлектуальна-філасофскага рамана. Шматграннасць, дыялагічнасць і антынамічнасць ісціны ці праўды жыцця раскрываюцца ў ім праз унутраны, лірычны свет гераіні, а таксама праз сістэму ўзаемазвязаных фабул навелістычнага тыпу, дзе значную змястоўную нагрузку нясуць на сабе пластычна выпісаныя вобразы, падзеі і ўчынкі, якія, апрача свайго чыста сюжэтнага значэння, маюць яшчэ апасродкаваны, сімвалічны сэнс.

Поспех ці няўдача мастацкай рэчы шмат у чым прадвызначаюцца яе экспазіцыяй, "дэбютнай часткай". У рамане В. Коўтун яна нечым нагадвае пачатак санатнай музычнай кампазіцыі. Уяўляецца беларускі драўляны горад 1900-га года на беразе ракі Піны, што як быццам бы прымроіўся ў раннім сутонні, калі цемра ночы паволі адыходзіць, а дзень яшчэ не настаў. Размытыя абрысы ўсяго наваколля — воднай стужкі ракі, яе берагоў, гмахаў гарадской плошчы — напаўрэальныя, сатканыя з быцця і небыцця. А ў цэнтры гэтага акварэльнага пейзажу — тонкая постаць дзяўчыны-пілігрымкі: "Нечаканы боль, што верацяно, рэзка кальнуў вастрыём знутры, з самай сярэдзіны грудзей, ажно перахапіла дыханне. Мігатлівая зорка, успыхнуўшы ў вачах, тут жа разляцелася чырвонымі кропачкамі, пачала нечакана і часта пульсаваць".

Намаганнем волі Алаіза вяртаецца ў рэальнасць. Жыццё павятовага гарадка на беразе Піны шматгалосна і шматфарбна разгортваецца перад вачыма адукаванай сялянскай дзяўчыны. Яна перапыніла вучобу на апошнім курсе віленскай прыватнай гімназіі, дзе разам з ведамі набыла цяжкую хваробу лёгкіх, і цяпер вяртаецца ў вёску, каб прынікнуць да роднай зямлі, наладзіць школку для сялянскіх дзетак, сустрэцца з бацькамі і сябрамі дзяцінства.

Трагічны матыў гэтай уверцюры да "сімфоніі жыцця" будучага выдатнага паэта і грамадскага дзеяча ў вобліку міласэрнай жанчыны змяняецца жанравай карцінай у стылі жывапісу Брэйгеля Мужыцкага: Алаіза назірае, як гандлёвая плошча на беразе Піны напаўняецца шумам-гоманам летняга кірмашу з яго характарыстычнымі, часам амаль гратэскавымі постацямі сялян і местачкоўцаў, што паводзяць сябе вольна і раскавана — як на карнавале. Побыт і мастацтва не толькі суседнічаюць, але і перамешаны ў агульнай плыні жыцця: на прыбярэжжы вірue кірмаш, і ў гэты ж час за прыстань зачапілася баржа, а на ёй — артысты-аматары наладзілі спектакль — паказваюць "Пінскую шляхту" В. Дуніна-Марцінкевіча, звяртаюцца да кірмашовай публікі на палескай гаворцы. Тут упершыню пачула Алаіза, як гучыць беларускі верш са сцэны вандроўнага тэатра.

У душы Алаізы міжвольна ўзнікаюць прывідныя малюнкі роднай вёскі, аблічча блізкіх і далёкіх людзей. Яны адразу ж загаварылі — усе разам і гучна — "Цэлая залева розных слоў". Губы шэпчуць рытмічныя радкі — паэтычная імправізацыя. Пазней гэтыя радкі ўплятуцца ў вянок, які паэтка ўпрыгожыць галоўку беларускай сялянскай дзяўчынкі Касі ў вершы-карціне "Лета". Воблік аднаго з вандроўных артыстаў нагадаў Алаізе стогадовага Сцяпана з яе вёскі Стары Двор, які пазней стаў героем яе шчымліва-элегічнага апавядання "Асеннія лісты". Там крыж сімвалізуе пакутлівыя жыццёвыя дарогі духоўна багатых натур з народнай гушчыні. Там жа, у роднай вёсцы, упершыню захацелася спагадлівай дзяўчынцы ўзяць на свае малыя плечы часцінку гэтага цяжару жыцця.

На пінскай прыстані Алаіза сустрэла арцель кафельшчыкаў. Сярод іх — сябра дзяцінства Костусь Каранец, сірата, які шэсць гадоў таму прыехаў да свайго дзядзькі Міхайлы Гмырака, арандатара на зямлі Алаізінага бацькі Пашкевіча Сцяпана. Роднага сына Андрэя Міхайла адправіў да сваякоў у Пецярбург на вучобу, а Костусь наняўся да Пашкевічаў пастухом. І цяпер на шчацэ хлопца заўважыла Алаіза шрам ад пугі, якой пачаставаў арандатар былога пастушка. Костусь быў адным з тых, каго ратавала ад зняваг Алаіза.

Плывучы на баржы разам з арцельшчыкамі і вандроўнымі артыстамі, яна наноў перажыла тую шчаслівую пару жыцця ў бацькавай хаце перад ад'ездам у Вільню, За шэсць гадоў сябры яе змяніліся: Андрэй забыў дарогу да роднай вёскі, а Костусь, надзелены ад прыроды талентам мастака, растрачвае яго марна, мкнецца "выбіцца ў людзі" з свайго парабкоўскага стану.

Пад ціхае плюхаценне баржы Алаізіна памяць узнавіла яркія карціны сядзібнага побыту, каларытныя вобразы вяскоўцаў. Вясковае "інтэрмецца" — адзін з лепшых фрагментаў рамана: аўтару ўдалося перадаць духоўнае адзінства працаўніка-селяніна з зямлёю, сядзібай з няхітрымі, але дасканалымі і прыгожымі ў сваёй прастаце хлебаробскімі прыладамі працы. Лізанька атрымала ад бацькоў лепшыя рысы народнага характару — працавітасць, сялянскую цягавітасць, таленавітую і спагадлівую душу, урэшце, яшчэ і сціплыя сродкі, каб вучыцца ў прыватнай гімназіі. Найбольш каларытны тут вобраз старэйшага з Гмыракаў — дзеда Гаўры, удзельніка паўстання 1863 года. Гадоў дзесяць таму назад вярнуўся ён з мураўёўскага астрога і царскай ссылкі, страціўшы маёмасць, шляхецкае званне і нават павагу з боку сваіх мітуслівых сына і ўнука. Вось ад гэтага "кінжальшчыка" і касінера, каго дамашнія лічылі бадай што вар'ятам за "старамодны" дэмакратызм і беларускае донкіхоцтва, маладая Пашкевічанка атрымала бласлаўленне на вучэнне і творчасць.

Вясковае жыццё Алаізы, яе бацькоў і аднавяскоўцаў пададзены ў форме эпізадычных імпрэсій ці ўспамінаў гераіні. Пазбягае аўтар прамой паэтызацыі вёскі ці празмернай драматызацыі цяжкай сялянскай працы. Дзед Алаізы меў аж два фальваркі, адзін з якіх дастаўся яе бацьку Стэфану. Тыповыя "кулакі" паводле мерак "сацыялагічнага" літаратуразнаўства. А па шчырай праўдзе такія сялянскія сем'і былі, як правіла, шматдзетнымі, трымаліся на сялянскай цягавітасці, памножанай на хлебаробчы талент іх гаспадароў. З асяроддзя такіх "фальваркавых" сялян і дробнай шляхты выйшлі першыя беларускія пісьменнікі-адраджэнцы.

Творчасць Цёткі, як вядома, вызначаецца дынамічнай рытмікай, яе фабулы, вобразы і сюжэты рухомыя, кантрастныя, і ў гэтым бачыцца прыкмета новага мастацкага мыслення дваццатага стагоддзя. Вечнай пілігрымкай была і сама паэтка, яна ніколі доўга не заседжвалася на адным месцы з таго часу, як семнаццацігадовай дзяўчынай пакінула бацькоўскую хату.

І ў рамане "Крыж міласэрнасці" мы найчасцей сустрэнем Алаізу ў дарозе: на баржы, у цягніку, на дрогкім сялянскім возе, на шырокіх "лініях" Пецярбурга або ціхіх вулках Вільні. Разварушанае жыццё пачатку нашага стагоддзя В. Коўтун найчасцей падае праз успрыманне ці ўспаміны сваёй гераіні. Гэта, па сутнасці, паэтычны, лірычны метад адлюстравання рэальнасці, і ён прыносіць тут добры плён.

Прыкметы сучаснай рэалістычнай прозы — незавершанасць паасобных сцэн і эпізодаў, выкарыстанне прыёму "кінематаграфічнага мантажу", імкненне зафіксаваць "плынь свядомасці" герояў — прысутнічаюць у гэтым творы. Аўтар працягвае традыцыі псіхалагічнай прозы, заснаваныя ў беларускай літаратуры М. Гарэцкім, Кузьмой Чорным, і прадоўжаныя нашымі таленавітымі празаікамі 60—70-х гадоў.

Псіхалагізм дазволіў аўтару пазбегнуць аднамернасці ў абмалёўцы антаганістаў гераіні, альбо "нейтральных" персанажаў. Жандар Генісарэцкі — тыповы кар'ерыст, які роднага бацьку прадасць за трыццаць сярэбранікаў, калі толькі яму паабяцаць службовы поспех і адпаведныя матэрыяльныя даброты. І ў той жа час захоўвае вонкавае лоск і адукаванасць напаўсвецкага дылетанта. Створаны пісьменніцай вобраз цікавы ў якасці люстэрка для "дзеячаў", апантаных "комплексам янычара". Выбіўшыся "ў людзі" з асяроддзя простага народа, яны выракаюцца сваіх бацькоў, братоў і сясцёр, а разам з тым — роднае мовы і нацыянальнай культуры. Але і гэтага ім мала: трэба яшчэ вызваліцца ад рэштак сумлення, дзеля чаго янычары заўсёды "палілі масты", каб выпадкова не спатыкнуцца на парозе матчынай хаты, якая часам можа стаць перашкодай на дарозе да кар'еры. Ім патрэбна не толькі вырачыся ўсяго свайго, "хатняга", бацькоўскага, стаць чужынцамі ў некалі родным краі, але яшчэ ўзвесці паклёп на яго, абкрасці гісторыю свайго народа, пазбавіць мінуўшчыны і будучыні, адвучыць яго дзяцей ад роднай мовы, ад матчынай песні.

Жандарскі ротмістр Генісарэцкі ва ўсіх эпізодах рамана паводзіць сябе паводле

ЛіМ ЧАСАПІС

## На свята ў Любань — з медалём!

Яшчэ адной узнагародай папоўніўся "ўзнагародны запас" ветэрана вайны і працы, старэйшага дзіцячага паэта Івана Муравейкі, які жыве ў Любані, — медалём Васіля Віткі. Ён устаноўлены рэдакцыяй часопіса "Вясёлка". І медаль гэты пазначаны N 1.

Пачалося з таго, што ў 1996 годзе, калі не стала першага рэдактара "Вясёлкі", нашага выдатнага паэта-казачніка і педагога Васіля Віткі, рэдакцыя ўшанавала яго памяць прэміяй, надаўшы ёй імя гэтага цудоўнага пісьменніка і чалавека. Прэмія будзе прысуджацца паэтам, празаікам, мастакам, кампазітарам за лепшы твор года, змешчаны на старонках часопіса. Было створана журы, якое ўзначаліў паэт Артур Вольскі, адзін з тых, хто працаваў поплеч з ім, стаяў ля вытокаў "Вясёлкі". Менавіта журы тайным галасаваннем і вызначыла самага першага лаўрэата прэміі імя Васіля Віткі за 1996 год. Ім стаў Іван Муравейка.

Ганаровы дыплом і грашовая ўзнагарода былі ўручаны Івану Андрэевічу яшчэ летась, у красавіку, на свяце "Вясёлкі" ў Мінску. А вось з медалём выйшла затрымка. Надта ж доўга "чараваў" над ім скульптар Уладзімір Лятун, які ўзяўся выканаць заказ рэдакцыі. Але ў рэшце рэшт усё атрымалася найлепшым чынам: і партрэтная выява Цімоха Васільевіча, і яго факсімільны роспіс на медалі вельмі дакладныя.

З выпадку ўручэння памятнай узнагароды адбылося яшчэ адно свята для дзяцей. На гэты раз на радзіме лаўрэата ў Любані, і ў школе N 1, дзе вучыўся Іван Муравейка да вайны. Вышэйшую літаратурную ўзнагароду часопіса пад гарачыя воплескі школьнай залы Івану Андрэевічу ўручыў цяперашні рэдактар "Вясёлкі" пісьменнік Уладзімір Ліпскі. "Заслужаная ўзнагарода нарэшце знайшла свайго героя", — пажартаваў ён. А сам расчулены лаўрэат не прамінуў зазначыць: "З усіх маіх узнагарод гэтая для мяне самая даражэйшая, бо носіць імя чалавека, з якім сябраваў, якога любіў і паважаў за яго цудоўныя творы".

Потым Іван Андрэевіч прачытаў школьнікам вершы са сваёй новай кніжкі "Сем унукаў, сем дзядоў", якую выдала "Вясёлка". І гэта таксама навінка: творы ўсіх лаўрэатаў прэміі імя Васіля Віткі будуць выходзіць асобнымі кніжкамі. Іх падпісчыкі і чытачы "Вясёлкі" будуць атрымліваць у канцы кожнага года, замест 12 нумара.

А ў Любані гасцямі школьнікаў у той дзень былі яшчэ два супрацоўнікі "Вясёлкі" — паэты Мікола Маляўка і Мікола Чарняўскі. Яны цёпла павіншавалі лаўрэата, прачыталі свае вершы.

Шчыра, прачула пра свайго знакамітага земляка, пра даўнюю дружбу Івана Муравейкі са школьнікамі настаўнікамі і бібліятэкарамі раёна гаварылі на той сустрэчы дырэктар школы Аляксандр Аляксандравіч Шулякоўскі, дырэктар цэнтральнай раённай бібліятэкі Таццяна Іванаўна Астрэйка, загадчыца метадычнага кабінета Валянціна Васільеўна Брагінец: "Іван Андрэевіч — як палачка-выручалачка для нас. Ніколі ні ў чым не адмовіць, заўсёды нешта падкажа, параіць, напіша. Дзякуй яму за гэта..."

Мікола СІВЕЦ

## "Полымя", N 8

У нумары змешчаны эсэ В. Карамазава "Жавараночкам блаславёнае" і У. Мехава "Ва ўсмешцы сандалавай неферціці" і "Заканамернасць", вершы М. Мятліцкага, А. Зэкава, П. Саковіча, А. Майсеенкі, апавяданні А. Кірвеля "Чырвоная ружа з белымі плямісткамі", "Крыўда", "Глыбіня", жарты з аўцюкоўскага фестывалю У. Ліпскага "Смех зубы не лупіць...", працяг дзённікаў П. Панчанкі "Думаю, думаю...".

У перакладзе К. Паўтаржыцкага прапануецца раздзел з паэмы-эпапеі чэшскага паэта С. Чэха "Пад засеннюю ліпы" ("Апавед арганіста"). У раздзеле "Публіцыстыка" — роздум У. Содаля "Беларускія думкі" і ўрыўкі з кнігі Н. Цыпіса "Хабза", у якой расказваецца пра жыццё навучэнцаў прафесійна-тэхнічных вучылішчаў. Т. Лапкоўская знаёміць з перапіскай Зоські Верас і М. Забэйды-Суміцкага. Элементы ахоўнай магіі ў вясельным абрадзе разглядае ў артыкуле "Як нечысць адрэчысць..." З. Дрозд. М. Мішчанчук ("Любіць Радзіму") разважае аб творчасці У. Клішэвіча. Д. Бугаёў рэцэнзуе кнігу літаратурна-крытычных артыкулаў С. Андраюка "Пісьменнікі. Кнігі" ("Густа замешаная крытычная проза"), А. Марціновіч дзеліцца ўражаннямі ад кнігі А. Мельнікава "Кірыл, епіскап Тураўскі. Жыццё. Спадчына. Светапогляд" ("Залатавуст з Турава").

ВІНШУЕМ!

***Доўгае, яркае і цікавае жыццё ў Эдзі Сямёнаўны. І багатае на падзеі, а яшчэ, вядома, на творы, кнігі, бо працавала і працуе Э. Агняцвет натхнёна, мэтанакіравана. Прытым у розных галінах. Найперш —у дзіцячай літаратуры. У розны час для маленькіх і дзяцей больш старэйшага ўзросту выйшлі яе зборнікі "Васількі", "Ля піянерскага кастра", "Твае таварышы", "Госць з далёкай зямлі", "Незвычайныя канікулы", "Мы сур'ёзныя, мы вясёлыя", "Доктар Смех", "Хто пачынае дзень" і іншыя. Аб высокім майстэрстве Эдзі Сямёнаўны яскрава сведчыць тое, што яе кніга вершаў і перакладаў для дзяцей "На двары алімпіяда" адзначана такой прэстыжнай узнагародай, якой з'яўляецца Ганаровы дыплом імя Х.-К. Андэрсена. Важкія набыткі Э. Агняцвет і ў "дарослай паэзіі", у галіне перакладу. Яна з'яўляецца аўтарам лібрэта опер для дзяцей "Джанат" і "Марынка".***

***Віншуючы Эдзі Сямёнаўну са слаўным юбілеем, жадаем ёй здароўя, доўгіх год жыцця, новых твораў!***

Эдзі АГНЯЦВЕТ



●

*I перадумаць,*
*перасніць,*
*I перажыць,*
*перагужыць...*
*Якая б ні сціскала скруха, —*

*Не падаць духам!*
*I не губляць надзей,*
*Бо людзі для цябе,*
*А ты — дзеля людзей!*

### Ты называў мяне...

*У час той пакутны,*
*Да ложка прыкуты,*
*Ты называў мяне зоркай*
*I светлаю хмаркай...*
*Ды не!*
*Не была я ні зоркай,*
*Ні веснаю хмаркай,*
*А толькі бяссоннай*
*Тваёй санітаркай...*

### Зайздрасць

*Я не зайздрошчу рыначным абновам*
*I розным новаз'яўленым панам.*
*Я не зайздрошчу званням ганаровым*
*I ганарлівым іх уладарам.*

*I толькі ўсё ж адну я зайздрасць маю —*
*Да тых,*
*хто ў свет прыйшоў*
*пасля вайны*
*I зайздрасці маёй няма цаны —*
*Вайну ў пакутах зведала сама я.*
*I веру —*
*найшчаслівыя з людзей*
*Яшчэ пазней народзяцца.*
*Пазней!*

### Беларускім мастакам

*Хто не палюбіць нашых мастакоў,*
*Народжаных прыродай Беларусі?*
*Гляджу на нарачанскіх рыбакоў —*
*На мужных, як само жыццё, дзіўлюся.*

*I вось паклікаў іншы далягляд,*
*Які даўно шукала і шукала:*
*Там кожны ўзгорак*
*Над Дзвіною рад*
*Займець святло*
*Ад колераў Шагала.*

*А Вязынка зялёнаю красой*
*Усю маю душу запаланіла.*
*Тут зелена ад песні маладой,*
*Што некалі і я спявала з мілым.*

### А ў полі вярба...

*Малюе хтосьці незнаёмы свет —*
*Пустэльні,*
*Караваны,*
*Акіяны.*
*А мой мастак —*
*зямлі маёй паэт*
*У родны кут навечна закаханы.*
*Ён ведае не толькі цішыню.*
*Ёсць фарбы ашалелыя ад болю —*
*Чарнобыльскага, чорнага агню,*
*Сірочага агаленага поля.*

*Хай след бяды загіне ў горкіх снах!*
*Ёсць у мастацтва добрыя законы —*
*I будучыню нашу на руках*
*Калышуць Беларускія мадоны.*

### Смех Ганны Рыжковай

*Калі ўсміхалася Рыжкова —*
*Адказваў рогат, быццам гром.*
*Адно жывое скажа слова —*
*Нібыта апячэ агнём.*

*I помніцца яе прызнанне:*
*"Мой боль смяецца і крычыць!"*
*Яна ў жыцці знайшла прызванне*
*Па-свойму хворага лячыць.*

*I вострым беларускім жартам*
*Лячыла весела і ўпарта.*

*Ніколі сіл не шкадавала,*
*Не ўмела марнаваць хвілін.*
*Душа імклівая гукала*
*То Брэст, то Крым, то Сахалін.*

*Там госцяю была жаданай:*
*Дзень добры, Ганна! —*
*I фарбы роднае зямлі*
*На вопратцы яе цвілі.*

*Дарыла людзям летуценні*
*I смех, і слёзы — ўсё да дна!*
*"Напэўна, я памру на сцэне",*
*Казала родзічам яна.*

*Смех! Ён не падладны чыну*
*I не шукае нагарод.*
*Сваю адважную жанчыну*
*Назваў народнай сам народ.*

### Дзіця не помніць калыханак

*Жыве дзяўчынка ў інтэрнаце.*
*Тут ежа, гульні і цяпло.*
*I толькі маці, толькі маці*
*Няма і быццам не было.*

*Дзіця не помніць калыханкі.*
*Здаюцца самым страшным сном*
*У хаце п'яныя гулянкі*
*I хрыплы рогат пад акном...*

*I потым знікла ўсё на свеце.*
*Ёсць толькі цётачка з табой.*
*Бо для яе чужыя дзеці —*
*Сваёй становяцца раднёй.*

*А як жа з той, што нарадзіла,*
*Што можна маткаю назваць?*
*Ці прыйдзе час, ці будуць сілы*
*Яе знайсці і дараваць?*

*Калі ў далёкім адчужэнні*
*Яе замучыць неспакой,*
*Ці стане тая на калені*
*Перад пакінутай дачкой?*

### Жыць спадзяваннямі

*Шукаю незабруджанай паляны*
*I жаўранкаў, якія цешаць слых.*
*Рамантыкаў шукаю маладых —*
*Не ад гарэлкі — ад кахання п'яных.*

*Шукаю шчасця для маіх паэтаў —*
*Трывогаю народжаных паэм,*
*Бо нельга ж вечна захлынацца свету*
*Ад рыначных адносін і праблем!*

*Спагада будзе ў чалавечым родзе:*
*Хай кожны мае свой куток, пакой,*
*Каб не стаяў ніколі ў пераходзе*
*Стары жабрак з працягнутай рукой!*

*Зямлю не пераможа бездарожжа.*
*Бязвер'я ў сэрцы стомленым няма:*
*Калі радок мой людзям дапаможа,*
*Дык, значыцца, жыву я недарма.*

### Тост за будучыню

*Хай цемру закрэсліць светлая мроя,*
*Зярнятам — прысніцеся жніўныя сны,*
*Хай ластаўкам сніцца гуканне вясны,*
*А хлапчукам — паламаная зброя.*

ПРОЗА

### МЕСЦА

У перапоўненым тралейбусе вызваляецца адно месца. На яго пнуцца тры бабулькі. Перамагае спрытнейшая.

Так і чыноўнікі пнуцца на вольнае месца. Тут перамагае хітрэйшы.

### ЗАДАЧА

Якая задача стаіць перад літаратураю, мастацтвам? Думаецца, ніякай. Проста, гэта выяўленне душы народа. А зрэшты, пытанне такое ж вечнае, як і тое — у чым сэнс жыцця чалавека?

### ВАЖАКІ

Важакі камуністаў так горача адстойваюць свае ідэалы не таму, што моцна вераць у іх, а таму, што для іх гэта адзіны спосаб быць наверху, дарвацца да ўлады, якую страцілі. Яны дураць, як і некалі дурылі, простых людзей.

### ГІСТОРЫЯ

Адзін наш пісьменнік быў такі ўпэўнены ў вялікім значэнні сваіх твораў для гісторыі, для нашчадкаў, што загадзя збіраў экспанаты для свайго будучага музея. Складаў самапіскі ў пудэлачак, а на паперках занатоўваў: гэтаю ручкаю напісаны такі-та твор, а гэтаю —такі-та.

З часам аказалася, што не толькі тыя самапіскі, але і творы нікому непатрэбныя.

### ТУРМА

Арыштант сядзіць у турме, яго так альбо інакш кормяць (вядома, кепска), даюць казённую апратку, яму ні пра што не трэба думаць, ні пра што клапаціцца. Але вось яго выпускаюць на волю, і перад ім расхінаюцца праблемы — трэба недзе працаваць, недзе жыць, у нешта апранацца — трэба думаць, думаць, думаць. І ён міжволі пачынае сумаваць па турме, дзе яму жылося гэтак спакойна.

Пры савецкай уладзе нас таксама таксяк кармілі, за нас думалі, а цяпер выкінулі на свабоду — як хочаш, так і жыві, клапаціся пра сябе сам. Нездарма шмат хто засумаваў па той несвабодзе.

### СПАДЧЫНА

Раней усе беды жыцця трумачылі спадчынаю капіталізму. Цяпер усе беды жыцця тлумачаць спадчынаю сацыялізму.

### ГОРА

У важнага чыноўніка, прыбліжанага да ўладных структур, памерла жонка. Шмат якія арганізацыі, асобы прыслалі тэлеграмы спачування. Але ён чакаў спачування ад прэзідэнта. Спачування ад прэзідэнта не прыйшло, і гэта нашмат павялічыла гора чыноўніка.

### РУКІ

Кабета, абвешаная цяжкімі сумкамі, жалілася:

— Жанчыне трэба мець не дзве рукі, а хаця б чатыры, бо гэтыя дзве ўжо абвіслі да каленяў.

### АГУРКІ

Маскоўскія журналісты абазвалі Беларусь краінаю агуркоў. Якая ж гэта краіна агуркоў, калі, бывае, апельсіны ды бананы тут дзешавейшыя, чым агуркі? Хутчэй сённяшняя Беларусь — бананавая рэспубліка.

### ТРАВІНКА

Мы тысячы разоў бачым каласок на полі, травінку на лузе і раўнадушна іх мінаем. Але вось мастак спыніў іх на сваім палатне, намаляваў на фоне бялюткіх аблокаў альбо сіняга неба, і мы ўбачылі цуд, хараство, прыгажосць той травінкі, таго каласка, убачылі той цуд вокам творцы.

### ДЗЕНЬ

Мы часам пражывалі дзень і не разумелі, што то быў дзень шчасця, што тады варта было сказаць: імгненне, затрымайся! — хоць яно ўсё роўна не затрымалася б, а знікла б у чорным космасе, і як шкада, што мы тады не далалі яму яшчэ больш шчырасці і любові.

### ХТО ВЕДАЕ?

Ён нарадзіўся ў вельмі бедная сям'і, змалку зведаў голад, падрос, звязаўся з кепскаю кампаніяй і пачаў красці. Трапіў у турму. Адтуль выйшаў яшчэ больш адчайным, шмат піў, пабіўся з міліцыянерам і зноў трапіў у турму, ужо як рэ-

цыдывіст. І вельмі рана памёр. То, можа, гэтаму чалавеку трэба лепш было б зусім на свет не нарадзіцца?

Але ж і яму перападалі дарункі жыцця — сіняе неба, яркае сонца, зялёная трава... То, можа, дзеля іх варта было памучыцца на гэтым свеце?

### ЗА СПІНОЮ

Гаспадар правіў паяльную лямпу, вастрыў швайку, а парсюк у хляве дабрадушна рохкаў, не ведаючы, што гэта яму рыхтуюць смерць.

Так, часам, і чалавек. Жыве ў святым няведанні, што за яго спіною стаіць ужо з касою тая баба.

### ГЕРАІНЯ

Тусналобава-Марчанка, Зінаіда Міхайлаўна, медыцынская сястрычка, падчас вайны была вельмі цяжка паранена, ёй ампутавалі рукі і ногі. Ці можа быць для чалавека няшчасце большае? А пра

Лідзія АРАБЕЙ

# КАЛЕЙДАСКОП



## НАВЕЛЫ-КАРАЦЕЛЬКІ

яе пісалі, гаварылі толькі як пра гераіню і ніхто шчыра не паспачуваў яе бядзе, ніхто не заплакаў над яе доляю. Дзяржаве патрэбны былі не пакутнікі, а героі.

### КАЛЯНДАР

Кожны вечар я адрываю лісток календара. І раблю гэта, чамусьці, з задавальненнем. А чаго, уласна, радавацца? Кожны адарваны лісток набліжае да перасялення ў іншы свет.

### ПІЯНІНА

Маці доўга збірала грошы і купіла дачцэ піяніна, каб тая вучылася іграць. Але дзяўчынка іграць не хацела, яна зненавідзела тое піяніна, як магла, ад яго ўцякала. І матка біла сваю дзесяцігадовую дачку, за вушы, за валасы цягнула да інструмента. Хіба ж магла яна дапусціць, каб дарма прапалі такія вялікія грошы?

### ШКАДА ЧАЛАВЕКА

Не магу зразумець людзей, што, займаючы высокія пасады, маючы высокія зарплаты, махлярствам, штукарствам набіваюць свае кішэні доларамі, хапаюць іх, грабуць пад сябе — тысячы, мільёны долараў. У іх хапае розуму так моцна разбагацець, але не хапае розуму прадбачыць вынікі свайго махлярства. І вось такі багацей трапляе за краты і замест ананасаў сёрбае баланду, замест Канарскіх астравоў трапляе ў мясціны, дзе не так цёпла і ўтульна. Шкада чалавека...

### НЕ РАЗГЛЕДЗЕЛА

Удава слухала, як на юбілеі ўшаноўвалі памяць яе мужа-нябожчыка, і ёй не верылася, што людзі гавораць пра таго чалавека, з якім яна пражыла сорак гадоў. Яна ведала яго і сварлівага, і грубага, і бездапаможнага, і дробязнага, а з выступленняў паўставаў таленавіты, прынцыповы, вельмі сардэчны чалавек. Як жа яна сама ў ім гэтага не разгледзела?

### КРОК УЛЕВА, КРОК УПРАВА...

Жыццё... Крок улева, крок управа — і можа змяніцца і твой лёс, і лёс тваіх дзяцей, і тваіх унукаў.

### ТРОШКА

Беларускі хлопец Павел ажаніўся з рускаю дзяўчынаю. Прывёз яе ў сваю вёску. А там маці — добрая, спагадлівая, але надта закручаная ў рабоце. Сын папросіць яе чаго-небудзь, а яна яму:

— Пачакай трошка...

І раз, і другі:

— Пачакай трошка...

Руская жонка слухала, слухала і пытаецца ў мужа:

— Чего же ты мне не сказал, что тебя зовут Трошка, а представился Павлом?

### ТОЛЬКІ АДЗІН

Нядзеля. Едзем доўгаю вясковаю вуліцаю. Узбоч акуратныя дамкі, на лаўчаках сядзяць мужчыны, кабеты. Вадзіцель, ён жа старшыня калгаса, кажа:

— З усёй гэтай вуліцы толькі адзін чалавек ходзіць на работу ў калгас. Усе астатнія — пенсіянеры.

### ПЛАНЕТА ЗЯМЛЯ

Нішто з планеты Зямля не знікае, нішто не адрываецца ад яе і не ляціць у іншую галактыку. Як у велізарным млыне, ідзе тут бясконцы перамол матэрыі, энергіі, адно ператвараецца ў другое, знікаюць расліны, рыбы, звяры, людзі, дзяржавы, старое перамолваецца ў новае і новае ў старое. І так з веку ў век...

### САЛІДАРНАСЦЬ

Беларускі дзяржаўны сцяг узяў сабе чачэнскі зялёны колер. А чачэнскі дзяржаўны сцяг прышпіліў да свайго зялёнага беларускі бел-чырвона-белы. Вось якая дзяржаўная салідарнасць!

### ПАМІНКІ

Тры дачкі на памінках гаварылі пра сваё вялікае гора — смерць маці. А мала хто ведаў, як пры жыцці той мацеры яны ледзь не біліся — спрачаліся — каму даглядаць старую хворую і як усе тры хацелі, каб яна скарэй памерла.

### АСОБА

Масквічы раптам незалюбілі асоб каўказскай нацыянальнасці. А ці даўно славілі яны асобу каўказскай нацыянальнасці на ўвесь свет? Ды і цяпер яшчэ шмат хто трымае партрэты той асобы на мітынгах.

### СЛАВА

Твор аднаго нашага пісьменніка пакрытыкавалі ў газеце. Ён сказаў:

— Няхай славяць, няхай крытыкуюць, абы пісалі пра мяне, абы маё прозвішча было на слыху.

Здаецца, некаторыя палітыкі трымаюцца такой самай думкі: учыняюць скандалы, абы пра іх гаварылі, абы іх твары красаваліся на экранах тэлевізараў.

### МУЖЧЫНЫ

Раніцою ў тралейбусах, у метро мужчыны едуць свежанькія, чысценькія і ад іх пахне адэкалонам — нядаўна пагаліліся.

Вечарамі мужчыны едуць расхрыстаныя, спацелыя і ад іх пахне гарэлкаю.

### САКРЭТ

Ніколі не расказвайце сваіх сакрэтаў, нават пад вялікім сакрэтам і нават самаму блізкаму сябру, бо ўсё роўна пра яго будзе ведаць цэлы свет.

Трымайце свой сакрэт у сакрэце.

### НЕ БУДЗЬ КРАСІВАЙ...

Яна была вельмі прыгожая, ніводзін мужчына не мог прайсці паўз яе, не зачапіўшыся вокам за яе прыгажосць. Яна выйшла замуж за вядомага ў краіне чалавека, прыгожага і таленавітага. Але, пражыўшы з ёю некалькі гадоў, ён пакінуў яе і яна засталася адна гадаваць дваіх дзяцей. І больш не выйшла замуж.

А колькі пачвар шчасліва жывуць са сваімі дурнымі мужыкамі...

Нездарма кажуць: не будзь красівай, а будзь шчаслівай...

### РАДЗІМА

Уздзеншчына. Мінаю мяжу раёна і трапляю ў царства, дзе жывуць духі продкаў. Яны пазіраюць на мяне адусюль, і я пазіраю на ўсё ўжо іхнімі вачмі. Стромкія хвоі, нібы трубы велізарнага аргана, стаяць усцяж дарогі, здаецца, вось-вось пачуецца музыка. За вёскаю шырока расхінаецца зялёная далеч, па сінім небе з далёкага краю ў далёкі край бясконца плывуць густыя белыя аблокі. І нідзе так далеч не расхінаецца, і нідзе так не плывуць аблокі. Тут велічна заходзіць за лес сонца. Тут асаблівае, празрыстае паветра, тут лёгка, добра дыхаецца і спакойна спіцца. Радзіма...

### ХЛЕБ

Толькі з гадамі дазналася, што існуе цэлая навука харчавання. Тое можна есці, тое не вельмі, а іншае наогул шкодна. Мы, пакаленне вайны, не ведалі такога клопату, нам было хоць крышку, абы чым спатоліць голад. Мая знаёмая зусім не есць хлеба, ад хлеба, маўляў, таўсцеюць. А я памятаю, як для нас кавалак хлеба быў запаветнаю мараю.

### КРЫЎДА

Найбольшая пакута сэрцу, калі крыўдзяць цябе несправядліва.

А калі ты адчуваеш, што заслужыў пакаранне — трываць яго будзе лягчэй, чым тую несправядлівую крыўду.

### ДЫСПУТЫ

Калі я сёння слухаю дыспуты на рэлігійныя тэмы — аб новым прыходзе Хрыста, аб канцы свету і іншыя, — яны нагадваюць мне дыспуты сярэдневякоўя на тэму — колькі чарцей можа змясціцца на канцы іголкі. Няўжо чалавецтва так недалёка адышло ад той пары? Альбо вяртаецца ў сярэдневякоўе?

### ДАБРАТА

Добры чалавек — не прафесія, — з пагардаю гавораць тыя, што лічаць сябе таленавітымі.

Але добры чалавек — з'ява куды больш рэдкая, чым талент.

### ПРЫГНЁТ

У сталінскія часы Расію будавалі мільёны гулагаўцаў — дармовая рабочая сіла. Відаць, без яе нельга абысціся ў Расіі і сёння — ізноў мільёны працуюць задарма — без зарплаты.

Іначай Расію будаваць не ўмеюць.

### ВЕРА

Для яе вышэй за ўсё была вера ў Бога. Яна хацела, каб тая вера служыла ўсім. І мэтаю свайго жыцця паставіла — аднавіць царкву ў роднай вёсцы. Яна хадзіла па людзях, збірала рублі. Але тых рублёў не хапала. Яна прадала сваю кватэру ў горадзе, грошы аддала на царкву, сама пайшла ў манастыр. Але і тых грошай не хапіла.

Гісторыя не прыдуманая.

### ВАЛАСЫ

Некалі амаль дысідэнтамі лічыліся хлопцы з доўгімі валасамі, яны сваімі кудламі быццам выказвалі пратэст, іх баяліся.

Сёння баяцца хлопцаў з нагола стрыжанымі галовамі, у іх людзі бачаць сабе небяспеку.

### КНІГІ

Перапісвала кнігі на прадмет завяшчання, іначай натарыяльная кантора такога дакумента не афармляе. Колькі ж у мяне збораў твораў! І некаторыя з іх нават не разгортваліся. Купляліся кнігі, каб чытання хапіла на ўсё жыццё. Аднак не хапіла жыцця, каб прачытаць усё, што стаіць на паліцах.

### ЗВЫЧАЙ

Па старым вясковым звычаі дзеці ўсё жыццё называлі матку на "вы". Аднойчы дачка, ужо зусім дарослая, загаварыла:

— От, мама, вы ж нам самы блізкі, самы дарагі чалавек, мы павінны казаць вам "ты", а мы ўсё "выкаем".

Маці нахмурылася, падумала і сказала:

— Ну, калі вы ўжо такія разумныя, то "тыкайце".

Больш дачка на гэту тэму не загаворвала.

### КАЛЕКА

Дружна жывуць муж і жонка шмат гадоў і ўжо нібы зрасліся між сабою. Што баліць яму, баліць і ёй, што цяжка ёй — цяжка і яму. Ды вось адзін адыходзіць у іншы свет, і другі застаецца калекам — ампутавана частка яго самога.

### ТАК БЫЛО

З Ядвігай Бяганскай ехалі аўтобусам з Варшавы ў Кракаў. Па дарозе вырашылі заехаць у Паронін, дзе нейкі час жыў Ленін — Бяганская стварала сваю дзіцячую ленініяну. Пасажыры адразу пазналі ў нас "рускіх", і калі мы пачалі праціскацца да выхаду, здзекліва загаманілі:

— Ім Ленін трэба!..

— Яны без Леніна не могуць!..

— Камуністкі, камуністкі!..

Аўтобус праводзіў нас нядобразычлівым гулам.

### З ТОЙ ЖА ПАЕЗДКІ

Не магла зразумець, чаму палякі так кепска ставяцца да нас, савецкіх. Адна кабета гаварыла:

— Нам што немцы, што саветы — усё роўна.

— Ну як вы можаце раўняць нас з немцамі, — спрачалася я. — У іх жа былі канцлагеры!

— І ў вас былі канцлагеры, — заявіла полька.

Яны пра нас ведалі больш, чым мы самі...

### МАТКА І СЫН

Свякруха з нявесткаю пасварыліся па тэлефоне, і свякруха ў злосці сказала нявестцы: каб ты здохла!

Неўзабаве нявестка памерла, і сын вырашыў, што гэта матка пракляла яго жонку. І болей ні разу не адведаў матку, і нават на яе пахаванне не прыйшоў.

### ВЯЛІКІЯ І МАЛЫЯ

Вялікія дзяржавы выступаюць міратворцамі там, дзе малыя дзяржавы ваююць. Але каб тыя самыя вялікія дзяржавы не прадавалі тым самым малым дзяржавам вялікай колькасці зброі, то і тых войнаў не было б. Няхай бы біліся там кіямі ды камянямі. А так падобна на тое, каб нехта сам учыніў пажар, а потым бег бы яго тушыць.

### ЗА ЖЫЦЦЁ

Чалавек за сваё жыццё некалькі разоў мяняецца, некалькі разоў робіцца іншым чалавекам і разам з тым застаецца такім самым, якім нарадзіўся.

### АПОРА

Расія спрадвеку шукае апоры — на чым стаць, на што абаперціся, каб утрымацца, каб спыніць развал, каб запанавала справядлівасць. Шукалі апоры ў цара і ў Бога, але цара застрэлілі, а Бога аплявалі. Шукалі ў камунізме, у дэмакратыі, але рушылася глеба пад нагамі. Цяпер зноў хочуць абаперціся на крыж, на Бога. Але можна з верніка зрабіць атэіста, але нельга з атэіста зрабіць шчырага верніка.

### ВЫГНАЛІ

Хаджу па былым будынку Саюза пісьменнікаў, як па цёмным лесе. Якія дзверы ні адчыніш — незнаёмыя, чужыя людзі. Дзе літфонд? Дзе бухгалтэрыя саюза? Не знойдзеш, а калі спытаеш тых чужынцаў, робяць вялікія вочы. Які літфонд і што гэта такое?

Выціснулі, выгналі пісьменнікаў. І праўда — а навошта яны ўладзе, якая беларускіх кніжак не чытае. А можа, і ніякіх не чытае...

### ГОНАР

Дзе б і калі б ні выступаў паэт Андрэй Вазнясенскі, ён не праміне пахваліцца, як некалі Хрушчоў трос у яго бок кулаком.

Ці прадбачыў тады Хрушчоў, што Андрэй Вазнясенскі будзе гэтым так ганарыцца?

*(Працяг на стар. 12)*

ЛіМ ЧАСАПІС

## Мінск пакарыў нарвежцаў



**У Белдзяржфілармоніі адбыўся канцэрт аматарскага камернага хору "Модум" з Нарвегіі. Беларускія аматары класічных харавых спеваў здолелі пазнаёміцца з духоўнымі і старадаўнімі песнапеннямі гэтага паўночнага горада, з мелодыямі Эдварда Грыга, са старажытнымі гімнамі Нарвегіі. Невытлумачальна, але ў Нарвегіі — амаль 90 працэнтаў насельніцтва нараджаецца з абсалютным слыхам (!!!). Відаць, таму спевы — любімае хобі нарвежцаў. Бо ў кожным самым маленькім гарадку гэтай краіны (яны называюцца камунамі) ёсць свой хор, а часам і не адзін. У іх, як і ў хоры "Модум", спяваюць адвакаты і гандляры, настаўнікі і менеджэры, банкіры і муляры, хатнія гаспадыні і чыгуначнікі, студэнты і навучэнцы.**

**Высокая спявацкая культура нарвежскага народа была бліскуча прадэманстравана невялікім камерным хорам з горада Модум і аркестрам Бег-бенд з гэтага ж горада, выступленне якога адбылося ў другім аддзяленні канцэрта. Самы гарачы прыём аказалі гледачы абодвум калектывам. Без ведання мовы, без высокіх слоў пра палітыку, музыка, выканаўчае майстэрства нарвежцаў і цеплыня, разуменне, эмацыянальнасць беларускіх гледачоў злучылі сэрцы. Нарвежцы, не хаваючы слёз, плакалі, а кіраўнік хору Оген Норман Аймерстэн сказаў у заключэнне канцэрта, што гэта быў самы шчаслівы дзень у яго жыцці.**

**Нарвежцы прыехалі ў Мінск упершыню. Іх запрасілі з адказным візітам вядомыя самадзейныя калектывы Белдзяржуніверсітэта "Неруш" і "Родніца". Уражанне гасцей ад нашай сталіцы і яе жыхароў, як адзначыў кіраўнік дэлегацыі Харольд Бахе, — казачнае. "А цеплыня, з якой прымалі іх калегі з БДУ і сельскія жыхары Уздзенскага раёна, дзе нарвежцы таксама выступілі з канцэртам, будзе доўга саграваць іх сэрцы ў халодныя зімовыя вечары ў роднай Нарвегіі".**

**"Музыка і дружба" — сталі галоўным матывам стасункаў нарвежцаў і беларусаў, матывам напоўнілі сэрцы гасцей любоўю да Беларусі, што дае надзею на новыя творчыя сустрэчы.**

**Святлана СІМАНАВА**

*На здымку: на сцэне Белдзяржфілармоніі хор "Модум". За раялем мастацкі кіраўнік Оген Норман Аймерстэн.*

*Фота Мікалая ПЯТРОВА, БЕЛТА*

## Майстра пачуццёвасці і адкрытасці

**7 кастрычніка беларускаму жывапісцу Ізраілю Басаву споўнілася б 80 год. Да гэтай даты ў Нацыянальнай мастацкай галерэі адкрылася рэтраспектыўная выстава яго твораў, сабраўшы надзвіа вялікае кола яго прыхільнікаў і сяброў.**

**Басава многія называюць унікальным па манеры жывапісу і каларыце. І пры жыцці ён выклікаў жывую зацікаўленасць у гледачоў і прафесійных мастакоў, хаця выстаўляўся рэдка. Спачатку гэта было звязана з непрыкрытым супрацьпастаўленнем выстаўкамаў, а пасля ўжо ён сам не імкнуўся да ўдзелу ў калектыўных выставах, мабыць, чакаючы магчымасці нарэшце выставіцца персанальна. Калі яго творы яшчэ пры "савецкім" часе трапілі ў экспазіцыю выставы "Дыяспара" ў Маскве, вядомы маскоўскі мастацтвазнаўца Аляксандр Марозаў быў літаральна шакіраваны такім яркім адкрыццём мастака (1918 года нараджэння), захопленага пошукам заходняга мастацтва. Паралелі яго твораў можна вышукваць у Лежэ, Руо, Пікаса, нават у Сезана, але цалкам яго творчасць не мае прамых аналагаў і аналогій. Мастак жыў у сваім унутраным свеце, знарок альбо не, але не ўдзікуючыся палітычнымі і сацыяльнымі з'явамі. Ён проста многа працаваў, усялўляючы ў сваіх палотнах свой горад, каханне, мацярынства — так як адчуваў, ярка, каларытна і надзвычай адухоўлена. І як бы ні ламала яго жыццё, калі прыходзілася выставачныя экспазіцыі "заваёўваць штурмам", ён не згубіў свайго прыязна-пачуццёвага стаўлення да свету і людзей.**

**Стэндаль пісаў, што з часам мыслячых людзей будзе больш, чым тых, якія кіруюцца пачуццямі. І. Басаў быў акурат з апошніх, і на яго пасмяротнай выставе менавіта такім мы яго і бачым.**

КІНО

# Жанчыны з Краіны глухіх

Дагэтуль з пісьменніцай Р. Літвінавай у кіно супрацоўнічала толькі К. Муратава. Гераіня яе знакамітых "Трох гісторый" забойца Афелія (Р. Літвінава) кажа па ўласным сцэнарыі: "Я ненавіджу мужчын, я ненавіджу жанчын, я ненавіджу дзяцей..." Словы адной з галоўных герояў новага фільма В. Тадароўскага "Краіна глухіх" гучаць з той жа інтанацыяй: "Я ненавіджу ўсіх мужчын. Усе подлыя. Жыць трэба для сябе. У сабе". Гэта ўжо почырк: Р. Літвінава — прыхільніца вялікіх дыстанцый паміж людзьмі.

Сцэнарый да "Краіны глухіх" В. Тадароўскі і Ю.Кораткаў напісалі па аповесці Р. Літвінавай "Належыць і валодаць". Рызыкнулі. Атрымалася неардынарная і вельмі эмацыянальная карціна. Тэматычны працяг двух папярэдніх фільмаў Тадароўскага — "Каханне" і "Падмаскоўныя вечары". Бо героі "Краіны глухіх" зноў спрачаюцца паміж сабой, ёсць каханне альбо не.

Эксперыментальнасць карціны Тадароўскага пачынаецца з герояў: амаль усе яны — глухія. Большасць з дыялогаў "Краіны глухіх" — гэта альбо "размова рукамі", альбо гугнявае выгаворванне глухімі героямі сваіх маналогаў. Некаторыя з іх — філасофскія. "Людзі чуюць мільёны непатрэбных гукаў. Калі б я ўсё чуў, то звар'яцеў бы. Не хачу чуць!" — з роспачу кажа глухі мафіёзі па мянушцы Свіння (М. Суханаў). У фільме ёсць эпізод, калі глухая гераіня спрабуе навучыць сяброўку, у якой добры слых, чуць, як чуюць глухія — толькі шум мора. Аднак стук абцасаў, гул людскіх галасоў, машын, тыя "мільёны непатрэбных гукаў" перашкаджаюць пачуць самае галоўнае — стук уласнага сэрца. "У адной са сцэн мы заглушылі вулічны хаос гукаў шумам мора, каб падкрэсліць: чалавек заўсёды павінен мець нешта сваё ў душы", — кажа В. Тадароўскі (дарэчы, асаблівую атмасферу ў "Краіне глухіх" ствараe музыка С. Айгі). Толькі на хвіліну спыняе рэжысёр музыку гукаў. А потым зноў — какафонія вуліцы, дзе ніхто нікога не чуе. І не жадае чуць.

Глухіх і тых, хто мае слых, Тадароўскі так і называе — вырадкі і людзі (назва новага фільма А. Балабанава "Пра вырадкаў і людзей" — прыдатны эпіграф да "Краіны глухіх"). "Не люблю вырадкаў. Люблю ўсё прыгожае", — разважае Свіння. Аднак у карціне Тадароўскага, як і ў жыцці, адбываюцца цікавыя метамарфозы: пад маскай людзей хаваюцца вырадкі (Алёша), а пад маскамі вырадкаў — сапраўдныя людзі (Свіння), здольныя кахаць і марыць. Наогул вырадак — гэты тыповы герой новага расійскага кіно сёння на экране выклікае сімпатыю і спачуванне (вядома, толькі ў таленавітых рэжысёраў). Балабанаўскі кілер Даніла Багроў ("Брат") ці глухая Яя з "Краіны глухіх" — гэта эмацыянальныя каталізатары, якія вымушаюць іншых герояў дзейнічаць, адчуваць, вырашаць.

Галоўным гераіням "Краіны глухіх" — эксцэнтрычнай Яі (Д. Корзун) і падобнай на анёла Рыце (Ч. Хаматава) сімвалічна адпавядаюць супрацьлеглыя колеры. "Ты — чорная, а я — белая", — кажа Рыта. У далёкай Краіне глухіх, дзе марыць апынуцца Яя, ёсць усё: і сонца, і мора, і пальмы, і нават грошы ("ты глухая — табе даюць"). Няма толькі мужчын. Гераіня выключае іх са свайго жыцця. Па словах Тадароўскага, Р. Літвінава доўгі час сябравала з глухімі людзьмі і меназіта ў іх навучылася сваёй дзіўнай пластыцы, сваёй манеры існавання. Несумненна, Яя — экранны двайнік Р. Літвінавай.

Нягледзячы на слых, наіўная Рыта быццам "не чуе" сваёй эмансіпаванай сяброўкі: "Ты злая, бязлітасная, нікога не любіш. Усё — толькі сабе". Сэнс яе жыцця — Алёша (М. Цюнін). Кажуць, жанчынамі не нараджаюцца, жанчынамі робяцца. Паступова, крок за крокам робіцца паслухмянымі, даверлівымі дурніцамі. Неразборлівыя, але шчырыя словы Яі "я хачу, каб ты была шчаслівая" ўраз знікаюць у пяшчотным шэпце Алёшыных вуснаў. Дарэчы, Рыта і Алёша нагадваюць Германа і Лізу з "Пікавай дамы" (некаторыя бачаць у іх Сонечку Мармеладаву і Раскольнікава). Алёша — азартны гулец і ён таксама пакідае Рыту: яго раздражняе яе чысціня і самаахвярнасць. У любоўным трохкутніку Тадароўскага лішні — мужчына. Лішні ў жыцці Рыты, якая ўсё больш "размаўляе рукамі" і нарэшце траціць слых.

Некаторыя крытыкі бачаць у Яі і Рыце лесбійскую пару. Асабіста я ўбачыла жанчын, якія, нягледзячы на супрацьлеглыя характары, вучацца жыць разам. Вучацца разумець адна адну.Так бывае ў жыцці. А слабыя мужчыны — героі не толькі прозы Р. Літвінавай (пісьменніцу раздражняе слабасць). І ў новым фільме В. Абдрашытава "Час танцора", і ў новай карціне англійскага рэжысёра М. Лі "Самастойныя жанчыны", сюжэт якога нагадвае "Краіну глухіх", усе мужчынскія персанажы — разгубленыя, слабыя, вінаватыя. Час дыктуе свае: адносіны паміж жанчынамі і мужчынамі ўсё больш разглядаюць з боку пэўных колераў. В. Тадароўскі ахвотна іранізуе. Над часам. У адным з эпізодаў фільма Яя і Рыта ўспамінаюць, як у дзяцінстве спалі на адным ложку з дзяўчынкамі. "У інтэрнаце холадна было", — тлумачыць Яя. "Дык няўжо мы з табой — лесбіянкі?!" — робіць смяхотную выснову дзяўчаты.

Фільм расійскага рэжысёра В. Тадароўскага "Краіна глухіх", напэўна, самы ўдалы малабюджэтны праект студыі імя Горкага. Пасля прагляду карціны ў памяці занатаваліся твары маладых акцёраў, дыялогі, музыка. У выбары акцёраў В. Тадароўскі нагадвае каўказца, які патрабуе абавязковай цнатлівасці ад нявесты. Гэта ён павінен зрабіць акцёра зоркай. У "Краіне глухіх" маладая мхатаўская актрыса Д. Корзун сыграла сваю першую ролю ў кіно. "Зорную" ролю. А вось Ч. Хаматаву першым знайшоў В. Абдрашытаў. Маладая актрыса дэбютавала цяпер ужо ў лепшым фільме 1997 года "Час танцора", дзе сыграла моцную і самастойную жанчыну. Аднак і В. Тадароўскі, і Б. Худайназараў, у фільме якога цяпер здымаецца Ч. Хаматава, і нават вядомы тэатральны рэжысёр П. Штайн бачаць у Чулпан наіўную і бязвольную гераіню.

Прэм'ера "Краіны глухіх" адбылася на Берлінскім кінафэсце ў лютым. Фестывальная эстафета фільма працягваецца...

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**

ЛЁСЫ

# Ні дня без пэндзля

Сустрэча з творчым чалавекам, якая б яна ні была — выпадковая ці запланаваная — заўсёды нясе ў сабе цікавую інфармацыю. З Тэадзэіяй Іосіфаўнай Царык давялося пабачыцца пры адкрыцці выстаўкі твораў народных умельцаў Пухавіцкага раёна. А другі раз — ужо сам шукаў сустрэчы. Адсюль і гэтыя нататкі.

Сівенькая, трошкі прыгорбленая гадамі, з вясёлымі і ласкавымі вачамі, яна на чыста ўкраінскай мове коратка расказала пра сябе, падзякавала арганізатарам выстаўкі за тое, што далі ёй магчымасць дэманстраваць свае карціны.

Пры аглядзе пухавіцкіх экспанатаў асабліва ўразілі работы, напісаныя акварэллю і алеем. Да гэтага ўражання пазней дадалося яшчэ адно: аўтарка па-сапраўднаму і натхнёна занялася маляваннем толькі пасля выхаду на пенсію. Чаму так здарылася — гэта, напэўна, і ёсць адна з таямніц, адна з найскладанейшых загадак творчай натуры.

Шчыра кажучы, першапачаткова не было ў жанчыны часу і, самае галоўнае, — упэўненасці ў сваіх сілах, каб пісаць карціны. Праўда, выкройвала гадзіну-другую, каб хадзіць на спеўкі невялікага царкоўнага хору. Пасля замужжа пасыпаліся дзеткі: адразу хлопчыкі-двайняткі, затым дзяўчынка і яшчэ адзін хлопчык.

А як дзеці трохі падраслі пайшла працаваць поварам у дзіцячы сад. Гэта лічылася, што ў дзіцячым садзе, а папраўдзе, то трэба было карміць і станічнікаў, хто хацелі пакарыстацца паслугамі грамадскага харчавання. А ў пару сяўбы, сенакосу ці ўборкі даводзілася тройчы на дзень вазіць гарачую страву ў стэпавы стан. Ці ж да малявання там было!

Ішлі гады, сталелі дзеці. А рука нейк сама-сабой пачала цягнуцца да пэндзля, да фарбаў. Адкуль ішоў гэты імпэт, Тэадзэія Іосіфаўна не задумвалася. А калі б і задумалася, то, пэўна, прыйшла б да высновы, што за гэтым крыецца, як цяпер прынята гаварыць, генетычны покліч. Бацька займаўся шыццём, умеў падкаваць каня, цяслярыў, плёў кошыкі і, як вянец усяго, займаўся разьбой па дрэве. Маці, акрамя вядзення дамашняй гаспадаркі, лоўка вышывала, распісвала сцены мазанкі маляўнічымі кветкамі. Яна нават мела свой прафесійны сакрэт: фарбы — для большай трываласці — разводзіла на малацэ.

Дык вось адкуль браўся пачатак той неадольнай прагі трымаць пэндзаль у руках!..

Першую вялікую карціну Т. Царык напісала нешта за 2 ці 3 гады да выхаду на пенсію. На палатне блакітам іграе возера, над вадой схілілася ніцая вярба. На беразе стаіць дзяўчынка і, нібы зачараваная, глядзіць на заход сонца.

Нейк гэтая карціна трапіла на вочы дзецям, бо жылі яны цяпер асобнымі сем'ямі. Для іх не было таямніцай, навіной ці адкрыццём тое, што іх матуля ўмее маляваць. Яны бачылі партрэт свайго бацькі, выкананы каляровымі алоўкамі.

Сыны і дачка ў адзін голас выказалі шкадаванне, што адносна нядаўна даведаліся пра матчыны здольнасці. Калі б раней, то дапамаглі б падвучыцца. Ды і цяпер яшчэ не позна...

Аднойчы суседка-настаўніца прыйшла наведаць хворую Тэадзэію і прынесла паштоўку з партрэтам Раксаланы. Пры гэтым растлумачыла, што пажадана было б яго павялічыць, каб мог служыць наглядным дапаможнікам на ўроку гісторыі Украіны.

Хто ж такая Раксалана? Нарадзілася яна ў горадзе Рагацін цяперашняй Івана-Франкоўскай вобласці. У 1520 годзе, калі на горад напалі крымскія татары, Насці Лісоўскай (так тады яшчэ звалі яе) было 15 год. Дзяўчынку разам з многімі сялянамі захапілі ў палон і прадалі ў султанскі гарэм. Там яна атрымала турэцкае імя Раксалана. Як сведчылі сучаснікі, яна вылучалася незвычайнай прыгажосцю, розумам, музычным талентам. Стаўшы жонкай турэцкага султана Сулеймана І, мела вялікі ўплыў на палітычнае жыццё Турэччыны 20—30-х гадоў XVI ст.

Партрэт Раксаланы, выкананы ў духу італьянскага Адраджэння, з'яўляецца адным з першых станковых партрэтаў, створаных на Украіне. А ўкраінскі кампазітар Д. В. Січынскі ў 1908—1909 гг. у гонар зямлячкі напісаў оперу "Раксалана"...

Вядома ж, такая інтрыгуючая гісторыя не магла не натхніць Т. Царык на "творчы подзвіг". І копія атрымалася на славу!

З цягам часу давялося адмовіцца ад уласнай гаспадаркі, а потым наогул прадаць дом на Украіне і перабрацца ў Мар'іну Горку, дзе на ваенный службе знаходзіўся зяць.

Незнаёмая Беларусь сустрэла і прыняла вельмі цёпла. Не думала, не гадала Тэадзэія Іосіфаўна, што на старасці год, па яе словах, "Заглянэ сонэчко й у мое віконэчко, бо дужэ людыны гарні і чудовы".

І цяпер, нягледзячы на хваробу, Т. Царык штодня ўстае ў шостай гадзіне, ранікнёна моліцца Богу і да снедання малюе. Звычайна малюе па памяці. Толькі ж ёсць тут адна творча-індывідуальная асаблівасць. Спачатку акварэллю ствараецца невялікіх памераў карціна, а потым — з адпаведнымі зьмяненнямі і дадаткамі — значна большая і алеем. Шкада, што сёння вочы маюць "не той зір".

А часам находзіць такое, што ні ахвоты, ні настрою няма брацца за маляванне. Тады ўспамінаецца маладосць, успамінаюцца песні, што даўным-даўно спявала ці ў хоры ці проста так з дзяўчатамі.

...Выстава прайшла з поспехам. Сярод мноства запісаў, пакінутых наведвальнікамі, запомніўся вось гэты: "Царик Теодезия, дай Вам Бог здоровья!" Поўнасцю пагаджаюся з аўтарам пажадання.

**Валянцін ЛЯШЧЫНСКІ**

# "Мы ствараем не тэатр, а спектаклі"

Рэклама ў эфіры радыё "Бі-Эй", "Мир", на экране "Восьмага канала", маляўнічыя афішы, аб'явы нават у вагоне метро... Мабыць, зараз ніводны тэатр Мінска не праводзіць такой прадуманай і шырокай рэкламнай кампаніі сваёй дзейнасці, як гэта робіць новы тэатральны праект "Віртуозы сцэны".

Па праўдзе кажучы, такая гучная назва спачатку выклікае недавер і жаданне ўпэўніцца: ці сапраўды гэта віртуозы? Але тыя, хто прыходзіць у памяшканне клуба імя Дзяржынскага, дзе ўладкаваўся праект, могуць запэўніць, што ён так называецца па праву. Тут іграюць вядомыя акцёры з Тэатра-студыі кінаакцёра, Рускага тэатра імя Горкага, Нацыянальнага імя Янкі Купалы, Тэатра нацыянальнай драматургіі. Гэта Аляксандр Бяспалы, Анатоль Кот, Вольга Сізова, Таццяна Булгакава і іншыя. Поспех "Віртуозам" забяспечвае і выбар драматургічнага матэрыялу. Пакуль у іх афішы толькі два спектаклі: камедыі "Дурацкае каханне" Дзмітрыя Псафаса і "Сублімацыя кахання" Альда дэ Бенедэцці. Не так ужо і мала для тэатра, што не праіснаваў яшчэ і года. Як бачна, у абедзвюх назвах ёсць агульнае — каханне. І як кажа прадзюсер праекта Уладзімір Ушакоў, гэта невыпадкова:

— Зараз у тэатры можна рабіць дзве рэчы: паказваць камедыю і разважаць аб каханні. Няма сэнсу абмяркоўваць нешта іншае, бо само жыццё падае такія крызісныя і нечаканыя сітуацыі, што на сцэне кожнаму з нас хочацца пабачыць прыгожыя, кранальныя пачуцці і пасмяяцца ад душы.

Здаецца, Уладзімір не памыляецца, бо амаль кожнае прадстаўленне "Віртуозаў" збірае аншлаг, а ўдзячныя гледачы падоўгу не адпускаюць сваіх улюбёнцаў са сцэны. "Віртуозы" здольныя смяшыць, не ўпадаючы ў пошласць і не эксплуатуючы сексуальную тэматыку. Гумар у абедзвюх камедыях — менавіта добры гумар, бліскучая гульня розуму.

Рэжысёрам спектакляў выступіў масквіч Яўген Валабоеў, які курыруе творчую частку праекта і з'яўляецца галоўным рэжысёрам калектыву. "Сублімацыя кахання" была створана ў снежні мінулага года, прэм'ера "Дурацкага кахання" (гэтую п'есу прапанаваў праекту Яўген Валабоеў) адбылася ў канцы красавіка. Спектакль быў сыграны толькі тры разы, так што паводле тэатральных законаў да першага дзесятка прагонаў ён яшчэ з'яўляецца прэм'ерай. За лета ён быў "даведзены да розуму", падцягнуліся лепшыя акцёрскія сілы. Галоўную ролю ў гэтым спектаклі ўдала сыграў Уладзімір Ушакоў. Сыграў, дзякуючы настойлівасці рэжысёра, які прыклаў усе намаганні, каб вярнуць яго да акцёрскай працы пасля дзесяцігадовага перапынку.

"Віртуозы сцэны" — адзін з антрэпрызных праектаў, якія зараз набываюць усё большую папулярнасць. Аб эфектыўнасці і зручнасці такой формы арганізацыі тэатральнай дзейнасці сведчаць створаныя практычна адначасова праекты "Прыватнай антрэпрызы" са спектаклем "Пяць вечароў" і антрэпрызны па сутнасці "Арт" Малога тэатра, які ўвогуле стаў самай моднай пастаноўкай сезона. Вось што распавядае аб "Віртуозах" іх стваральнік Уладзімір Ушакоў:

— Сама ідэя такога праекта мусіравалася даўно. Мы вырашылі стварыць калектыў, які, на наш погляд, вельмі неабходны сёння. "Віртуозы сцэны" — аб'яднанне акцёраў, якія або мала, або ўвогуле не рэалізуюць сябе ва ўласных тэатрах. Мы праводзім адбор і запрашаем лепшых. Нам патрэбна сапраўды класная каманда. Іншай мы папросту не можам сабе дазволіць, бо тады не выжывем. Пастаяннай трупы ў нас не было і не будзе — гэта наш прынцып. Але ёсць акцёры (Анатоль Кот, Аляксандр Бяспалы), якія іграюць у абодвух нашых спектаклях, з пэўным колам людзей мы будзем супрацоўнічаць і далей, бо я ні ў якім разе не супраць адчування каманды. Мы ствараем не тэатр, а канкрэтныя спектаклі. Пакуль будзе да іх цікавасць — будзем працаваць, а не будзе яе... Мы не хочам займацца гвалтаваннем рэпертуару.

Праект "Віртуозы сцэны" — глабальны і, акрамя беларускай антрэпрызы, працуе, як агенцтва, з шэрагам мастакоўскім тэатраў. Амаль усе іх леташнія гастролі праходзілі праз яго: Тэатра сатыры, МХАТа... У кастрычніку з дапамогай "Віртуозаў" мы зможам убачыць расійскіх суперзорак з Ленкома Аляксандра Абдулава і Аляксандра Збруева, прычым не толькі ў Мінску, але і ў Гомелі, Магілёве.

Летась сумесна з Міністэрствам культуры і Нацыянальным Купалаўскім тэатрам "Віртуозы" правялі конкурс "Прызнанне ў каханні", на якім перамогу атрымала пара, якую рыхтаваў Яўген Валабоеў: Анатоль Кот і Людміла Сідаркевіч, акцёры з Тэатра нацыянальнай драматургіі.

Так што энергіі і жадання зрабіць тэатральнае жыццё Мінска больш цікавым "Віртуозам" не займаць.

**Юлія ПАЛАЧАНІНА**

ВЫСТАВЫ

# Уражваюць вытанчанасцю, буйствам фантазіі і каларыстыкі

З Беларусі імігруюць, на жаль, многія. З'язджаюць па розных прычынах. І зрэдку варочаюцца на пару дзён, каб пабачыць знаёмыя мясціны. Людміла Кальмаева вярнулася з Галандыі, дзе стала жыве апошні час, каб не толькі пабачыцца з роднымі, але і паказаць дома тое, што зроблена ёю за апошнія сем год. У Нацыянальнай мастацкай галерэі пры Саюзе мастакоў Беларусі працавала выстава яе новых жывапісных твораў.

Людміла нарадзілася ў Мінску, з сямі год займалася ў студыі С. Каткова. У 1964-68 гадах вучылася на аддзяленні тэкстылю і моды Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. Яе кіраўніком быў вядомы мастак, прафесар П. Масленнікаў. З 1968 года па 1973-ці правяла ў Эстоніі, навучаючыся на аддзяленні графікі Акадэміі мастацтваў Эстонскай ССР пад кіраўніцтвам прафесара П. Лухтэйна. На саюзным фоне прыбалтыйскія мастакі заўжды былі наватарамі. Справа тут не ў сістэме мастацкага навучання — яна была распрацавана для ўсіх рэспублік сталічнымі мастацкімі вузамі. Тут панавала разняволенасць мыслення, развітая лёгкая прамысловасць дала працу мадэльерам, мастакам дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва, тут шанавалі проста традыцыі творчасці — народнай ці прафесійнай. Усё гэта дапамагала прыбалтыйскім мастакам працаваць і тварыць з не жорстка абмежаванымі канонамі. Такое асяроддзе і выпеставала Л. Кульмаеву. Яна стала мастаком, неардынарным і цікавым. Вельмі хутка да яе прыйшла вядомасць. За 20 гадоў (1970-91) яна зрабіла больш за 200 праектаў плакатаў, з якіх амаль усе надрукаваны. Яе плакаты экспанаваліся па ўсім свеце, а сама Людміла жыла ў Мінску, працавала ў Акадэміі мастацтваў і ніводнага разу не выязджала за мяжу. Яна стала сябрам Саюза мастакоў Беларусі, атрымала ў 1986 годзе медаль "За трудовое отличие" — за поспехі ў творчай і выкладчыцкай дзейнасці, стала лаўрэатам усесаюзных і рэспубліканскіх конкурсаў плакатаў. А ў 1991 годзе яна выйшла замуж і апынулася ў горадзе Міддэлбург у Нідэрландах, і вось другі раз наведала радзіму.

Я пагутарыла з ёю падчас яе апошняга прыезду ў Мінск. Памятала яе па ранейшых нашых сустрэчах, калі яна выкладала ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце, вывозіла студэнтаў на практыку. Спакойная, шчырая, яна падабалася мне. І цяпер, на выставе, я назірала, як да яе падыходзілі былыя вучні, радаваліся сустрэчы, дзяліліся не толькі сваімі поспехамі, але і складанасцямі. І зноў, як у выкладчыцы, прасілі парады.

Дарэчы, у асобе Л. Кальмаевай наша мастацкая адукацыя страціла вельмі таленавітага выкладчыка. Яна стварыла сваю методыку выкладання акварэлі, з дапамогай якой можна навучыць карыстацца гэтай мастацкай тэхнікай кожнага чалавека. У аснове яе — калаж, выразаныя маленечкія кавалачкі рознакаляровай паперы, якія складаюць усе магчымыя адценні колераў. Спачатку складаеш з іх просты малюнак, падобны да таго, што ўжо ляжыць перад табою, з кожным разам ускладняючы яго, набіраючыся тэхнікі і вопыту. У Галандыі яна мае прыватных вучняў, простых жанчын ва ўзросце, якія ніколі не займаліся маляваннем. Ды пасля пэўнай колькасці заняткаў яны захапляюцца акварэллю і, галоўнае, у іх атрымліваецца. Людміла, на жаль, не паспела выдаць на Беларусі сваю метадычку, каб замацаваць для навучання гэты унікальны метад і аўтарскія правы на яго распрацоўку. Магчыма, яна ўсё ж выйдзе, але ўжо — як здабытак Галандыі, а не Беларусі.

Жыве Людміла, як я ўжо казала, у невялікім гарадку Міддэлбургу. Яе сённяшняе жыццё, распавядае мастачка, адрозніваецца ад жыцця на Беларусі. Так, яна сумуе. Асабліва сумавала ў першыя гады жыцця за мяжою. Сумавала па выкладчыцкай рабоце, па атмасферы акадэміі, па сябрах. Жыццё ў Галандыі — больш размеранае і спакойнае. Нават калі прыходзяць рэдкія госці, не прынята пытацца пра мастакоўскую працу, напрошвацца ў майстэрню, разважаць пра творчасць. Адказ будзе аднолькавы: усё пабачыце на выставе. Як тут не згадаць традыцыйныя для нас зборні ў майстэрнях, бясконцыя гаворкі і спрэчкі, развагі ля ненапісаных палотнаў. Натуральна, яна прызвычаілася да таго, што галандцы больш бавяць час перад тэлевізарам, чым за размовамі з сябрамі, мала ездзяць нават у Амстэрдам, не гаворачы пра замежжа, а паход у тэатр — вялікая рэдкасць з-за недаступна вялікіх коштаў білетаў. Нездарма муж мастачкі, неяк наведаўшы радзіму жонкі, дзівіўся такім частым і нескладаным для нас паходам у Нацыянальны тэатр оперы і балета.

Ёсць у галандцаў і цікавая нацыянальная адметнасць — нястомная прага вучыцца ў любым узросце і любому рамяству. У кожным больш-менш значным горадзе любой правінцыі створаны так званыя народныя універсітэты — муніцыпальныя структуры, дзе чытаюцца невялікія курсы па самых розных тэмах: ад філасофіі кітайцаў альбо старажытнаяпонскіх садзікаў да прыгатавання ежы. Збіраецца 20-25 чалавек, плацяць невялікую суму грошай і слухаюць курс, які дае пачатковыя веды. Людміла таксама вяла ў такім універсітэце курс. Які б, вы думалі — акварэлі, жывапісу? Не, патрабавалася нешта зусім арыгінальнае — так з'явіўся курс іканапіснай тэхнікі. "Калі толькі пераехала ў Галандыю, я ганарылася тым, што мастачка, і думала, што гэта будзе мець вагу ў тым грамадстве. Але мне сказалі — вось каб ты была бухгалтарам... А мастак — гэта не так ужо пачэсна, гэтае званне не аплачваецца вялікімі грашамі, наадварот — мастакі амаль заўжды людзі з мінімальным даходам, большасць з іх жывуць на дзяржаўную мізэрную дапамогу і павінны даказваць неабходнасць яе выдання штомесяц. Акрамя таго, за кожную прададзеную работу мастакі мусяць плаціць немалыя падаткі. А калі сума прададзеных твораў раптам перавысіць дзяржаўную дапамогу, могуць яе пазбавіцца. Ну, а галандцы па характары людзі сумленныя і ўтойваць ад дзяржавы свае заробкі звычкі не маюць. Першыя гады жыцця ў Галандыі мяне не прызнавалі, не прымалі ні ў якія аб'яднанні, я не мела па сутнасці аніякага заробку. Пасля ўзнікла ідэя стварыць свае курсы ў народным універсітэце. Дарэчы, маім вучням справа іканапісу спадабалася. Але на другі год мае курсы зліквідавалі, таму што зменшылася колькасць жадаючых. Я была вымушана заняцца прыватнымі заняткамі —



*Людміла Кальмаева.*

спачатку іканапісу, а пасля і акварэлі".

Людміла Кальмаева ўсё ж заваявала сваё месца ў мастацкім свеце гэтай краіны. Як мастак, яна мае для Галандыі надзвычайную адукацыю. Яна валодае тэхнікай жывапісу, станковай графікі, малявання, піша акварэллю, алеем, акрылам, тэмперай, алоўкам, пастэллю, працуе тушшу і пяром, стварае калажы і плакаты. Наша мастацкая адукацыя ўжо не ўпершыню сцвярджаецца як надзвычай разнастайная і, галоўнае, вельмі прафесійная. Людміла магла яшчэ тут, на Беларусі, парадаваць гледачоў магчымасцямі рэалістычнага нацюрморта пейзажа ці партрэта альбо заняцца віртуознай свабоднай імправізацыяй. Але заваяваць прызнанне ў чужой краіне ёй было цяжка, бо ў кола мастацкіх аб'яднанняў трапляюць звычайна "свае". Прабіцца на выставу ў галерэю эмігранту вельмі складана. Так, дзяржава падтрымлівае мастацтва — згадаем тую ж дапамогу па беспрацоўю, якую могуць плаціць неабмежавана доўга. Да таго ж, у вялікім горадзе заўжды існуе савет па культуры, працуе начальнік аддзела культуры. Ён мае права распараджацца часткай муніцыпальных сродкаў на правядзенне выстаў. Пад выставачныя залы выкарыстоўваюцца пустуючыя дамы, альбо, напрыклад, водаапорная вежа. Але ўсё гэта скарыстоўваецца на падтрымку менавіта канцэптуальнага мастацтва, якое ніколі нікім не купляецца...

Нядаўна Людміла, нарэшце, была прынята ў калектыў мастакоў, разам з якімі атрымала магчымасць выстаўляцца ў вялікіх галерэях. Гэта і танней, і, галоўнае, гэта тое самае прызнанне, якога мастачка дабівалася ўсе сем год жыцця ў Галандыі. Трэба сказаць, што яна выглядае на іх фоне сапраўдным прафесіяналам, бо большасць галандскіх мастакоў класічнай адукацыі не валодаюць. Яна і зараз спрабуе вынаходзіць нешта сваё, новае, напрыклад, новую графічную тэхніку, адзіна магчымую ва ўмовах адсутнасці стацыянарнага друкарскага станка. Ва ўсякім разе, мне падалося, што яе новыя работы, прывезеныя на Беларусь, — своеасаблівая справаздача аб яе мастацкім жыцці ў замежжы. Яны ўражваюць яшчэ больш, чым раней, вытанчанасцю, вельмі багатай каларыстыкай (мастачка не баіцца ўводзіць яркія і нават супрацьлеглыя колеры), буйствам фантазіі і вобразным багаццем, пачэрпнутым з народнай творчасці. Мастачка звяртаецца да сур'ёзных тэм і каляровых дэкарацый, яна ўглядаецца ў аснову жывапісу і спрабуе перадаць вібрацыі і нюансы свету...



*"Ягня".*



*"Цырк".*

**Наталля ШАРАНГОВІЧ**

*Фота К. ДРОБАВА*




## Словам зачараваная

ЛЮБОВІ ФІЛІМОНАВАЙ — 50

**Нарадзілася Любоў Філімонава ў знакамітай мінскай сям'і — яе бацька Герой Савецкага Саюза А. Філімонаў. Цікавасць да літаратуры праявіла яшчэ ў школьным узросце, марыла стаць пісьменніцай. Любоў да літаратуры і прывяла яе на аддзяленне мастацкага перакладу Літаратурнага інстытута імя М. Горкага, які скончыла ў 1972 годзе. Спачатку працавала на Омскім абласным тэлебачанні, а ў 1972 годзе вярнулася ў Мінск, восем гадоў была малодшым рэдактарам выдавецтва "Мастацкая літаратура", потым рэдактарам літаратурна-драматычнай рэдакцыі на Беларускім тэлебачанні...**

**Першыя вершы пісала па-руску, дэбютавала вершам "Босиком пойду за клюквой...", змешчаным ў дзевятым нумары маскоўскага часопіса "Сельская молодежь" у 1967 годзе. Паступова перайшла на беларускую мову, дэбютам тут былі вершы "Трапяткія бярозкі..." і "Надзея да паэта", апублікаваныя на старонках газеты "Чырвоная змена" 3 верасня 1972 года. Аўтар кніг паэзіі "Стазвоны", "Гучныя фарбы", "Імправізацыя", зборніка апавяданняў "Пад шолах ветразяў"... Займаецца і перакладам, пераўвасабляючы творы англійскіх, польскіх, французскіх, венгерскіх пісьменнікаў. З туркменскай мовы пераклала кнігу вершаў К. Чаліева "Чароўнае шкельца". З'яўляецца ўкладальнікам і адным з перакладчыкаў анталогіі дзіцячай туркменскай літаратуры "Кветкі Каракумаў".**

**З поўднем веку, шаноўная Любоў Аляксандраўна! Новых Вам поспехаў!**

## Жыве ў Крыме...

МІХАСЮ КАЗАКОВУ — 60

**З сонечным краем звязаў свой лёс паэт Міхась Казакоў, а нарадзіўся Міхась Аўрамавіч 8 кастрычніка 1938 года ў вёсцы Халіпы Горацкага раёна. У 1952 годзе паступіў у Мсціслаўскае педагагічнае вучылішча, якое праз два гады было расфарміравана, таму давялося заканчваць Крычаўскае педвучылішча (1956), а ў 1961 годзе М. Казакоў скончыў філалагічны факультэт Магілёўскага педагагічнага інстытута. З 1961-га па 1964 год быў настаўнікам, затым дырэктарам Галаборскай васьмігадовай школы Горацкага раёна. У 1964 годзе пераехаў у Крым, дзе працаваў у рэдакцыі сакскай раённай газеты "Красное знамя" — карэспандэнт, адказны сакратар, намеснік галоўнага рэдактара. У 1970 — 1972 гадах быў слухачом Вышэйшай партыйнай школы пры ЦК Кампартыі Украіны. Пасля заканчэння яе — адказны сакратар, першы намеснік галоўнага рэдактара абласной газеты "Курортный Крым", што выходзіць у Ялце.**

**Першыя вершы апублікаваў на рускай мове на старонках крычаўскай раённай газеты "Шлях сацыялізму", а ўпершыню ў беларускім рэспубліканскім друку выступіў у 1958 годзе. Цяпер піша па-беларуску і па-руску. У М. Казакова выйшлі кнігі паэзіі "Млечны шлях", "Родныя гарызонты", "Вянок васілька", якія пабачылі свет у Мінску, а таксама "Сем колодезей" (Кіеў) і "Вечный родник" (Сімферопаль). Піша і гумарыстычныя вершы, а таксама перакладае на рускую і беларускую мову творы іншых паэтаў.**

**Віншуючы Міхаіла Аўрамавіча з 60-годдзем, жадаем яму далейшых поспехаў у жыцці і творчасці!**

## Параднёны з Беларуссю

СЯРГЕЮ КРАСІКАВУ — 70

**Радзіма Сяргея Паўлавіча — вёска Аляксандраўка Кармілаўскага раёна Омскай вобласці (Расія). Друкавацца ён пачаў у дваццацігадовым узросце. Выдаў шэраг арыгінальных кніг для дзяцей і дарослых, якія выходзілі як у Маскве, так і ў Мінску. Шмат перакладае з рускай мовы на беларускую, якая стала для яго блізкай, бо шмат гадоў жыў на Беларусі. Дзякуючы Сяргею Паўлавічу рускамоўны чытач змог пазнаёміцца з творчасцю такіх паэтаў, як Алесь Бачыла, Пятрусь Броўка, Леанід Дайнека, Уладзімір Карызна, Алег Лойка, Валянцін Лукша, Янка Сіпакоў, Уладзімір Скарынкін і іншыя. У перакладзе С. Красікава выйшлі кнігі асобных з іх, творы некаторых прапаноўваў для газет і часопісаў. Выступае і ў галіне прозы. Адна з яго празаічных кніг выйшла і ў Мінску — зборнік "Легенды о цветах", — пра кветкі, якія растуць на розных кантынентах, а таксама пра тыя, што ўпрыгожвалі зямлю раней.**

**Здароўя Вам, шаноўны Сяргей Паўлавіч, і поспехаў у творчасці!**




Вера БУЛАНДА

## Еду я на Мсціж

*Еду я на Мсціж,*
*Еду я на Мсціж —*
*Першую сталіцу Беларусі.*
*Гэта не Парыж,*
*Гэта не Парыж.*
*Як Парыжам, Мсціжам ганаруся.*

*Шмат гадоў таму,*
*Шмат гадоў таму*
*З Францыі салдацік заблудзіўся.*
*І ў адным даму,*
*І ў адным даму*
*У вачах дзявочых утапіўся.*

*Прозвішча адно,*
*Прозвішча адно*
*Падарыў прыгожанькай мсціжанцы.*
*Быццам Віардо,*
*Словам, Буландо*
*Непрывычна вымаўляць славянцы.*

*І застаўся жыць,*
*І застаўся жыць*
*Не ў Парыжы Францыі далёкай,*
*Толькі на Мсціжы,*
*Толькі на Мсціжы,*
*Ды з маёй прабабкай сінявокай.*

*Еду я на Мсціж,*
*Еду я на Мсціж —*
*Першую сталіцу Беларусі.*
*Гэта не Парыж,*
*Гэта не Парыж.*
*Як Парыжам,*
*Мсціжам ганаруся.*

Сяргей ПАТАРАНСКІ

●

*Гляджу я на сад,*
*а там ні душы —*
*халодны пагляд*
*між яркіх шыпшын.*

*Гляджу я на куст,*
*нібыта на лёс —*
*алтар дзіўных муз*
*травою зарос.*

*Гляджу я на квет,*
*нібы на сябе —*
*п'е чмель кветкі цвет*
*у светлай журбе.*

Валерыя КУСТАВА

## Прыступкі жыцця

*У чым сакрэт таго,*
*што кожная прыступка*
*Каштуе мне кавалачак душы,*
*А іншаму — нічога.*

*Чаму я крочу у гады?*
*Чаму мне цяжка стала?*
*Настала старасць?*
*А ён вось,*
*хлопча малады,*
*Прабег іх і — нічога.*
*Але, звярнуўшыся назад, —*
*Ён старац —*
*чорны полаг.*

*Табе — не гэты шлях,*
*Не свой ты лёс знайшоў.*
*Табе — у іншы бок,*
*Табе у храм нябёс.*
*Табе — да Бога.*

# КАЛЕЙДАСКОП

*(Працяг. Пачатак на стар. 8—9)*

### ТРАГЕДЫЯ

Жыццё трагічнае, і як хто ўмее — шукае ад яго ратунку. Адны — у каханні, другія — у гарэлцы, трэція — у амбіцыі, чацвёртыя — у мастацтве. Але яна, трагедыя, усё роўна насцігае, і няма куды ад яе дзецца.

### ЛЁС

Яна шукала лепшага жыцця і з'ехала ў Амерыку. Але там моцна захварэла, яе спаралізавала і яна дажывае свой век у інваліднай калясцы.

Ад лёсу не ўцячэш нават за акіян.

### "ЗАПРЭТНАЯ ЗОНА"

Апавядае жыхар вёскі Крылава:

— Каля нас начальства дач сабе нафугавала, абгарадзіла высокаю абгароджаю, прахадную паставіла, міліцыі назганяла. Ды каб толькі дачы абгарадзілі, дык яшчэ кіламетры два лесу, гэта каб мы туды ў грыбы ды ягады не хадзілі. А я знайшоў дзірку ў абгароджы, мо хто знарок праткнуў, у лес зайшоў. А там грыбоў! Дзіва што — мала хто ходзіць! Толькі за баравіком нахіліўся, — тут міліцыянт.

- Папаша, что вы здесь делаете?

— Як што дзелаю? Грыбы збіраю...

— Здесь нельзя, здесь запретная зона!

- А пайшоў ты... — кажу яму. — Я тут век жыву, мой бацька тут жыў, дзед жыў, а ты ад мяне лес адгарадзіў!

— Нельзя, папаша, — і піхоць мяне, піхоць — да прахадной, за браму выганяе...

Кажуць, бабу вясковую ў лесе злавілі, тая пачала з міліцыянтамі брахацца, дык наручнікі начапілі, да прахадной у наручніках гналі...

Сажалку сабе зрабілі, рыбы туды напускалі, ды вялізная рыба, нейкі не наш сорт. Тую рыбу каўшом грабі, а на беразе сядзіць начальнік і ўнука вучыць вудзіць рыбку, чарвячка яму на кручок чапляе...

Іх асобны аўтобус возіць. Нас у яго не бяруць...

Чуецца доўгі мацюк...

### ДЗІЦЯ ГОРАДА

Бабка з унучкаю едуць у аўтобусе. Унучка глядзіць у вакно. На лузе пасвяцца каровы.

— Бабка, бабка, глядзі, лашадкі, — крычыць унучка.

— Якія ж гэта лашадкі, — кажа баба. — Гэта ж кароўкі, яны малачко даюць!

### ШОРТЫ

Памятаю, як у курортным горадзе Гагры міліцыянт вёў дзяўчыну ў пастарунак за тое, што яна ішла па вуліцы ў шортах.

Сёння ў некурортным Мінску дзяўчаты ходзяць па вуліцах амаль голыя.

### МАМА...

Калі дзіцяці кепска, яно плача і заве: "Мама!"

Трохгадовы Міця ніколі не кліча маму, бо ён не ведае — што гэта такое...

### ЖАБРАКІ

Якіх толькі жабракоў не сустрэнеш на вуліцах нашых і плошчах, у падземных пераходах. І старых і малых, і музыкантаў, і спевакоў, і нават цэлыя аркестры, паўз якія праходзіш ужо раўнадушна. Але ўразіла мяне адна жабрачка. Старая, бязногая, кепска апранутая, сядзела яна ў інваліднай калясцы каля Камароўскага базару і твар у яе быў такі спакутаваны... Яна не прыкідвалася няшчаснаю, няшчаснаю яна была сапраўды. Твар гэтай жанчыны стаіць перад маімі вачмі...

### МАЛЮНАК З НАТУРЫ

У перапоўнены тралейбус плішчацца людзі. На пярэдняй пляцоўцы, на апошняй прыступцы стаіць пажылая жанчына і далікатна просіць:

— Прайдзіце, калі ласка, крышку наперад...

Моцны дзед, што стаіць вышэй перад ёю, раптам паварочваецца і б'е жанчыну кулаком у твар. Потым нагою піхае яе ў жывот. Жанчына вывальваецца з тралейбуса.

У нармальнай дзяржаве вадзіцель здаў бы такога пасажыра паліцыі.

У нармальнай дзяржаве такі суб'ект на падобнае і не адважыўся б.

У нас — усё можна. Усё беспакарана. Вадзіцель зачыніў дзверы і паехаў. Пасажыры маўчалі.

### МІЛЬЯНЕРША

У нашым доме жыве мільянерка. Мільянерам, як вядома, прыходзяць у галаву розныя прыхамаці. Узбрыло ў галаву і нашай. Ні ў кога не спытаўшыся, яна наняла рабочых і загадала ім спілаваць у двары некалькі дрэў, якія ні ёй, і нікому іншаму не перашкаджалі. Аб'явіла, што на тым месцы зробіць кветнік, як за мяжою.

Ніякага кветніка яна не пасадзіла, у двары на тым месцы, дзе стаялі цудоўныя дрэвы, — лысіна.

У нармальнай дзяржаве на мільянерку, у самым лепшым выпадку, быў бы накладзены вялікі штраф.

У нармальнай дзяржаве мільянерцы такое не ўзбрыло б і ў галаву.

У нас — усё можна. Усё дазволена.

### У ВАС МАЎЧАЦЬ

Па тэлебачанні выступае італьянская журналістка:

— Не разумею вашага народа. Каб у нас, у Італіі, раптам адабралі ў людзей грошы, што яна збіралі ўсё жыццё, то, па-меншае, у нас адбылася б рэвалюцыя. У вас жа ўсе маўчаць.

### РОДНАЯ МОВА

Некалі, яшчэ ў сталінскія часы, быў зроблены замах на грузінскую мову. Дзяржаўнай хацелі зрабіць толькі рускую.

На дэманстрацыю выйшла ўся Грузія. На мітынгах гаварылі:

— У нашай гісторыі было ўсё. У нас адбіралі нашы землі, адбіралі нашы жыцці, адбіралі нашых жанчын. Але ніхто яшчэ не кваціўся на нашу мову.

Грузіны сваю мову адстаялі.

### НАВУКА

Самая вялікая і цяжкая навука жыцця — цярпенне...

### ПЕНСІЯНЕРКІ

Я памятаю амерыканскіх турыстак-пенсіянерак, якія некалі прыязджалі ў наш экзатычны для іх край. Гэта былі хораша прыбраныя пажылыя жанчыны з акуратнымі сівымі прычоскамі, з ветлівымі тварамі, белазубымі ўсмешкамі.

Я бачыла пенсіянераў у Амерыцы, у Канадзе. Яны мелі ўласныя дамкі, каля якіх раслі не агароды, а зелянелі газончыкі, цвілі ружы. Машынкамі яны стрыглі на тых газончыках траву, складалі ў вялікія чорныя поліэтыленавыя мяшкі і выстаўлялі за варотцы. Раніцою на машыне прыязджала спецыяльная служба і падбірала тыя мяшкі з травою. Толькі ў адной гаспадыні пры доме я ўбачыла кусцікаў пяць пасаджанай бульбы. Але гэта была настальгія па маленстве ў далёкай галоднай Беларусі. То было нібы помнікам радзіме. Эканамічнага значэння тыя кусцікі аніяк не мелі...

У душнай, перапоўненай электрычцы едуць нашы змардаваныя пенсіянеркі. Вясною яны ўскопвалі пустую зямлю, хадзілі на поле, дзе пасвяцца каровы, і падбіралі за каровамі лепяхі, каб хоць крышку падкарміць зямлю, бо інакай яна карміць не будзе.

Летам яны не разгінаючыся палолі грады, бо пустазелле на іх расло чамусьці спарней, чым морква ды буракі.

Цяпер, восенню, яны вязуць з вялікай цяжкасцю здабыты ўраджай — кошык бульбы, кошык агуркоў, якія ледзь давалаклі да станцыі.

Гэтыя пенсіянеркі апрануты ў старое рыззё, у іх пачарнелыя твары, яны не ўсміхаюцца — не таму, што саромеюцца паказаць свае бяззубыя раты, ім проста не да смеху. Яны больш змардавана дрэмлюць.

Спытаеце, навошта яны так сябе знясільваюць? А што рабіць? На пенсію не пражывеш, ды яшчэ з тых градак трэба падкормліваць дарослых дзяцей...

Нашы пенсіянеркі больш нагадваюць рабочую жывёлу, чым прадстаўніц прыгожай палавіны чалавецтва.

### СНЫ

Чаму нам часам сніцца тое, чаго ніколі не было ў нашым жыцці? Чаму ў нашы сны прыходзяць людзі, якіх мы ў жыцці ніколі не ведалі і не бачылі?

Адкуль бярэцца ўсё гэта? Адкуль прыходзіць у нашу сонную свядомасць?

### КАБ ГАЛАСАВАЛІ

Адзін наш сакратар саюза, робячы даклад на з'ездзе, упамінаў у ім амаль усіх пісьменнікаў. Гэта каб нікога не пакрыўдзіць і каб пры новых выбарах за яго прагаласавалі. А потым, калі даклад друкаваўся ў газеце, выкінуў з таго пераліку палову прозвішчаў. Але позна было крыўдзіцца. Прагаласавалі ўжо.

### ХАЛАЦІК

Трымала ў руках халацік і думала: ці пусціць яго ўжо на анучу ці даць яму яшчэ крышку пажыць? Шкада зрабілася старога сябра і, адпароўшы кішэньку, залатала ёю дзірку пад пахаю, там-сям яшчэ зацыравала і вось, зноў нашу.

Хіба не так і з чалавекам? Здаецца, зусім ужо сабраўся паміраць, а дактары яго падлечаць, пілюлькаў навыпісваюць і той зноў тупае.

### КАХАННЕ

Восенню, як бывала такое заўсёды, пасылалі студэнтаў на бульбу. Хлопец і дзяўчына, якія кахалі адно аднаго, недзе ноччу, на гарышчы, каханне сваё рэалізавалі. Тое падгледзелі дзве студэнткі і далажылі ў камсамольскую арганізацыю. І вось адбыўся камсамольскі сход, на якім бурна абмяркоўваўся такі амаральны ўчынак камсамольцаў.

Хлопца звольнікі з універсітэта. Каханне не вытрывала такой гучнай агалоскі і загінула.

І такое мы праходзілі...

ЛіМ ЧАСАПІС

## Будзе жыць...

**Янка Купала, наведаўшы ў 1912 годзе Барэйкаўшчыну, што па дарозе з Вільні на Ашмяны, так успомніў Уладзіслава Сыракомлю, які некалі жыў у гэтым фальварку:**

*Будзеш жыць! Будуць векі ісці за вякамі, —*
*Не забудуцца дум тваіх словы,*
*Як і слоў беларускіх, жывучы між намі,*
*Не забыўся ты, Лірнік вясковы.*

**Гэтыя радкі народнага песняра актуальныя і сёння, калі з дня нараджэння У. Сыракомлі споўнілася 175 гадоў. Паранейшаму ён застаецца для нас адным з тых, кім па праву ганарыцца нацыя. І хоць пражыў ён усяго 39 гадоў (памёр у 1862 годзе), ды памяць пакінуў аб сабе такую, якая з гадамі не згасае. І творчасць, якая вартая таго, каб яе ведалі нашчадкі.**

**Сталася так, што Сыракомля, як і многія іншыя, хто нарадзіўся на беларускай зямлі, мусіў пісаць пераважна па-польску (захаваліся толькі два яго беларускамоўныя вершы — "Добрыя весці" і "Ужо птушкі пяюць усюды". Але якая вялікая творчая спадчына?! З-пад пяра У. Сыракомлі выйшлі шматлікія вершы і паэмы, народныя гутаркі і песні. Ён пісаў краязнаўчыя нарысы і нататкі, пакінуў пасля сябе гісторыка-літаратурныя даследаванні і рэцэнзіі на кнігі паэзіі. Не страцілі значэння і яго публіцыстычныя артыкулы, апавяданні, фальклорныя працы. Аб шырыні кругагляду У. Сыракомлі-журналіста сведчаць агляды, якія ён рабіў для розных газет. Нарэшце, нельга забываць, што па сённяшні дзень вядома песня (асабліва папулярная ў Расіі ў мінулым — пачатку цяперашняга стагоддзя) "Когда я на почте служил ямщиком...", а гэта нішто іншае, як пераклад на рускую мову яраслаўскім паэтам Леанідам Трэфалевым верша У. Сыракомлі "Паштальён" — першага выступлення яго ў друку.**

**Свой доўг У. Сыракомлю нам, беларусам, яшчэ сплачваць доўга. Балазе, у гэтым кірунку робіцца нямала. Серыю "Нашы славутыя землякі", якую выпускала колішняе выдавецтва "Навука і тэхніка", папоўніў нарыс пра У. Сыракомлю "Вяшчун славы і волі", напісаны У. Мархелем. Пабачыў свет і аднатомнік У. Сыракомлі (выдавецтва "Мастацкая літаратура") "Добрыя весці". Выдавецтва "Полымя" паклапацілася выпусціць "Вандроўкі па маіх былых ваколіцах" у бібліятэчцы "Літаратурныя помнікі Беларусі". А яшчэ раней пабачылі свет кнігі К. Цвіркі "Слова пра Сыракомлю" і У. Мархеля "Лірнік вясковы". Нарэшце, нельга не згадаць аповесць Адама Мальдзіса "Восень пасярод вясны".**

## Даследавала творчасць Коласа

**Споўнілася 90 гадоў з дня нараджэння крытыка, літаратуразнаўцы Любові Фігloўскай (памерла 13 кастрычніка 1979 года). З 1960 года Любоў Іванаўна загадвала кафедрай рускай літаратуры Беларускага дзяржаўнага універсітэта. У друку выступала з 1931 года. Даследавала як беларускую, так і рускую літаратуру. У прыватнасці, аналізавала творчасць Янкі Купалы, Якуба Коласа, Кузьмы Чорнага, Каруся Каганца і іншых пісьменнікаў. У 1959 годзе выдала манаграфію "Творчасць Якуба Коласа". Л. Фіглоўская — адзін з аўтараў падручнікаў для 8 і для 9—10 класаў "Беларуская літаратура", "Нарысаў беларускай савецкай літаратуры" і іншых дапаможнікаў. У 1973 годзе падрыхтавала рукапіс семінара "Якуб Колас".**

## Любімы занятак



**Любімы занятак завуча Веткаўскай сярэдняй школы N 2 Ірыны Іванаўны Зубовіч — вязанне кручком. Сурвэткі, шторы, карункі Ірыны Іванаўны вядомы многім. Таму бацькі ахвотна вядуць сваіх дзяцей у гуртон пры Веткаўскім музеі народнай творчасці, якім яна кіруе.**

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА*

ПЕРАКЛАДЫ

***Вядомы балгарскі пісьменнік (нарадзіўся ў 1920 годзе, на жаль, нядаўна пакінуў нас) — гумарыст, сатырык, сцэнарыст, аўтар твораў для дзяцей. Ягоныя творы перакладзены на ўсе асноўныя мовы свету, у тым ліку на беларускую — да прыкладу, сатырычная аповесць "Таямнічы карабель" у зборніку "Такая любоў" (1987) у перакладзе аўтара гэтых радкоў. П. Незнакомаў вынайшаў своеасаблівую містыфікаваную форму "ўспамінаў" пра дачыненні з рознымі вядомымі творцамі, з якімі ён не мог сустракацца, што, аднак, не супярэчыць гістарычнай праўдзе. Адна з такіх ягоных навел прапануецца ўвазе чытача.***

Петар НЕЗНАКОМАЎ

# Анёлак маёй маладосці

У самы разгар Першай сусветнай вайны здарылася так, што я разам са сваім палком трапіў на пазіцыю Кажух-гары, што на цяперашняй грэчаска-югаслаўскай мяжы. Наўрад ці хто можа ўявіць больш агіднае і непрыязнае месца на грэбені гэтай дарэшты абязлесенай горнай грады, дзе мы, як краты, выкапалі два, а дзе і тры рады акопаў. Калі асноўны састаў гэтага горнага грэбеня быў граніт, дык сапраўды ён самая цвёрдая геалагічная скальная парода.

І вось мы кіснем на гэтай ідыёцкай пазіцыі з тае пары, як вайна зацягнулася і з бальшыні выпадкаў мы задавальняліся тым, што пераграсалі торбу ў вартавога, забяспечваючы сябе кансервамі і адмысловым швейцарскім шакаладам. Мой клопат быў у тым, каб знайсці пляскатую пляшку з віскі. У большасці выпадкаў нашы намаганні, робленыя тайна, прынамсі, ад ротнага, завяршаліся поспехам. Вярталіся без адзінага стрэлу, раздавалі кансервы хлопцам з майго ўзвода, дзялілі шакалад, а з віскі, прызнацца, распараджаліся даволі эгаістычна — не напоіш жа трыста грамамі цэлы ўзвод. Наш ротны, капітан Халачаў, доўгі час так і не сваёй аддушынай і давернікам.

У той час я, хоць не мог быць названы прыгажуном у англасаксонскім сэнсе гэтага слова, усё-такі насуперак ранам, меў даволі прыстойны выгляд, быў малады і самае галоўнае — з грэхам папалам ведаў англійскую мову (каб магчы чытаць Шэлі і Вордсвурта ў арыгінале, я ў Слівенскай гімназіі прыкладаў намаганні вывучыць і гэтую мову, французскую ведаў ад нараджэння). Змучаная капрызамі ўсіх гэтых няшчасных, якія пры ўсім тым былі на сваёй тэрыторыі, ружовы херувімчык праз гадзіну-дзве прыбягала да свайго "палоннага", які, каб і хацеў, не мог быць капрызным і патрабавальным, бо мяне проста маглі выкінуць са шпіталя, а то і пусціць у "расход". Акрылены цёплымі клопатамі і... калі прызнацца, пачуццём, якое ў мяне нараджалася, я пачаў хутка акрыйваць ад ранаў, у той час, калі наўкола бушаваў сапраўдны мор. А з маёю папраўкай у аддзяленні пачалі надарацца дзіўныя і загадкавыя рэчы. Першае, у амбулаторыі,

наступальнай перайшла ў пазіцыйную, мы, як суслікі, зашыліся ў зямлі, калі можна назваць яе зямлёй, пакінутыя на страшэнны холад і завірухі зімой, а летам на невыносную вільготнасць, ад якое на астатняе жыццё атрымліваеш рэўматызм і ішыяс. Перад намі ад пяцідзесяці да ста крокаў, таксама ў граніце, але крыху ніжэй, акапаўся ангельскі гвардзейскі Яго каралеўскай вялікасці ўіндзорскага прынца пяхотны полк. Адно што гэныя былі не тыя напышлівыя ангельцы ў чырвоных парадных куртках і ў шапках на галовах з мядзведжага футра, якіх мы бачылі ў варце перад брамаю Бікінгемскага палаца. Насупроць нас былі такія, як мы, падгнілыя ад вільгаці, знявечаныя, адно што ў зялёных ахоўных апратках. Была, аднак, розніца, што ангельцы былі ўзброены нашмат лепей за нас мінамётамі і агнямётамі, а самае галоўнае, у іх былі нашмат лепшыя адносіны да салдацкага страўніка: хочаш каўбаскі, хочаш кансервачкаў, хочаш шакаладзіку, ды і віскі ім давалі па сто грамаў на дзень, маці іх туды ангельскую!..

І вось мы сядзім адны перад аднымі — зімою ў снезе пад пахі, а вясной і восенню ў вадзе па калені — гэта Кажух-гара, падобна, была самым мокрым месцам у Еўропе. Бачым напрыканцы вясны ўнізе на Саланіцкіх прасторах сонейка свеціць, дрэвы- квітнеюць, дымкі з комінаў узнімаюцца — выпякаецца хлеб, а ў нас дождж ліе і ліе, анучы няма як прасушыць, значыць, згніём мы тут ад безвыходнага суму, ад чаго, каб зусім не скіснуць, час ад часу страляем ды кідаем гранаты — каб не забыцца, што мы на вайне, ды нагадаць высокаму начальству (і з нашага, і з іхняга боку), што будзем ваяваць без літасці і да поўнай перамогі.

Я тады быў маладым падпаручнікам са сваім прозвішчам Дзімітраў Петар Дзімітраў (Незнакомавым я стаў нашмат пазней, тады мне і ў галаву не прыходзіла, што буду зарабляць на хлеб літаратурнай дзейнасцю), перад тым закончыўшы Школу запасных афіцэраў Княства ўвосень 1916 года. Выслухалі мы, кандыдаты на гарматнае мяса, генеральскую прамову з гучнымі дэкларацыямі, і нас адправілі — каго на поўнач у Румынію, каго на поўдзень у Македонію, а я, шчаслівчык, трапіў на хрыбет Кажух-гары...

І вось ужо гады перастрэльваемся з англічанамі, а калі надакучае і гэта, абменьваемся падколкамі — нашы хлопцы вывучылі некаторыя словы і выразы, крыўдныя для ангельцаў, яны ў сваю чаргу адказвалі нам тым жа самым — маці ваша балгарская нядобрая і гэтак далей.

Пад сярэдзіну 17-га года ад няма чаго рабіць нас пацягнула на "подзвігі". І ў гэтых адносінах я, буяная і легкадумная галава на той час (сур'ёзным чалавекам і пісьменнікам я стаў значна пазней), трэба сказаць, вызначыўся з поўнай сілай.

У чым заключаліся тыя "подзвігі"?

Карыстаючыся непагодлівымі і дажджлівымі начамі, я і яшчэ двое пастаянныя добраахвотнікі, адзін вялікі аматар унтэрафіцэр і адзін шараговец з Новазагорскага, страшэнны прайдоха, прапаўзалі па-пластунску да ангельскіх акопаў. У такі час нават іх вартавы драмаў, скурчыўшыся пад сваёй непрамакальнай палярынай. Мы не выкарыстоўвалі халодную зброю, бралі з сабой толькі драўляны малаток, з тых, чым адбіваюць катлеты — ім дзейнічаў унтэр-афіцэр Ёлаў, былы мяснік. Ціхутка дабяромся да акопа, арыентуючыся па касцы вартавога, тады Ёлаў замахваецца і з усяе сілы лупіць яго па "макаўцы". Ад такога ўдару той адразу падае ў накаўт. Іншым разам "цела" прыцягвалі да нас у госці (за "языка" начальства давала да дзесяці дзён водпуску), але як гэта была рызыкоўная справа, у

мог зразумець, чаму трэці ўзвод не паддаецца ўсеагульнай паныласці і з'яўляецца самым баяздольным сярод падраздзяленняў роты.

Аднак жа аднойчы ўсё гэта нам вылезла бокам. Неяк вечарам прыйшоў загад са штаба дывізіі (гэта было напярэдадні ідыёцкага кастрычніцкага наступа па загадзе Галоўнага камандавання з выпадку гасціявання ў Балгарыі кайзера Вільгельма II) — каб першая рота другой дружыны абавязкова забяспечыла "языка", каб штабныя пацукі маглі арыентавацца ў сілах і намерах праціўніка. Капітан Халачаў нават не задумаўся, на каго зваліць выкананне гэтай рызыкоўнай задачы: ён ведаў, што ёсць людзі ў гэтай справе вопытныя, падпаручнік Дзімітраў, як вядома, тут наспецыялізаваны, меў водпуск па гэтай частцы, прадстаўлены да ордэна, хто яшчэ больш годна можа выканаць гэты ідыёцкі загад...

Добра, але на гэты раз справа пайшла крыху іначай. Англічане, як вядома, вялікія спяцы ў разведцы, яны, падобна, унюхалі, што з нашага боку нешта рыхтуецца, што тыя крэціны (гэта пра нас), пэўна, захочуць паказаць кайзеру, на што здатныя... І тут жа падвоілі пільнасць. Бачым, яны там праз 20—30 хвілін пускаюць ракеты, а не дай бог, калі ўначы цябе паўзучага асветліць ракета — яны цябе бачаць, а ты як сляпы... Атрымаў я пісьмовы загад, збіраю сваіх, кажу, што нас чакае, што на гэты раз будзе не да смеху, англа-француз не будзе сонным дурнем. Бачу, хлопцы мае павесілі насы. Але як там ні было, рыхтуемся да акцыі — супраць загаду ў пісьмовай форме не папрэш, і пад нуль-нуль у тры гадзіны апоўначы (гэта самы зручны час) папаўзлі мы да ангельскіх акопаў. Каб палегчыць нам задачу і адцягнуць увагу праціўніка ў другім накірунку, на ўчастку суседняй роты распачалі беспарадкавую страляніну... Мы паўзём далей, але гэтым разам сэрцы ў нас б'юцца, як не лопаюцца, нас гняце нейкае нядобрае прадчуванне. Потым, глядзім, за пяць крокаў перад намі як з-пад зямлі высоўваецца "кацялок" (так мы называлі каскі на галовах англічан), асцярожна рухаемся да яго, і Ёлаў уздымае свой молат... У гэты момант раптам пачалася такая свістапляска, заблiскала і затрашчала, як у апраметнай, мне адразу нешта рэзнула ў левую частку грудзей, а потым і ў левае бядро (калі паўзеш, гэта самае ўразлівае месца). У вачах мне стала цёмна, напэўна, я страціў прытомнасць... і ачомаўся ўжо ў Саланіцкім ангельскім ваенна-палявым шпіталі, у афіцэрскім аддзяленні для самых цяжкіх, безнадзейных параненых. Наколькі я мог разабрацца ў сваім становішчы, у гэтае аддзяленне напхалі каля дзесяці-пятнаццаці сербскіх, грэчаскіх, французска-сенегальскіх афіцэраў, паклалі тут маю міласць і нейкага нямецкага капітана, які неўзабаве памёр (англічане трымалі іх асобна, на больш багатым рацыёне і больш кваліфікаваных клопатах). Але і на тым мерсі і дзякуй. Усё-такі прызналі Міжнародны чырвоны крыж, прызналі канвенцыі па ваеннапалонных, і мяне, замест таго, каб закапаць на якім-небудзь пагорку, трымаюць тут, лечаць, кормяць, у чаканні, пакуль адкіну капыты.

Доктарам аддзялення быў маёр Франклін, гэтакі чырванатвары Джон Буль, вельмі добры хірург, але толькі ў тым выпадку, калі ў яго перастануць дрыжаць рукі, а дзеля гэтага яму неабходна было паўлітра шатландскага бальзаму. Дапамагала яму сястра Агата, мілавідная, крыху паўнаватая ружовая істота, падобная акурат на анёлка-збавіцеля (ці, можа, нам, усім серба-грэкам і сенегала-французам, кандыдатам на той свет, гэта толькі здавалася). Не ведаю, як так атрымалася, але я хутка стаў любімцам гэтага ружовага анёлка, яна выбрала мяне

дзе ўладарыў маёр Франклін, знік трохлітровы буталь з чыстым медыцынскім спіртам. Маёр, які ў цвярозым стане быў вельмі выбухны, з гэтай нагоды насварыўся на нашу анёлку сястрычку Агату. У той жа вечар яна выплакала мне свой боль. Я суцяшаў яе, наколькі мог сабраць сілы ў сваіх змучаных целе і душы, выказваючы меркаванне, што, магчыма, лягчэйшыя параненыя з суседніх аддзяленняў сцягнулі буталь з медыцынскімі мэтамі, альбо ненажэрныя санітары, турэцкія палонныя, якія ў гэтых адносінах зусім не зважалі на каноны Карана, выжлукцілі спірт. Агата згадзілася з маімі меркаваннямі і, падобна, супакоіла запальчывага маёра. Але праз тыдзень зноў прыйшла заплаканая — на гэты раз у маёра знікла віскі, здарылася такое, за што ён мог забіць злодзея. Цяпер і я быў азадачаны — значыць, тут арудуе вопытная рука, прытым рука, у якое ёсць свой асабісты ключ ад амбулаторыі. Нанач яе клапатліва замыкае сам маёр. Мы з Агатай доўга разважалі — хто ж ён такі, той злодзей, і дзе ён хаваецца. І як серба-грэкі адразу пасля вячэрняй праверкі пазасыналі, мы мелі магчымасць шаптацца ўдосталь, і яна пайшла недзе пад поўнач. Трэба прызнацца, што я заснуў, адчуваючы шчырую ўдзячнасць таямнічаму злодзею, ягоныя крадзяжы гэтак зблізілі мяне з Агатай, што ў думках я жадаў, каб ніколі яго не сцапалі. Зрэшты, гэта не мела значэння. Агата і без дапамогі злодзея праводзіла вечары, а з цягам часу і ночы пры мне (параненыя ў палаце былі ў такім цяжкім стане, што наўрад ці маглі яны адчуваць нейкае пачуццё зайздрасці і наўрад ці разумелі, што адбываецца на маім, то бок, на нашым ложку). Мінулі дзве шчаслівыя ночы, а на трэцюю Агата не прыйшла. Я чакаў яе амаль да II гадзін і калі страціў цярпенне, зрабіў неверагодныя намаганні, але змог устаць з пасцелі і, кульгаючы і вохкаючы на кожным кроку, дабрацца да дзвярэй амбулаторыі. Падумаў, што, можа, нешта затрымала яе там, ці атрымала ад маёра нейкае спешнае даручэнне. Пастукаў, ніхто мне не адчыніў. Націснуў на дзвярную ручку, было замкнёна. Тады адамкнуў асцярожна і бясшумна дзверы і навобмацак падаўся да знаёмай шафы. Раптам за спіной у мяне пачуўся шум, з-за крэсла з'явіўся нейкі цень, кінуўся на мяне і закруціў мне назад рукі. Павінен прызнацца, што ў гэты момант я не зведаў прыемнага пачуцця, але пасля гэтага нейкія мяккія пачуццёвыя вусны ўпіліся ў мае і шалёна пачалі цалаваць.

"Я ведала, што злачынец заўсёды вяртаецца на месца злачынства", — чуў я ў вуху шэпт Агаты, які перайшоў у ціхуткі, загадкавы, але разам з тым напоўнены нястрымнай страсцю смех.

"Здаюся! — сказаў я. — Ты сапраўдны дэтэктыў. Але як ты здагадалася, што я і ёсць злачынец?"

"А гэта было не так цяжка. Яшчэ першы раз, калі я цябе пацалавала, ты проста смярдзеў чыстым медыцынскім спіртам. І як табе не сорамна было абвінавачваць няшчасных турэцкіх палонных!"

"А чаму ты столькі часу хавала, што ўсё зразумела? Чаму прыкідвалася такой расстроенай, што не можаце сцапаць зладзюжку маёра Франкліна?"

"Таму што мне падабалася быць з табой, дарагі, — сказала Агата і моцна прытулілася да мяне. — І я вырашыла працягваць гульню. Акрамя таго, мне хацелася даведацца, як ты адмыкаеш сакрэтны замок у дзвярах амбулаторыі".

"А перад тым не падумала, дзе твой ключ ад яе? Ды ён жа выпаў у цябе з кішэні фартуха першым жа разам, калі так старанна вымярала мне тэмпературу".

Мы абое шчасліва засмяяліся, і з таго

дня амбулаторыя ператварылася ў нашае любімае месца тайных сустрэч. І як я кляў і лаяў свой малады арганізм, які не днямі, а гадзінамі пачаў папраўляцца. Недзе каля месяца Агаце ўдавалася затрымаць маю тэмпературу ў межах неабходных градусаў, каб я мог заставацца ў шпіталі, але калі аднойчы яе адправілі ў Саланікі. і яна там затрымалася па справах каля тыдня, тэмпературу мне пачала замяраць другая, грозная, як конь, сястра, і падман хутка выявіўся. Мне не дазволілі нават дачакацца, пакуль Агата вернецца, мяне апранулі ў балгарскую вайсковую уніформу і экспедзіравалі ў лагер ваеннапалонных на востраў Саматракі. Мы не маглі ні пабачыцца з маім ружовым анёлкам, ні абмяняцца адрасамі. Я ледзь не ляснуўся ад тугі, а раны мае, здавалася, вось-вось адкрыюцца зноўку.

Потым паціху-патроху я прымірыўся. Жыццё палоннага не садзейнічае трываласці пачуццяў. Мяне пераводзілі з лагера ў лагер, нарэшце, трапіў у Марсель, і там мяне застала перамір'е, а потым і канчатковы мір... Успамін пра Агату пачаў ужо бляднець, хоць у глыбіні сэрца...

У 1919 годзе я вярнуўся нарэшце на сваю бедную змучаную радзіму... Ажаніўся, з'явіліся дзеці, пачаў пісаць і праз два-тры гады быў вядомым пісьменнікам-гумарыстам Петарам Незнакомавым. І вось аднойчы...

Неяк у кавярні "Цар Вызваліцель" я чытаў "Вагі" Гео (Мілева), і да мяне падсеў Нікалай Райнаў.

"Слухай, Пеца, ты што, крымінальчыкі пачытваеш?" — запытаўся ён, не прывітаўшыся, што яму было ўласціва.

"Чытаю, чаму не пачытаць. Гэта таксама літаратура, хоць вы, эстэты... Чаму пытаешся?"

"Ды вось трапіла мне ў рукі адна рэч... І што цікава — напісала яе жанчына. Ты ведаеш мае адносіны да жанчын, я іх лічу няздольнымі прыстойны цюрлю-гювеч* прыгатаваць, а гэтая ўзяла ды напісала раман. І з такой, ведаеш, дзіўнай інтрыгай... Майстар, я табе скажу".

І падае мне бліскучую кніжку на французскай "Serie noire". На вокладцы нейкае крывавае страхоцце.

"Гэтая мадам пісьменніца, пэўна, француженка?" — пацікавіўся я, узяўшы без вялікага задавальнення кніжку.

"Англічанка, — сказаў Нікалай. — Але яе ўжо перакладаюць і на французскую мову, у адрозненне ад нашага брата".

Імя англічанкі, надрукаванае буйным шрыфтам над крывавым страхоццем — Агата Крысці, — мне было зусім невядомае. Упершыню даведаўся, што ёсць такая пісьменніца. Адгарнуў тытульную старонку, гляджу — там змешчаны вялікі партрэт аўтаркі, даволі поўнай русай жанчыны ў акулярах. І раптам мне здалося, што я ўжо недзе бачыў гэты твар. Ну так, канечне, усяго пяць гадоў таму гэтая даволі поўная ў акулярах анёлка са здымка прымушала мяне трымцець ад жарсці, калі яна толькі адчыняла дзверы ў аддзяленне для "безнадзейных" у Саланіцкім ваенна-палявым шпіталі.

Прыйшоў дадому і прачытаў кнігу на адным дыханні. Гэта быў адзін з першых яе шэдэўраў — "Забойства ў Арыент-экспрэсе". Маё саланіцкае прароцтва збылося, херувімчык Агата ператварылася ў крыміналісцкую аўтарку сусветнай велічыні.

Вядома, я напісаў ёй адразу ж, а потым аформіў творчую камандзіроўку ў тагачаснага міністра народнай асветы Стаяна Амарчэўскага і выправіўся ў Лондан. Сеў у Арыент-экспрэс, той самы цягнік, што яна гэтак загадкава апісала ў сваім рамане. Лічыў, што гэта будзе для яе дадатковай неспадзяванкай, асабліва ў выпадку, калі і мяне нехта возьме дый укакошыць па дарозе.

Яна спачатку нават не пазнала мяне (і я ад спакойнага сямейнага жыцця крыху распаўнеў), потым, насуперак свайму стрыманаму тэмпераменту разбагацелай англійскай лэдзі, кінулася мяне абдымаць. Яна прызналася, што нядаўна развялася (пасля няўдалага шлюбу з нейкім фінансавым пасрэднікам). Мінуўся бязмежна шчаслівы тыдзень, у канцы якога я напісаў Стаяну Амарчэўскаму, што застаюся ў Лондане надалей за свой кошт і на ягоную камандзіроўку плюю... Дадому напісаў, што ў тутэйшых архівах знайшоў вельмі цікавы сюжэт для дакументальнага рамана, а жонка так і не зразумела, якога д'ябла я сяджу ў тым клятым Лондане, адкуль па тым часе на нашую няшчасную радзіму ішлі ўсе злыбяды.

У Балгарыю я вярнуўся незадоўга да вераснёўскіх падзей. Вядома, я не напісаў ніякага рамана. Сюжэт, які знайшоў у англійскіх "архівах", аказаўся занадта сексуальным для нашых усё яшчэ патрыярхальных на той час нораваў. Затое ў наступных дзесяці раманах Агаты ў адмоўных героях адчуваліся рысы нейкай дзікунскай балканскай першаснасці.

Хоць і ўскосна, аднак жа я паспрыяў творчаму працэсу славутай пісьменніцы.

**З балгарскай пераклаў**
**Уладзімір АНІСКОВІЧ**

*цюрлю-гювеч — нац. балг. страва, запяканка з бараніны і рознай гародніны.

СУСТРЭЧЫ

# "Я прысягну: навек люблю..."

Алесь Бабаед — асоба для нашай глыбінкі адметная. Ён — паэт з абвостраным пачуццём болю і смутку, багатым унутраным "я". Тое, што затоена ў душах беларусаў, у ім знайшло выхад у вершаваных радках, стала другой натурай (ці першай?!) — любоў да Бацькаўшчыны, вясковых каранёў, народных вытокаў.

Калісьці ў дзяцінстве ён сказаў сабе: "Я магу!" — і так нарадзіліся першыя вершы. Нязграбныя, але шчырыя, яны былі надрукаваны ў газеце "Піянер Беларусі". Так пачыналася... А можа, усё было не так проста? Можа, нарадзіўся ён у вёсачцы Чаўнышкі Бешанковіцкага раёна Віцебскай вобласці ўжо для таго, каб уславіць яе краявіды і сціплую прыгажосць? Хто ведае... Кажуць, паэт — не той, хто піша вершы, а той, хто не пісаць іх не можа. Здаецца, Алесь Бабаед — з апошніх.

Чацвёрты дзесятак гадоў адмервае Алесь на гэтай зямлі. Было па-рознаму: публікацыі ў часопісах і зборніках (пасля іх, прызнаецца, ахінала ўзнёслае "азарэнне": "Я — геній!"), перыяды надлому і расчаравання, калі пасля крытычных заўваг кідаліся ў агонь лісты. Але заставалася галоўнае — немагчымасць здрады прызванню, вызначанаму лёсам і сумленнем.

***...І з тым, што некалі было,***
***Пакуль жыву, я звязан буду.***
***Рабіць дабро і нішчыць зло,***
***Благаслаўляць і дзень, і вечар,***
***І завіруху, і слату,***
***І расставанні, і сустрэчы,***
***Складанасць дум і прастату.***

У кожнага чалавека існуе патрэба ў пакаянні. Але далёка не кожны адчувае віну — сваю і іншых — пранікнёна і востра. А. Бабаед валодае гэтым пачуццём, ён узносіць свае вершы на алтар агульнай бяды, бо ён — не сведка, не староннi, ён — да кожнага нервовага канчатка беларус. І яго алоўкам водзіць любоў да Радзімы.

***Зорная, крынічная, лясная —***
***Я цябе не выдумаў такой,***
***Я цябе такую спасцігаю***
***І люблю сыноўняю душой.***
***...Будзь ты ў песнях песняроў апетая,***
***Ды не стань пакутнаю зямлёй.***

У Бешанковіцкім раённым Доме культуры адбыўся літаратурны вечар пад назвай "З любоўю да Радзімы". На сустрэчу з А. Бабаедам прыйшлі аматары паэзіі Прыдзвіння. І відавочна, што яны не былі расчараваны. Тыя, каму А. Бабаед быў знаёмы толькі па публікацыях, упэўніліся: ягоныя вершы — проста падаўжэнне і вершаваны працяг яго светапогляду і духоўнага пачатку. Ён быў у цэнтры залы — увесь навідавоку, адкрыты пытанням і поўны рашучасці адстойваць сваімі вершамі пазіцыю чалавека і грамадзяніна. Алесь абмовіўся неяк у вершы: "Можаце разлічваць на мяне — Падтрымаю, я неасцярожны".

Прыхільнікі паэтычнага радка задавалі А. Бабаеду шматлікія пытанні, якія датычылі яго творчасці, грамадзянскай пазіцыі, адносін да жыцця. Гэта рэдкасць — мець такую магчымасць: пасля прачытаных аўтарам вершаў (а гучалі як ужо надрукаваныя, у тым ліку ў зборніку "Колеры шчасця і болю", так і новыя) звярнуцца да паэта, выклікаць яго на шчырасць наконт ужо напісанага і далейшых планаў: "Многія тэмы закранаюцца і развіваюцца ў вашых вершах. А на якія тэмы вы пісаць не будзеце ніколі?" — прагучала пытанне з залы. "Ніколі? З-пад майго алоўка не выйдуць услаўленні пэўных уладных асоб, а таксама ганьба былому пакаленню". — "Што асабліва трывожыць сэрца?" — "Балюча за вёску... Жыву ў гарпасёлку, працую ў раённай бальніцы ўрачом ультрагукавых даследаванняў, але па сваёй натуры, жыццёвым ўсведамленні — я глыбока вясковы чалавек. І так жудасна, калі з кожным годам у родных мясцінах сустракаеш усё менш знаёмых з дзяцінства твараў. Адны дачнікі..."

***На бераг, спавіты туманам,***
***Іду, не спыняю хады***
***Па сцежках, даўно зааранных.***
***Навошта іду я туды?***
***Мне вецер шпурляе пад ногі***
***Лістоты халодную медзь.***
***А сэрца баліць ад знямогі.***
***А сэрца трывае ледзь-ледзь.***
***Вярэдзяць душу успаміны —***
***Прычын для самоты стае.***
***Глядзіць, нібы маці, Айчына.***
***З дакорам у вочы мае.***

Айчына, Беларусь, зямля — яны ў паэтычным усведамленні А. Бабаеда неадрыўна звязаны з генетычнымі каранямі.

Для іх, як і для маці і бацькі, у паэта — самыя пяшчотныя словы і вобразы. У вершы "Бацьку" кранальна гучыць: "Калі ён гладзіць па галоўцы ўнукаў, Мякчэюць мазалі ад дабрыні". У вершы "Маці" — замілаванне: "А маці ў даёнцы Прыносіць з марозу У хату світанне..." І верыш паэту, што яму "...бліжэй світанкі і ранеты, і грудок пад схіленым крыжом" у гэтым жыцці — "нястрымным кругабегу".

***...Думкі кружаць мне галаў —***
***Адкуль я?***
***Навошта?***
***І хто?***
***Так стаю на мяжы,***
***Цэлым светам і Богам***
***Забыты.***
***Апраўдацца спрабую,***
***Ды толькі не чуе ніхто...***

Не, не так гэта: голас прыдзвінскага паэта Алеся Бабаеда якраз жа й пачуты.

**Алена ПРУС**

*г.п. Бешанковічы*

# Пра эпіграмы Кандрата Крапівы

Сярод шматлікіх сатырычных твораў К. Крапівы ёсць і некалькі дзесяткаў эпіграм. Усе яны дасціпныя, трапныя, нярэдка двухпланавыя, з падтэкставай плыннню, пакідаюць уражанне свежасці і арыгінальнасці, ззяюць усімі фарбамі і адценнямі народнай мовы. Аднак толькі нямногія з іх уключаліся аўтарам у зборы ягоных твораў ("Інтэрв'ю Якуба Коласа", "На "Матчынага сына" Сымона Баранавых" і некаторыя іншыя). Астатнія або друкаваліся толькі аднойчы ў якім-небудзь перыядычным выданні, або, ненадрукаваныя, перадаваліся з вуснаў у вусны.

Кожная з іх выклікалася якойсьці канкрэтнай надзённай з'явай. Сатырычным адгалоскам на публікацыю рамана Ц. Гартнага стала эпіграма, пабудаваная на вобразнай аснове вядомага выразу *мухі дохнуць.* Яго цэласны сэнс "нясцерпна нудна ад чаго-небудзь" спачатку засланяецца апрадмечаным, канкрэтным зместам слоў у першых двух радках твора і тут жа ўсплывае на паверхню як здагадка, спараджаючы смех:

***— Якой ты мухам даў "отравы",***
***Што ўраз падохлі ўсе яны?***
***— А тут такая, браце, справа:***
***Я прачытаў ім "Сокі цаліны".***

На пачатку 50-х гадоў Я. Колас, К. Крапіва і П. Глебка разам з супрацоўнікамі Інстытута мовазнаўства ўкладалі "Руска-беларускі слоўнік". К. Крапіва рэдагаваў апісанне слоў на першую частку літар, а П. Глебка — пачынаючы з літары "П". Справы ў Глебкі чамусьці рухаліся марудна. І тады ў інстытуцкай насценгазеце з'явілася эпіграма:

***Хто так моцна тут сапе***
***у Інстытуце дзесьці?***
***Гэта Глебка ўзлез на "П"***
***І не можа злезці.***

На адкрытым партыйным сходзе пісьменнікі абмяркоўвалі рашэнне чарговага пленума ЦК кампартыі аб далейшым развіцці жывёлагадоўлі ў рэспубліцы. З занадта доўгім дакладам выступіў Міхась Лынькоў. Гаварыў пра будоўлю свінагадоўчых комплексаў, шмат разоў упамінаў пра свінаматак. К. Крапіва пусціў па радах эпіграму:

***Уцякайма хто як можа, братцы,***
***Бо Міхась засеў на свінаматцы!***

Многія рассмяяліся, і Лынькоў мусіў закругліцца.

Эпіграма "Чыжык", у адрозненне ад папярэдніх і шмат якіх іншых ненадрукаваных, пабачыла свет. Яе змясцілі ў часопісе "Заклік" (1933, N 1, с. 51). У эпіграме знайшоў увасабленне адзін з тыповых эпізодаў тагачаснай жорсткай рэчаіснасці, крыжовага паходу ў пошуках "ворагаў народа". Яна цікавая і формай, і зместам. Майстэрства сатырыка нельга поўнасцю ацаніць, калі не бачыць перад сабой усёй гэтай арыгінальнай сваім мастацкім выкананнем эпіграмы-літмантажу. Вось гэты твор:

## Чыжык

(Эпіграма-літмантаж*)
На дэбют крытыка Аркадзя Куляшова
***— Чыжык, чыжык, дзе ты быў?***
***— За гарой Максіма біў.***
***"Дзюбаў, дзюбаў, аслабеў,***
***Толькі збрудзіў, а не з'еў".***

**З людзей па радку, а мне эпіграма:* у гэтым вершы толькі адзін радок мой.

Сапраўды, "у гэтым вершы толькі адзін радок" крапівоўскі: "За гарой Максіма біў " (маецца на ўвазе выступленне ў друку маладога, 19-гадовага паэта А. Куляшова ў нязвычнай для яго ролі дэбютанта-крытыка твораў Максіма Гарэцкага). Першы радок эпіграмы ўзяты з вядомай жартоўнай песенькі такой самай назвы, а два апошнія — з верша А. Александровіча "Хлопчык і певень":

***Ку-ку-рэку! Ку-ку-рэку!***
***Вось і певень тут аднекуль***
***Крадучыся, неўзаметку***
***Падляцеў, хапіў катлетку.***

***Дзюбаў, дзюбаў — аслабеў,***
***Толькі збрудзіў, а не з'еў.***

Ды і другі радок не зусім крапівоўскі, гэта — перафразаванне з той жа песенькі: "За гарой гарэлку піў". Варта таксама зазначыць, што ў кантэксце гэтай эпіграмы адбыліся семантычныя зрухі ў словах, дасасаваных да крытыка-дэбютанта: *чыжык, дзюбаў, збрудзіў, з'еў.* Яны атрымалі сэнсавае прырашчэнне, падвойны змест. Сказ са зноскі "З людзей па радку, а мне эпіграма" — дасціпны мадэліраваны аўтарскі нагатвор, у падтэксце якога адчуваецца прыказка-прататып. Хоць тут усе словы ўжытыя з прамым значэннем, непасрэдна накіраваным на канкрэтныя рэаліі, але сваім комплексам яны ствараюць выразны намёк на прыказку-мадэль "з міру па нітцы — голаму сарочка".

Некаторыя з вусных эпіграм пасля ўвайшлі ў паэму "Хвядос — Чырвоны нос":

***Тут яшчэ вучоны Свербаў***
***Акалочваў грушы з вербаў.***
***Кажуць, скончыў быў той дзед***
***Ерундычны факультэт.***

Праўда, гэтыя радкі не вытрымалі выпрабаванне часам. Сёння мы з пашанай ставімся да навуковых прац І. А. Сербава.

І ў апошнія гады свайго жыцця сатырык час ад часу звяртаўся да эпіграм. Некаторыя з іх друкаваў і "ЛіМ". Вось адна з іх — "Скарга":

***Я не горшы ад Рагойшы***
***І не меншы ад Камейшы,***
***Ды прабіцца не ўдаецца***
***Ні ў саюз, ні ў выдавецтва.***

Добра было б, каб пры выданні Поўнага збору твораў К. Кралівы сюды ўвайшлі і ўсе яго рупліва сабраныя эпіграмы — гэтыя іскрынкі досціпу, помнікі таленту, сатырычныя адбіткі розных з'яў літаратурнага жыцця. І не толькі літаратурнага.

**Іван ЛЕПЕШАЎ**

*г. Гродна*

СУСТРЭЧЫ

# Хто шукае, той знаходзіць

УЗНОЎЛЕНЫ крыж святой Еўфрасінні Полацкай ужо стаў фактам культурнай і сацыяльнай гісторыі беларусаў, хоць, здавалася б, стварэнне копіі і пошукі арыгінала крыжа павінны былі б застацца справаю выключна канфесійнаю, справаю, якая датычыць толькі мясцовай філіі Рускай праваслаўнай царквы (асабліва калі браць да ўвагі вынікі бальшавіцкага панавання і "атэістычнага выхавання"). Узнаўленне крыжа стала агульнанацыянальнай справаю, прычым ініцыятыва зыходзіла не ад царкоўных іерархаў, а ад культурніцкай эліты Беларусі, ад нацыяналістаў-адраджэнцаў. Узнаўленне крыжа святой Еўфрасінні не зняло праблему пошуку арыгінала, а, наадварот, дало гэтай справе новы імпульс.

28 верасня ў Нацыянальным культурна-асветніцкім цэнтры прайшоў "круглы стол" "Крыж святой Еўфрасінні Полацкай у кантэксце дзяржаўнага і культурнага адраджэння Беларусі". На пасяджэнні прагучала шэсць асноўных дакладаў, мела месца дыскусія.

Доктар філасофскіх навук Уладзімір Конан распавядаў пра адраджэнскую сімволіку крыжа святой Еўфрасінні. Ён нагадаў, што знак крыжа вядомы яшчэ з язычніцкіх часоў; што падвойны крыж (так званы "патрыяршы", да гэтага тыпу належыць і крыж Еўфрасінні) — гэта сімвал адной з самых вядомых у гісторыі сусветнай цывілізацыі міфалагем — сімвал "сусветнага дрэва", карані якога паглыбляюцца ў Апраметную, дзе валадарыць Смерць, а крона сягае ў неба — да Бога, да Святла. Дарэчы, першыя хрысціяне крыж не абагаўлялі, сваімі сімваламі яны лічылі ягнятка, рыб. І толькі з часам крыж набыў сённяшні сэнс. Гэты знак мае амбівалентны характар, аб'ядноўвае палярныя паняцці і ў філасофскім сэнсе азначае свабоду выбару. Спадар Конан не сумняваецца, што рана ці позна вершнік з крыжам на шчыце зноў будзе мець статус дзяржаўнага герба Беларусі.

Мастак Мікола Кузьміч гаварыў пра творчыя і маральна-этычныя аспекты ўзнаўлення крыжа святой Еўфрасінні. Праца была цяжкая, бо для яе не было тэхналагічнай базы; не было мастацтвазнаўчых матэрыялаў аб візантыйскай перагародчатай эмалі, якія можна было б скарыстаць у справе ўзнаўлення крыжа; не было і адпаведнай юрыдычнай базы, каб пачаць працу. У Старажытнай Русі на падрыхтоўку ювеліра-падмайстра (не майстра!) ішло пятнаццаць гадоў. Лазар Богша, безумоўна, кіраваў майстэрняй, вялікай майстэрняй. Спадар Кузьміч, як прафесійнік, сцвярджае, што адчувае, якія часткі крыжа рабіў сам Богша, а якія — ягоныя вучні. Крыж для Еўфрасінні быў зроблены хутчэй за ўсё за 6—8 месяцаў. У М. Кузьміча на ўзнаўленне крыжа пайшло паўтара года "чыстага" часу, астатняе — арганізацыйныя клопаты. "Крыж рабіў не я — народ увесь са мною. Крыж з'явіўся, калі для гэтага саспела наша грамадства".

Мастак хацеў бы, каб ягоны вопыт не згубіўся. Для гэтага патрэбны вучні, творчая майстэрня ювелірнага мастацтва. М. Кузьміч упэўнены, што наяўнасць такой майстэрні дазволіла б не толькі ўзнавіць сувязь часоў, адрадзіць забытае сёння мастацтва, але і прынесці рэальны прыбытак Беларускай дзяржаве.

Доктар гістарычных навук Георгі Штыхаў разважаў пра месца крыжа ў развіцці старажытнабеларускай культуры і значэнне святыні ва ўсталяванні Полацкай дзяржаўнасці. Функцыянальнае прызначэнне крыжа не надта зразумелае. Для напрастольнага ён занадта вялікі, для запрастольнага — занадта малы. Навуковец лічыць, што на крыжы полацкія князі давалі клятву, калі ўступалі на прастол. Такім чынам, гэта сімвал сакральны і дзяржаўны.

"Так пачыналіся пошукі крыжа святой Еўфрасінні" — тэма выступлення дырэктара Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра Адама Мальдзіса. Да пошукаў крыжа спадар Мальдзіс прычыніўся ў нейкай ступені выпадкова, бо падзеі апошняй вайны не ўваходзілі ў кола ягоных навуковых інтарэсаў. Аднак менавіта ён паклаў пачатак мэтанакіраваным пошукам святыні. Дзе зараз крыж — у фундацыі Моргана альбо ў пецярбургскім Эрмітажы, ці яшчэ дзе — яшчэ трэба высветліць. Але адно можна сцвярджаць дакладна: з Магілёва крыж быў вывезены ў Маскву.

Некаторыя гіпотэзы асвятліў Уладзімір Пухоўскі, дэкан факультэта правазнаўства Інстытута кіравання. На ягоную думку. 99 працэнтаў за тое, што крыж у Расіі, але 1 працэнт — "можа і не давезлі..." Можа, мае сэнс пашукаць скрыні "магілёўскага клада" (так сярод навукоўцаў называюць груз каштоўнасцяў, якія захоўваліся ў Магілёве напярэдадні вайны, а ў час абароны Магілёва пад аховаю НКВД павезлі ў Маскву) у азёрах, побач з якімі праходзіў маршрут.

Праўда, гэту думку спадара Пухоўскага ўдзельнікі "круглага стала" не падтрымалі. Шукаць усё ж такі трэба ў Расіі. Цікавая акалічнасць: ніводная з рэчаў "магілёўскага клада" за ўвесь час, што прайшоў з лета 1941 года, так нідзе і не "ўсплыла". А было каштоўнасцяў на 60 мільёнаў даваенных рублёў (крыж Еўфрасінні ацэньваўся ў 6 мільёнаў). Падобна на тое, што адпаведныя службы парупіліся, каб не было "ўцечак інфармацыі"...

Пісьменнік Уладзімір Арлоў, які вёў "круглы стол", распавядаў пра "адысею" крыжа і лёс нацыянальнай святыні ў XX стагоддзі. Сапраўды, у гісторыі крыжа адбіўся, як у люстэрку, лёс беларускай нацыі. Таму і вяртанне крыжа на радзіму мае для нас сакральны сэнс. Тэма будзе знакам таго, што свой лёс мы ўзялі ў свае рукі.

У часе"круглага стала" было абмеркавана яшчэ адно балючае пытанне, што мае непасрэднае дачыненне да духоўнай спадчыны святой Еўфрасінні Полацкай, — лёс Спаса-Еўфрасіньеўскага манастырскага комплексу, Міжнародны дабрачынны фонд крыжа Еўфрасінні Полацкай выступіў заказчыкам праекта рэгенерацыі архітэктурнага комплексу. Праект зроблены. Ён зацверджаны подпісамі Аляксандра Лукашэнкі, Патрыярха Маскоўскага і Усяе Русі Аляксія, уладыкі Філарэта, але... для полацкага ўладыкі Феадосія тры гэтыя подпісы, мабыць, не ўказ. Бо тое, што робіцца зараз на тэрыторыі манастыра, ёсць ні што іншае, як будаўнічы "беспредел". Парушаецца архітэктурнае абліччa, нішчацца археалагічныя пласты. Страты, якія ў выніку гэтага мае гісторыя і культура Беларусі, можна параўнаць са стратамі ад ваяўнічага атэізму бальшавікоў. Альбо ўладыка Філарэт не ведае, што робяць яго падначаленыя, альбо гэта робіцца з ягонай маўклівай згоды.

Напрыканцы слова ўзяў госць, чыя прысутнасць не была прадугледжана праграмай: расійскі святар (іераманах), накіраваны "для прохождения службы" ў Беларусь, у Гомель. Паведаміўшы прысутным пра тое, што ў ведамстве Патрыярха Маскоўскага распрацоўваецца ідэя Хроснага ходу, які распачнецца ад "дзяржаўнай мяжы Расіі ў Брэсце" і скончыцца ў Маскве, у храме Хрыста-Збаўцы, святар выказаў спадзяванне, што крыж святой Еўфрасінні будзе адным з атрыбутаў гэтага Хроснага ходу, што крыж будзе суправаджаць ікону Дзяржаўнай Божай маці Расійскай. Пры гэтым святар нагадаў пра "единую Киевскую Русь", пра тое, што мы "единый народ", пра неабходнасць аднаўлення трыяды "православие, самодержавие, народность". Уладзімір Арлоў на гэта заўважыў, што мы зыходзім з таго, што ёсць суверэнная дзяржава Рэспубліка Беларусь, і крыж святой Еўфрасінні мы лічым сваёй нацыянальнай святыняй і разглядаем у кантэксце нашай нацыянальнай ідэі.

"Круглы стол" вынес прапанову аб правядзенні канферэнцыі, дзе можна было б абмеркаваць праблемы, звязаныя з пошукамі нацыянальнай святыні; аб правядзенні ў школах Беларусі тэматычнага ўрока, прысвечанага святой Еўфрасінні Полацкай, аб перайменаванні ў гонар святой адной з вуліц у цэнтры Мінска; аб звароце па дапамогу да беларусаў замежжа, аб стварэнні ў Інтэрнеце старонкі крыжа Еўфрасінні.

...Калі да славутай прарочыцы Вангі звярнуліся з просьбай высветліць, дзе зараз крыж Еўфрасінні, Ванга адказала: "Хай беларусы не турбуюцца. Іхні крыж хутка вернецца". Хацелася б думаць, што "хутка" — гэта пры нашым жыцці.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

# Журавіны не ўзышлі...

З ЖУРНАЛІСЦКАГА БЛАКНОТА

Прыгарадным дызель-поездам надвячоркам з лясоў Старадарожчыны вярталіся грыбнікі і ягаднікі. Пазнаў дзвюх настаўніц-пенсіянерак са Слуцка. У кожнай ля ног стаялі перавязаныя белымі хусцінкамі вёдры. Поезд пазніўся і жанчыны, пазіраючы час ад часу на гадзіннікі, нерваваліся: баяліся, што спозняцца на прагляд па тэлевізары свайго любімага, як яны зазначылі, шматсерыйнага фільма "Дзяўчына па імені Лёс". На маё пытанне, што ў вёдрах, настаўніцы адказалі:

— Клюквы набрали. Целый день не разгибались.

— А можа, журавін? — перапытаў я. — Праўда, хораша гучыць гэтае слова? У ім чуецца нешта ад птушак-жураўоў.

Адна з жанчын абыякава адказала:

— А какая разница? Мы привыкли называть эту ягоду клюквой.

Каб жа толькі гэтыя дзве, чыё дзяцінства прайшло ў вёсцы, як у большасці сённяшніх гарадскіх пенсіянераў, адцураліся матчынай мовы.

Стаяў неяк на прыпынку прыгараднага аўтобуса ў "глыбіннай" вёсцы. Падышла бабуля гадоў за семдзесят з напакаванай, важкай сумкай. Разгаварыліся. Яна паведала, што гасцявала ў роднай сястры, а цяпер вяртаецца ў горад, калісьці ў гэтай вёсцы працавала настаўніцай, а перад выхадам на пенсію — у гарадской школе. Яе праводзіла дзяўчынка гадоў дзесяці, пляменніца. Справа была ў канцы жніўня, і нечакана ад густых шатаў тапаляў у блакіце неба закружылася чарада буслоў.

— Жанночка, смотри — аисты улетают в вырей! — усклікнула бабуля.

— Не аісты, а буслы, — адказала дзяўчынка.

— Нет, аисты! — стаяла на сваім былая настаўніца.

Я не ўцярпеў і ўставіў, як кажуць, свае тры грошы ў іх спрэчку. Заўважыў бабулі, што і сёння, калі і вёска спрэс загаварыла на "трасянцы", нават малаадукаваны селянін, убачыўшы вясной у небе гэту птушку, усклікне: "Вось і бусел прыляцеў". Жанчына ў адказ панесла пра непазбежнае, на яе думку, зліццё дзвюх моў у адну, што гэты працэс трэба усяляк падтрымліваць. Потым, распаліўшыся да чырвані на твары, стала клясці Гарбачова і Шушкевіча, якія, маўляў, "развалили СССР"...

Ці не ў гэтым манкуртызме інтэлігенцыі старэйшага пакалення, у яе адносінах да роднай мовы з пазіцый абывацеля ("а какая разница?") і ёсць наша першабытная беднасць на культурныя здабыткі? І кожная такая "клюква" нібы напамінак, што ў сваёй халуйскай арыентацыі на "старэйшага брата" мы з яго боку ўспрымаемся як халопы. Вярнуць сёння забытыя большасцю гараджан і нават вяскоўцаў нашы слоўныя "залацінкі" — не простая задача, бо кожная "клюква" агучваецца у сем'ях бабулямі, матулямі, перадаецца дзецям, унукам, а яшчэ па радыё, тэлебачанні — чыноўнікамі ўсіх рангаў, нават тымі, што працуюць на ніве культуры.

●

Надвячоркам у нядзельку іду па вясковай вуліцы, што выцягнулася на добрых паўтара кіламетра. Абапал праз кожны чацвёрты ці пяты дом на лаўках сядзяць купкамі мужчыны, жанчыны — асобна, болей людзі пенсійнага ўзросту. Вядуць свае будзённыя размовы. Вітаюся з кожнай купкай даўнім, не забытым з дзяцінства "дабрыдзенем". У вёсцы і сёння прынята вітацца на вуліцы пры сустрэчы нават з незнаёмым чалавекам. Мне дружна адказваюць "Здраcтуйця". І старыя, і маладыя, і нават падлеткі. Нарэшце ў канцы вуліцы сустракаю маладжавую жанчыну ў гумавых ботах і рабочым адзенні і на маё "Добры дзень" яна адказвае: "Добрага здароўечка". Ажно зашчымела ў грудзях ад гэтага забытага сёння з пакон веку ідучага дабражадання. Чаму ж яно — выцеснена трасяначным "Здрастуйця"?

●

Вечар адпачынку ў пансіянаце для ветэранаў вайны і працы "Мікалаеўшчына", што на Стаўбцоўшчыне. Пасля абрыдлых усім "вольных" танцаў пад магнітафон культмасавічка, маладжавая і энергічная жанчына, прапанавала ўсім разам праспяваць беларускую народную песню. У зале было чалавек шэсцьдзесят, пераважна жанчын ва ўзросце, але яшчэ ў добрай, як кажуць, форме, памаладзелых у сваіх святочных строях і даволі актыўных у танцах. На прапанову масавіку яны адказалі маўчаннем — нібы і не чулі. Потым нехта з жанчын усё ж зацягнуў: "Ох, кто-то с горочки спустился...", чалавек дзесяць ці болей падхапілі і сяк-так спелі. Культмасавічка зноў прапанавала праспяваць беларускую песню, і яе зноў ніхто не падтрымаў. Аказалася — і не маглі падтрымаць. Сярод гэтых жанчын не было ніводнай вясковай жыхаркі. Усе яны прыехалі сюды з раённых цэнтраў Міншчыны, у сельскіх жыхароў увосень — работ восем, яму не да адпачынку. А менавіта ж у райцэнтрах найбольшы працэнт абывацеляў, у якіх, як пісаў нядаўна у "ЛіМе" Леанід Лыч, найбольш хліпенькая нацыянальная самасвядомасць, і менавіта там найбольш зрусіфікаваная інтэлігенцыя.

**Міхась ТЫЧЫНА**





ЗАСНАВАЛЬНІКІ

Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**

прыёмная рэдакцыі — 2848-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2848-525, 2847-985

**АДДЗЕЛЫ:**

публіцыстыкі — 2848-204
пісьмаў і грамадскай думкі — 2847-985
літаратурнага жыцця — 2848-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2847-985
паэзіі і прозы — 2848-204
музыкі — 2848-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2848-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2848-462
навін — 2848-462
мастацкага афармлення — 2848-204
фотакарэспандэнт — 2848-462
бухгалтэрыя — 2366-071





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 3631
Нумар падпісаны ў друк 8.10.1998 г. у 17.30.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 999

Заказ 5933/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12